# ГІСТОРЫЯ СЯРЭДНІХ ВЯКОЎ

Вучэбны дапаможнік для 6 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук,
прафесара В. А. Фядосіка

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

Мінск «Народная асвета» 2016

УДК 94(100)(075.3=161.3)
ББК 63.3(0)3я721
Г90

А ў т а р ы:
В. А. Фядосік, С. М. Цемушаў, З. Я. Вінаградава,
І. А. Еўтухоў, А. А. Яноўскі, А. А. Прохараў

Р э ц э н з е н т ы:
кафедра ўсеагульнай гісторыі і методыкі выкладання гісторыі ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» (кандыдат гіст. навук, дацэнт *С. П. Шупляк*); настаўнік гісторыі і грамадазнаўства кваліфікацыйнай катэгорыі «настаўнік-метадыст» дзярж. установы адукацыі «Гімназія № 1 г. Салігорска» *В. Г. Жураўлевіч*; д-р гіст. навук, праф. каф. міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта *М. Э. Часноўскі*; настаўнік гісторыі вышэйшай катэгорыі дзярж. установы адукацыі «Гімназія № 56 г. Мінска» *П. М. Гламбоцкі*

## Умоўныя абазначэнні:

 Успомніце.

 Гістарычны дакумент.

 Гістарычная даведка.

 Гэта цікава.

 Пытанні і заданні.

 Вучэбныя тэксты («Гісторыя Сярэдніх вякоў. V—XIII стст. 6 клас. Хрэстаматыя», «Гісторыя Сярэдніх вякоў. XIV—XV стст. 7 клас. Хрэстаматыя»).

 Работа з картамі вучэбнага дапаможніка.

 Тэма самастойнага даследавання. Знайсці інфармацыю вы можаце з дапамогай інтэрнэт-рэсурсаў, дзіцячых электронных энцыклапедый і гістарычных даведнікаў, матэрыялаў школьных бібліятэк.


Слоўнік

Інтэрактыўныя заданні (Электронны рэсурс «Гісторыя Сярэдніх вякоў. 6 клас», размешчаны на нацыянальным адукацыйным партале http: //e-vedy.adu.by).

ISBN 978-985-03-2656-0

## Ад аўтараў

Дарагія вучні!

Вы пачынаеце вывучэнне наступнай за Старажытнасцю эпохі сусветнай гісторыі, якую называюць Сярэднімі вякамі.

З дапамогай зместу ў канцы вучэбнага дапаможніка вы зможаце хутка арыентавацца ў вывучаемым матэрыяле і знаходзіць патрэбныя раздзел, тэму, параграф. Тэкст кожнага параграфа падраздзяляецца на асноўны і дадатковы. Асноўны ўключае матэрыял, абавязковы для вывучэння і засваення. Асобым шрыфтам выдзелены новыя словы: важнейшыя — ***паўтлустым курсівам***, астатнія — *курсівам*. Умоўныя абазначэнні дапамогуць арыентавацца ў выкарыстанні разнастайных крыніц гістарычнай інфармацыі. Табліца «Асноўныя падзеі гісторыі Сярэдніх вякоў» у канцы вучэбнага дапаможніка дапаможа запомніць найбольш значныя падзеі і параўнаць іх адну з другой. Карты дадуць магчымасць вызначыць месца гістарычных падзей, тэрыторыі сярэдневяковых дзяржаў. Яркія і маляўнічыя ілюстрацыі дапоўняць расказ пра мінулае.

Як бачыце, нічога складанага ў рабоце з вучэбным дапаможнікам няма. Таму смела адгортвайце наступную старонку і падарожнічайце па захапляючым свеце Сярэдневякоўя, ці інакш Сярэднявечча.

У добры шлях!

# Уводзіны ў свет Сярэдневякоўя

?! Назавіце дасягненні Старажытнага Усходу і антычнасці.

**1. Што такое Сярэднія вякі?** Гісторыкі падраздзяляюць сусветную гісторыю на эпохі: Старажытнасць, Сярэдневякоўе, Новы час і Навейшы час.

У 5-м класе вы вывучалі самую працяглую эпоху сусветнай гісторыі — гісторыю ***Старажытнага свету***. Вам стала вядома, як паступова асноўнымі заняткамі людзей зрабіліся земляробства, жывёлагадоўля, рамяство і гандаль. Вы даведаліся, як затым выраслі прыгожыя гарады, з'явілася пісьменства, узніклі першыя дзяржавы. *(Падумайце, па якіх прыметах мы вызначаем, што на Старажытным Усходзе, у Старажытнай Грэцыі і Старажытным Рыме існавалі цывілізацыі.)*

У 6-м класе вы пазнаёміцеся з гісторыяй **Сярэдніх вякоў**, або **Сярэдневякоўем**. Яна вывучае гісторыю цывілізацый з канца V да канца XV ст. У гэты час працягвалі развівацца вялікія цывілізацыі, якія ўзніклі ў Старажытнасці, і з'явіліся новыя. Але ў Сярэднія вякі не ўсе народы стваралі свае гарады, пісьменнасць, дзяржавы. Каля граніц цывілізацый рассцілаўся свет паляўнічых і качэўнікаў.



Замак Алькасар. *XIII ст. Іспанія*

Розум і праца людзей Сярэдневякоўя многае змянілі ў свеце. Людзі сталі выкарыстоўваць механічныя гадзіннікі, компас, люстры і акуляры са шкла. З'явіліся гарматы і ружжы, новыя плугі для ўзворвання зямлі. Менавіта тады былі асвоены неабсяжныя лясныя прасторы, на месцах якіх узніклі новыя вёскі і гарады.

У пачатку Сярэдневякоўя тры чвэрці Еўропы было пакрыта лясамі. А ў XV ст. — ужо толькі палавіна.

У Сярэдневякоўі ўзнікла мноства дзяржаў, якія існуюць і цяпер, у тым ліку і славян, сярод якіх былі і нашы продкі. Сфарміраваліся многія сучасныя народы са сваімі асаблівымі мовамі і культурамі.

Сярэднія вякі былі часам працалюбівых сялян і ўмелых рамеснікаў, цудоўных дам і высакародных воінаў, якія натхнялі паэтаў і мастакоў.

У Сярэднія вякі будаваліся велічныя саборы, адбываліся грандыёзныя адкрыцці. Нават з'яўленнем гэтай кнігі мы ў многім абавязаны Сярэдневякоўю. Бо менавіта тады было вынайдзена *кнігадрукаванне*.

**2. Тры ўзросты Сярэдневякоўя.** Эпоха Сярэдневякоўя намнога карацейшая за эпоху Старажытнага свету, але ўсё ж займае цэлае тысячагоддзе. У гэты час у жыцці людзей адбываліся важныя перамены. Каб лепш вывучыць і зразумець іх, гісторыкі выдзяляюць у Сярэдневякоўі тры перыяды, якія часам параўноўваюць з перыядамі жыцця чалавека — маладосцю, сталасцю і старасцю.

Першы перыяд называюць ***Раннім сярэдневякоўем***. Ён доўжыўся з канца V па канец IX ст. У гэты час закладваліся асновы сярэдневяковых цывілізацый. Другі перыяд называюць ***Высокім сярэдневякоўем***. Гэта этап пад'ёму, росквіту цывілізацый. Апошні перыяд — ***Позняе сярэдневякоўе*** — доўжыўся з XIV па XV ст. Ён завяршыўся наступленнем эпохі, якая прыйшла яму на змену, — ***Новым часам***.




Стужка часу. *Вызначыце працягласць перыядаў Сярэдневякоўя*

**3. Адкуль мы даведваемся аб Сярэдневякоўі?** Сярэдневякоўе пакінула значна больш сведчанняў аб сабе, чым Старажытнасць.

Усё тое, што было створана людзьмі мінулага і захавалася да нашых дзён, вучоныя называюць гістарычнымі крыніцамі. Па разнастайных звестках з крыніц гісторыкі аднаўляюць мінулае і вывучаюць жыццё людзей таго часу. Крыніцы можна размеркаваць на групы. ***Рэчыўныя***: *будынкі, прылады працы, посуд, зброя, адзенне і ўпрыгожанні.* ***Пісьмовыя***: *законы, дакументы, літаратурныя сачыненні, біяграфіі, жыццеапісанні святых людзей, хронікі, летапісы, аналы.*



Шлем сярэдневяковага воіна



Залатая манета Ромула Аўгуста



Старонка рукапіснай кнігі

***Уявіце сябе даследчыкам гэтых крыніц. Якія звесткі вы можаце атрымаць з іх?***

Распаўсюджанымі сярэдневяковымі гістарычнымі сачыненнямі з'яўляліся хронікі. У іх аўтары, як правіла, раскрывалі гісторыю ўсяго вядомага свету.

У аналах і летапісах усе важнейшыя падзеі запісваліся па гадах. У іх можна прачытаць аб нашэсці саранчы, эпідэміі, зацьменні сонца, вайне, уступленні на прастол новага правіцеля, адкрыцці храма і г. д. Аб паўсядзённым жыцці простых людзей звычайна не ўпаміналася. Сярэдневяковыя аўтары лічылі: навошта апісваць тое, што вядома кожнаму? Аднак сучасныя гісторыкі імкнуцца запоўніць гэтыя прабелы.

У Сярэднія вякі былі запісаны многія народныя паданні, легенды, быліны. Яны таксама даюць гісторыкам каштоўныя звесткі аб мінулым.

Вывучаць гістарычныя крыніцы вельмі важна. Толькі так можна зразумець людзей мінулага, дакрануцца да жыцця тых, каго ўжо даўно няма. Бо яны былі не такімі, як мы. У іх былі іншыя адносіны ў грамадстве, сям'і. Яны па-іншаму ўяўлялі навакольны свет. Нямала ўчынкаў людзей Сярэдневякоўя ўяўляюцца нам, людзям XXI стагоддзя, незразумелымі, невытлумачальнымі. Але гісторыкі імкнуцца разгадаць думкі, імкненні, жаданні гэтых людзей. Для гэтага трэба ўмець працаваць з крыніцамі. Як гэта робіцца? Давайце вучыцца гэтаму і вывучаць мінулае разам!

✓ У Беларусі захаваліся пабудаваныя ў эпоху Сярэдневякоўя велічныя замкі і храмы. У музеях нашай краіны вы можаце ўбачыць выявы Ісуса Хрыста і святых, старажытныя манеты, прылады працы і зброю. Таксама там ёсць і кнігі ў прыгожых пераплётах, дзе пажаўцелыя ад часу старонкі аздоблены цікавымі малюнкамі.

**1.** Дапоўніце табліцу.

| Перыяды Сярэдневякоўя | Храналагічныя рамкі | Працягласць |
|---|---|---|
| ? | V—IX стст. | ? |
| Высокае сярэдневякоўе | ? | ? |
| ? | ? | 200 гадоў |

**2.** Да якіх перыядаў Сярэдневякоўя адносяцца першыя звесткі аб гарадах: Мінск — 1067 г., Масква — 1147 г., Рыга — 1201 г., Магдэбург — 805 г., Оксфард — 912 г.? Размясціце даты ўзнікнення гарадоў на лініі часу ў вашым сшытку. **3.** Што са створанага людзьмі ў эпоху Сярэдневякоўя лічыць часткай сучаснай сусветнай культуры? Дакажыце сваё меркаванне прыкладамі з тэксту.

Знайдзіце і прапануйце аднакласнікам інфармацыю аб вынаходніцтвах і адкрыццях, зробленых у Сярэдневякоўі.



Раздзел I

# ЗАХОДНЯЯ ЕЎРОПА І ВІЗАНТЫЯ

## Глава 1. РАННЯЕ СЯРЭДНЕВЯКОЎЕ (V—IX стст.)

### § 1. Заходняя Еўропа ў V—IX стст.: пачатак новай цывілізацыі

?! **1.** Што азначаюць паняцці: *варвары, племя, дзяржава, імператар?* **2.** Назавіце прычыны аслаблення Заходняй Рымскай імперыі.

Вялікі Рым, які здаваўся непераможным, паў пад націскам варварскіх народаў. Плямёны, якія не ведалі дзяржавы, гарадоў, а большасць і пісьменнасці, рассяліліся на абломках вялікай дзяржавы. Але на што яны здольны? Толькі разбураць ці ствараць новую цывілізацыю?

**1. Падзенне вялікай імперыі: гарады без людзей і апусцелыя палі.** У IV—VII стст. па ўсёй Еўропе адбывалася ***Вялікае перасяленне народаў*** — эпоха масавых перамяшчэнняў плямён на тэрыторыю Рымскай імперыі. Пад націскам качэўнікаў-*гунаў* мноства народаў рушылі з усходу на захад Еўропы. Усходняя Рымская імперыя змагла ўстаяць пад націскам варвараў. Але іх асноўны ўдар прыйшоўся на Заходнюю Рымскую імперыю. Там нашэсце варвараў прывяло да гібелі мноства людзей. Пасевы былі знішчаны, многія землі перасталі апрацоўвацца, і яны зараслі пустазеллем. Пачаліся голад і хваробы. Рымлянам здавалася, што набліжаецца канец свету, прадказаны ў Бібліі.



Германскі коннік. *Бронза. VI—VII стст.*




Вялікае перасяленне народаў

Заходняя Рымская імперыя пала пад націскам варвараў. Дата яе падзення — **476 г.** лічыцца канцом эпохі Старажытнага свету і пачаткам эпохі Сярэдневякоўя.

Варвары, якія прыйшлі, не разумелі, як і навошта жыць у гарадах. Заваёўнікі не хацелі сяліцца ў іх. Ва ўцалелых гарадах не хапала прадуктаў харчавання і сыравіны для рамяства. Каб выжыць і не памерці ад голаду, гараджане ішлі ў сельскую мясцовасць і там займаліся земляробствам. І мнагалюдныя гарады апусцелі. *(Дакажыце прыкладамі з тэксту, што нашэсце варвараў прывяло да заняпаду на захадзе Еўропы.)*



Ромул Аўгуст аддае знакі імператарскай улады правадыру варвараў. Але той адаслаў дыядэму і плашч у Канстанцінопаль.
*Малюнак XIX ст.*

*Чаму менавіта гэта падзея лічыцца канцом Заходняй Рымскай імперыі?*

**2. Змяненні ў грамадскім жыцці германцаў.** Самым шматлікім народам, які асеў на тэрыторыі Заходняй Рымскай імперыі, былі германцы.

Спачатку мясцовыя жыхары і заваёўнікі-германцы жылі асобна адзін ад другога. Германцы лічылі за лепшае сяліцца сваімі абшчынамі і займацца земляробствам, жывёлагадоўляй і паляваннем. Але пасля перасялення ў іх грамадстве сталі адбывацца хуткія змены. Правадыры і іх адданая апора — воіны-дружыннікі — станавіліся ўсё мацнейшымі. Яны ўзбагачаліся падчас войнаў, захоплівалі вялікія ўчасткі на лепшых землях. Выдзяляліся найбольш уплывовыя людзі — ***знаць***.

Для апрацоўкі сваіх зямель знаць прыцягвала збяднелых абшчыннікаў. Роўнасць знікла. Народны сход больш не выбіраў правадыроў. Іх улада стала спадчыннай. З'явілася ***манархія*** — *форма праўлення, пры якой вышэйшая ўлада ў краіне знаходзіцца ў руках аднаго чалавека і перадаецца ў спадчыну*. Правадыры сталі каралямі.

6, с. 6

**3. Варварскія каралеўствы: заваёўнікі і рымляне.** На працягу V ст. на тэрыторыі былой Заходняй Рымскай імперыі з'явілася шмат дзяржаў заваёўнікаў-германцаў. Вандалы стварылі каралеўства ў Паўночнай Афрыцы, вестготы —

у Іспаніі, остготы — у Італіі, франкі — у Галіі (Паўночная Францыя). Пазней англы і саксы стварылі свае каралеўствы ў Брытаніі. *(Знайдзіце названыя тэрыторыі на карце, с. 9. Адкуль вандалы прыбылі ў Рым і затым разрабавалі яго?)*

У варварскіх каралеўствах існавала мноства адрозненняў паміж германцамі і мясцовым рымскім насельніцтвам. Напрыклад, рымляне падпарадкоўваліся законам, прынятым яшчэ ў старажытнасці, германцы — звычаям сваіх плямён. Падаткі дзяржаве плацілі толькі рымляне. У арміі, наадварот, служылі толькі германцы.

Каралі хацелі сцерці розніцу паміж рымлянамі і германцамі. Паступова законы сталі агульнымі для ўсіх. І рымляне, і германцы з гэтага часу служылі ў арміі і плацілі падаткі.

Варварскія каралеўствы аказаліся нетрывалымі. Яны часта ваявалі адно з другім, і амаль усе загінулі пад ударамі заваёўнікаў. Доўгае жыццё было прызначана толькі каралеўству франкаў.

**4. Войны і заваяванні.** Самым магутным праціўнікам варварскіх каралеўстваў была Усходняя Рымская імперыя. Яна заставалася моцнай і багатай дзяржавай. Яе імператары разбілі каралеўства остготаў у Італіі і дзяржаву вандалаў у Паўночнай Афрыцы. Але ўтрымаць гэтыя ўладанні яны не змаглі.

У VIII ст. з Паўночнай Афрыкі ў Іспанію ўварваліся арабы і захапілі каралеўства вестготаў. Але далей у Еўропу яны прасунуцца не змаглі. Іх спынілі франкі.



Бітва пад Пуацье. 732 г.
*Карціна XIX ст.*

*Якую зброю выкарыстоўвалі франкскія і арабскія воіны?*



Місіянер перад каралём варвараў. *Карціна XIX ст.*

У канцы Ранняга сярэдневякоўя ў Еўропе супрацьстаялі адна другой дзве дзяржавы: дзяржава франкаў на захадзе і Усходняя Рымская імперыя на паўднёвым усходзе.

**5. Царква і распаўсюджанне хрысціянства.** Дзяржаўнай рэлігіяй у Рымскай імперыі з IV ст. стала хрысціянства. Імператары падтрымлівалі хрысціян і царкву. ***Царква*** — гэта згуртаванне веруючых у Хрыста са сваёй іерархіяй духавенства, абраднасцю і правіламі служэння Богу. Усе свяшчэннаслужыцелі царквы складалі асобы слой грамадства — *духавенства*. Вышэйшымі царкоўнымі кіраўнікамі сталі: на ўсходзе — патрыярхі Канстанцінопаля, Александрыі, Антыохіі, Іерусаліма, на захадзе — папа рымскі. Наступнымі паводле старшынства былі мітрапаліты, епіскапы.

Некаторыя шчырыя вернікі адыходзілі ад паўсядзённых жыццёвых клопатаў і жылі сумесна, абшчынамі — у *манастырах*. Там яны маліліся, разважалі аб вечным жыцці. Іх называлі *манахамі*. Манахі розных манастыроў жылі паводле сваіх правіл. На захадзе Еўропы яны ўтваралі аб'яднанні — *ордэны*.

Хрысціянскія прапаведнікі — *місіянеры* самаахвяравана прапаведавалі сваю веру сярод язычнікаў. Дзякуючы гэтаму многія варварскія народы прынялі хрысціянства.

Хрысціянства вучыла людзей з дабром і любоўю адносіцца да іншага чалавека. Ісус Хрыстос сказаў: «Ва ўсім, як хочаце, каб з вамі абыходзіліся людзі, так і вы абыходзьцеся з імі».

Правадыры і правіцелі варвараў разумелі выгаду прыняцця новай веры. З дапамогай падтрымкі хрысціянскай царквы яны ўмацоўвалі сваю ўладу. Адзіная вера дапамагала ліквідаваць адрозненні паміж плямёнамі, аб'ядноўваць насельніцтва ў адзін народ. Акрамя таго, свяшчэннікі былі адукаванымі людзьмі, маглі дапамагчы правільна напісаць дакументы або законы. Бо большасць людзей, і нават каралі, не ўмела чытаць і пісаць. На працягу Ранняга сярэдневякоўя хрысціянства прыняла большасць народаў Еўропы.

? **1.** Чаму варварскія каралеўствы ўтварыліся на тэрыторыі Заходняй, а не Усходняй Рымскай імперыі? **2.** Што змянілася ў грамадскім жыцці германцаў пасля нашэсця на Заходнюю Рымскую імперыю? **3.** Дакажыце, што пасля падзення Заходняй Рымскай імперыі на захадзе Еўропы паступова пачала фарміравацца новая цывілізацыя. **4.** Якую ролю адыгрывала хрысціянская царква ў варварскіх каралеўствах? **5.** Пачніце складанне гістарычнага слоўніка. Запішыце ў сшытак азначэнні паняццяў: *знаць, манархія, варварскія каралеўствы, царква.*


Слоўнік

## § 2. Дзяржава франкаў: ад каралеўства — да імперыі

?! Што азначаюць паняцці: *закон, царква, папа рымскі?*

Калі рушылася Заходняя Рымская імперыя, хто мог прадбачыць, што новую імперыю на захадзе Еўропы створаць франкі? Яны жылі на далёкіх паўночных рубяжах і нават хрысціянства прынялі пазней за многія іншыя варварскія народы. Дык як жа франкам удалося стварыць не толькі новую вялікую дзяржаву, але і новае грамадства з новымі адносінамі паміж людзьмі?

**1. Хлодвіг — кароль франкаў.** Яшчэ ў III ст. германскія плямёны франкаў, якія жылі ў нізоўях ракі Рэйн, сталі нападаць на Рымскую імперыю. У канцы V ст. іх правадыр ***Хлодвіг*** з роду Меравея захапіў паўночную частку Галіі.


6, с. 14



Хрышчэнне Хлодвіга. *Карціна XIX ст.*

Удача спадарожнічала яму і ў далейшым. Ён перамог іншых германскіх праваўдыроў і значна пашырыў свае ўладанні. Хлодвіг прыняў хрысціянства і абвясціў сябе каралём, стаўшы заснавальнікам дзяржавы і першай франкскай дынастыі *Меравінгаў*. (***Дынастыя*** *— шэраг паслядоўна правячых манархаў з аднаго і таго ж роду.)*

Паводле прыкладу караля хрысціліся многія франкі. Цяпер яны былі адной веры з рымскім насельніцтвам, якое пакарылі.

Кароль уважліва слухаў расказ епіскапа аб хрысціянскай веры. Калі свяшчэннік дайшоў да апісання пакут Хрыста, кароль нечакана ўсклікнуў: «Калі б я быў там са сваімі франкамі, я б адпомсціў за яго!»

*Падумайце, як гэтыя словы характарызуюць Хлодвіга. Ці можна лічыць, што ён зразумеў хрысціянскае вучэнне?*

Хлодвіг змог умацаваць сваю ўладу і перадаць яе сынам. Яго дынастыя правіла да VIII ст., калі на змену ёй прыйшла новая дынастыя *Каралінгаў*.

**2. Адносіны ў грамадстве: хто ад каго залежаў?** У дзяржаве франкаў галоўнымі адносінамі паміж людзьмі сталі адносіны панавання і залежнасці. За воінскую службу і заслугі кароль дараваў воінам зямельныя ўладанні разам з насельніцтвам, якое там пражывала. Гэтыя землі даваліся ў пажыццёвае карыстанне і называліся ***бенефіцыем***. Кароль мог забраць падараваныя ўладанні, таму ўладальнікі бенефіцыяў залежалі ад караля.

На каралеўскіх і раздадзеных воінам землях жылі свабодныя земляробы — сяляне. Але паступова ўсе яны трапілі ў залежнасць. Землі адных былі захоплены сілай. Землі другіх былі падараваны новым гаспадарам у выніку дарэння. Трэція разараліся і павінны былі шукаць заступніцтва ў буйнога землеўладальніка.

У выніку селянін губляў права распараджацца зямлёй, але па-ранейшаму працаваў на ёй, каб пракарміць сябе і сваю сям’ю. За гэта ён аддаваў частку сабранага ім ураджаю ўласніку зямлі. Такая залежнасць называецца *пазямельнай*. Больш цяжкай формай залежнасці была *асабістая*. У гэтым выпадку селянін губляў не толькі зямлю, але і свабоду. Пан судзіў і распараджаўся яго асабістым жыццём. Так сяляне сталі *залежнымі*.

Паступова ў дзяржаве франкаў складваліся адносіны пазямельнай і асабістай залежнасці. У залежнасць ад землеўладальніка траплялі не толькі сяляне. Уладальнікі бенефіцыяў знаходзіліся ў пазямельнай залежнасці ад караля. Яны таксама былі і асабіста залежнымі ад яго. Іх абавязкамі былі ваенная служба і выкананне загадаў караля.

**3. Нараджэнне новай імперыі.** У другой палавіне VIII ст. улада франкскіх каралёў значна ўмацавалася. У час праўлення ***Карла Вялікага*** (768—814) дзяржава франкаў дасягнула найбольшай магутнасці. Гэты кароль амаль усё жыццё правёў у войнах, здзейсніў мноства паходаў і пашырыў тэрыторыю сваёй дзяржавы ў два разы. Цяпер амаль уся Заходняя Еўропа ўваходзіла ў склад Франкскай дзяржавы.



Конная статуэтка Карла Вялікага. *X ст.*



6, с. 21







Утварэнне Франкскай дзяржавы

Стаўшы правіцелем вялікай дзяржавы, Карл вырашыў афіцыйна замацаваць сваю рэальную магутнасць. У **800 г.** ён прыняў тытул імператара. Так узнікла ***Франкская імперыя***.

Пасля абвяшчэння імперыі Карл амаль не ваяваў. Ён пабудаваў палац у горадзе Ахене і заняўся ўнутранымі справамі дзяржавы. Карл уважліва выслухоўваў парады, але прымаў рашэнні самастойна. Яго ўказы з'яўляліся для ўсіх абавязковымі. Імператар асабіста назначаў усіх кіраўнікоў на ўсёй тэрыторыі дзяржавы. Кожнай вобласцю вялікай краіны кіраваў даверany чалавек караля — *граф*. Графы збіралі падаткі, судзілі, камандавалі мясцовым апалчэннем.

Карл быў высокім і моцным чалавекам, спрытным паляўнічым і ўмелым воінам. Часам дзеля пацехі ён адной рукой падымаў узброенага воіна. Для свайго часу Карл Вялікі быў вельмі адукаваным чалавекам. Ён вывучаў розныя навукі, у тым ліку матэматыку і астраномію. Карл добра размаўляў не толькі на роднай мове, але і на лацінскай, разумеў грэчаскую. Але, навучыўшыся чытаць, ён так і не навучыўся добра пісаць. Яго моцная рука магла вывесці толькі некалькі літар свайго імені.

Пры Карле Вялікім дзяржаўная ўлада ўмацавалася. Аднак пасля яго смерці цэласная дзяржава праіснавала

нядоўга. У **843 г.** у горадзе *Вердэне* ўнукі Карла Вялікага падпісалі дагавор аб раздзеле дзяржавы на тры часткі. На гэтых землях пазней узніклі дзяржавы *Францыя, Германія, Італія*. *(Колькі гадоў праіснавала імперыя, створаная Карлам Вялікім?)*

**4. Саюз дзяржавы і царквы.** Значэнне царквы ў грамадстве ўзрастала. Паступова хрысціянская вера стала глыбока пранікаць у чалавечыя сэрцы. Людзей турбавала тое, якімі яны паўстануць перад Богам, куды трапяць іх душы — у рай ці пекла. У разуменні простых людзей вера складалася з добрых учынкаў і нядопуску грахоў.

Наведваючы храм, простыя людзі глыбока верылі, што малітвы свяшчэннікаў дапамагаюць ім у выратаванні душы.

У Франкскай дзяржаве склаўся цесны саюз дзяржавы і царквы. Дзякуючы яму рымскія па́пы ўстанавілі сваё ўладаранне над хрысціянскай царквой усёй Заходняй Еўропы. Каралі абаранялі царкву і шчодра даравалі ёй землі. У сярэдзіне VIII ст. пад уладу пап была перададзена Сярэдняя Італія. Паводле каралеўскіх указаў кожны веруючы чалавек абавязаны быў аддаваць царкве дзясятую частку сваіх даходаў — *дзесяціну*.

У Раннім сярэдневякоўі дзяржава франкаў стала другой па магутнасці ў Еўропе. Яе правіцелі лічылі сябе роўнымі з імператарамі Візантыі.



Імператарская каранацыя Карла Вялікага Папам Рымскім Львом III. *Мініяцюра XIV ст.*

*Чаму Карл Вялікі палічыў неабходным прыняць тытул імператара?*

**З хартыі Карла Вялікага аб раздзеле каралеўства (806 г.)**

Усім вам вядома, што Божая міласць даравала нам трох сыноў. Мы не хочам перадаць ім гэта каралеўства нераздзеленым як прадмет для сутыкненняў. Але мы дзелім усё каралеўства на тры часткі, назначаючы кожнаму тую, якой ён павінен кіраваць і якую будзе абараняць.

*Як Карл тлумачыў раздзел сваёй дзяржавы? Ці раздзялілася яна ў 814 г., калі ў жывых застаўся толькі адзін яго сын?*

? **1.** Складзіце план адказу «Стварэнне Франкскай дзяржавы». **2.** Выкарыстоўваючы тэкст параграфа, раскажыце, чаму і як селянін мог страціць зямлю і свабоду. **3.** Якія дасягненні Хлодвіга і Карла Вялікага вы лічыце найбольш значнымі? Чаму? **4.** Вызначыце галоўныя адрозненні Франкскай імперыі ад Рымскай. **5.** Запішыце ў гістарычны слоўнік азначэнні паняццяў: *дынастыя, бенефіцый, пазямельная залежнасць, асабістая залежнасць.*


Слоўнік

## § 3. Візантыйская імперыя: наследніца велічы Рыма

?! **1.** Калі Рымская імперыя была раздзелена на Заходнюю і Усходнюю? **2.** Што азначаюць паняцці: *імперыя, імператар, чыноўнік?*

Усходняя Рымская імперыя ўцалела ў эпоху Вялікага перасялення народаў. Больш таго, яна імкнулася павялічыць сваю магутнасць. Адкуль жа яна чэрпала сваю сілу?

**1. Дзяржава рамеяў.** Пасля гібелі Заходняй Рымскай імперыі апошняй крэпасцю еўрапейскай цывілізацыі заставалася толькі Усходняя Рымская імперыя. Магутныя сцены яе гарадоў, сіла арміі і мудрасць правіцеляў сталі перашкодай, праз якую не змаглі прабіцца плямёны варвараў. У Сярэднія вякі Усходнюю Рымскую імперыю сталі назы-

ваць ***Візантыяй***. Візантыйцы лічылі сябе пераемнікамі велічы Старажытнага Рыма.

Назва «Візанты́я» паходзіць ад Віза́нтыя — старажытнагрэчаскага горада на беразе Басфорскага праліва, дзе ў 330 г. імператар Канстанцін заснаваў новую сталіцу. Яе сталі называць Канстанцінопалем — «горадам Канстанціна». Жыхары называлі сваю дзяржаву па-грэчаску «Рамейскай» (Рымскай), а сябе — «рамеямі».

Візантыю насялялі многія народы. Але больш за усё было грэкаў. Паступова грэчаская мова стала самай распаўсюджанай.




▲ Візантыйская імперыя ў Раннім сярэдневякоўі



*У якіх частках свету знаходзіліся ўладанні Візантыі ў перыяд яе магутнасці? Якія вядомыя вам гарады знаходзіліся на яе тэрыторыі?*

**2. Асаблівасці развіцця Візантыі.** У Раннім сярэдневякоўі гаспадарчае развіццё Візантыі знаходзілася на пад'ёме. Урадлівыя землі давалі высокія ўраджаі. У некаторых раёнах дзякуючы цёпламу клімату іх здымалі два-тры разы



Від Канстанцінопаля. *Макет*

на год. У адрозненне ад Заходняй Еўропы ў Візантыі пераважывалі росквіт гарады. У іх былі развіты разнастайныя рамёствы.

Самым буйным і прыгожым горадам быў Канстанцінопаль. Ён імкліва рос і багацеў, паколькі знаходзіўся на перакрыжаванні важнейшых гандлёвых шляхоў. Адзін з іх праходзіў з Балтыйскага мора ў Чорнае і Міжземнае і называўся *«з варагаў у грэкі»*. Другі шлях ішоў праз усю Азію і быў вядомы як *Вялікі шаўковы шлях*. Купцы з халоднай Скандынавіі, лясістай Русі, загадкавай Індыі, далёкага Кітая, гарачай Аравіі называлі Канстанцінопаль «залатым мостам», «царскім горадам», «майстэрняй сусветнай».

**3. Імператар Юстыніян.** Улада імператара Візантыі была вялікай. Ён з’яўляўся вярхоўным суддзёй, назначаў вышэйшых чыноўнікаў, усіх военачальнікаў і паслоў. Імператар кіраваў дзяржавай, абапіраючыся на чыноўнікаў. Чыноўнікі сталіцы кіравалі чыноўнікамі на месцах. Імператар аддаваў загады военачальнікам, якія кіравалі наёмнай арміяй і моцным флотам. Такое кіраванне называецца *цэнтралізаваным*. *(Складзіце схему кіравання Візантыйскай імперыяй.)*

Імператар і яго акружэнне, чыноўнікі, армія і флот утрымліваліся за кошт падаткаў з сялян, рамеснікаў і купцоў. Пануючай рэлігіяй у дзяржаве з’яўлялася хрысціянства. Вышэйшай духоўнай асобай царквы ў Візантыі быў патрыярх Канстанцінопаля.



Імператар Юстыніян. *Мазаіка ў Равене. VI ст.*



Імператрыца Феадора. *Мазаіка ў Равене. VI ст.*

Найбольшай магутнасці Візантыйская імперыя дасягнула пры імператару ***Юстыніяне*** **(527—565).** Яго вылучалі вялікі розум і моцны характар. Стаўшы імператарам, ён загадаў сабраць і перапрацаваць рымскія і візантыйскія законы. Зборнік атрымаў назву «Кодэкс Юстыніяна». Законы «Кодэкса» абаранялі жыццё людзей, рэгулявалі іх адносіны.

Юстыніян імкнуўся да аднаўлення Рымскай імперыі, да знішчэння варварскіх каралеўстваў на захадзе. У выніку паспяховых войнаў тэрыторыя Візантыі павялічылася ўдвая.



6, с. 26

Росквіт магутнасці Візантыі быў нядоўгім. Пераемнікам Юстыніяна не ўдалося ўмацаваць уладу і супрацьстаяць нашэсцям заваёўнікаў. Арабам нават удалося захапіць горад Іерусалім, дзе знаходзілася хрысціянская святыня — гроб Хрыстоў. Бесперапынныя войны прывялі імперыю да аслаблення.

**4. Візантыя — цэнтр высокай культуры.** Веды ў Візантыі лічыліся вялікай каштоўнасцю. Адукацыя давала магчымасць заняць высокае становішча ў грамадстве.

Існавала некалькі тыпаў школ. Бацькі адпраўлялі дзяцей у 6—9 гадоў у пачатковыя школы. Тут яны тры гады навучаліся чытанню, пісьму, лічэнню, спевам. Тыя, хто марыў стаць чыноўнікам, паступалі ў школы граматыкаў. Тут вучылі тонкасці маўлення, прыгожаму і пісьменнаму напісанню слоў. Вышэйшыя школы рыхтавалі чыноўнікаў высокага рангу.

*Чаму так цаніліся веды ў Візантыі?*



Грэчаскі агонь. *Мініяцюра XI ст.*

Візантыйская навука не ведала сабе роўных у Еўропе. Візантыйскія вучоныя дасягнулі выдатных поспехаў у матэматыцы, геаграфіі, астраноміі, медыцыне і многіх іншых навуках.

У Візантыі вельмі паважалі сваю гісторыю. Самым вядомым гісторыкам быў ***Пракопій Кесарыйскі*** (VI ст.). У сваіх працах ён апісваў ваенныя паходы і перамогі Юстыніяна.

Вучоныя, майстры і вынаходнікі не раз ратавалі гарады Візантыі ад нашэсцяў. У VII ст., калі ворагі зноў напалі на краіну, архітэктар ***Калінік Сірыйскі*** адкрыў сакрэт грэчаскага агню. Струмені полымя, якое не гасла нават у вадзе, прымусілі непрыяцеля бегчы ў паніцы.

Грэчаскім агнём называлі лёгкую на загаранне вадкасць, якую сціснутым паветрам выкідвалі са спецыяльных медных труб. Яе выкарыстоўвалі ў бітвах, пры абароне і асадзе крэпасцей і гарадоў. Састаў і спосаб прыгатавання захоўваўся ў глыбокай тайне. Сучасныя вучоныя лічаць, што гэтая вадкасць складалася з нафты, смол і іншых гаручых рэчываў.

**5. Архітэктура і жывапіс.** У Візантыі, як і ў старажытнасці, будаваліся велічныя будынкі і храмы, шырокія плошчы гарадоў былі ўпрыгожаны статуямі і фантанамі. Архітэктура і жывапіс, музыка і літаратура праслаўлялі дзеянні Бога і правіцеляў Візантыі.



Храм Святой Сафіі. *Макет*

Вышэйшым дасягненнем візантыйскай архітэктуры з'яўляецца храм Святой Сафіі (Прамудрасці Божай) у Канстанцінопалі. Асабліва ўражвалі ўнутранае ўбранства храма і яго, быццам лунаючы ў патоках сонечнага святла, купал.



Імператар Юстыніян са світай. *Мазаіка ў Равене. VI ст.*

Архітэктары Візантыі клапаціліся аб прыгажосці ўнутраных памяшканняў. Сцены і скляпенні палацаў і храмаў упрыгожвалі *мазаікі* (выява або ўзор, выкананыя з каляровых каменьчыкаў, непразрыстага шкла і іншых матэрыялаў) і *фрэскі* (шматкаляровыя роспісы фарбамі па сырым тынку).



Ікона «Хрыстос Уседзяржыцель». *VI ст.*

На самым ганаровым месцы ў храмах знаходзіліся *іконы* — выявы Ісуса Хрыста або святых, якія служылі прадметам рэлігійнага пакланення.

Жывапісцы стараліся паказаць веліч Хрыста, Багародзіцы, святых. Яны размяшчалі фігуры на залатым або блакітным фоне і паказвалі іх плоскімі. Уся ўвага вернікаў была прыкавана да твараў. Выразныя, быццам жывыя, вочы, здавалася, углядваліся ў веруючых. Створаныя такім чынам выявы здаюцца асабліва пранікнёнымі.

У перыяд Ранняга сярэдневякоўя Візантыя была самай развітой краінай Еўропы. Яе культура аказала вялікі ўплыў на Заходнюю Еўропу і суседнія з ёй славянскія краіны.

? **1.** Чаму візантыйцы лічылі сябе наследнікамі велічы Старажытнага Рыма? **2.** Як называліся і дзе праходзілі важнейшыя для Візантыі гандлёвыя шляхі? **3.** Растлумачце, чаму Візантыя змагла адбіць нападзенні заваёўнікаў. **4.** Якое з дасягненняў імператара Юстыніяна вы лічыце галоўным? Чаму? **5.** Складзіце план адказу «Візантыйская культура». Якія дасягненні візантыйскай культуры ўвайшлі ў сусветную культуру? **6.** Дапоўніце гістарычны слоўнік паняццямі: *мазаіка, фрэска, ікона.*

Слоўнік

# Глава 2. ВЫСОКАЕ СЯРЭДНЕВЯКОЎЕ (X—XIII стст.)

## § 4. Феадальны лад у Заходняй Еўропе X—XIII стст.

?! **1.** Як свабодныя сяляне станавіліся залежнымі? **2.** Што азначае паняцце *бенефіцый*?

У Высокім сярэдневякоўі ў Заходняй Еўропе склаліся такія адносіны паміж людзьмі, якіх чалавецтва яшчэ не ведала. З'явіліся сеньёры, васалы, сяляне сталі залежнымі ад феадалаў. Дзяржавы сталі «раздробленымі». Навошта тады патрэбны каралі? Разабрацца ў такіх незразумелых нам адносінах здаецца складана. Але толькі, калі не ведаць, што ў іх аснове — правы на валоданне зямлёй.

**1. Феадалы: сеньёры і васалы.** У пачатку Высокага сярэдневякоўя ўладальнікі бенефіцыяў дабіліся права перадачы зямель у спадчыну сваім сынам. Так бенефіцый ператвараўся ў ***феод*** — зямельнае ўладанне, якое давалася за службу і перадавалася ў спадчыну. Іх уладальнікаў называлі ***феадаламі***.




Феадалы і сяляне

Феадал збіраў падаткі і судзіў жыхароў свайго ўладання, набіраў войска. Буйныя феадалы перадавалі частку сваіх зямельных уладанняў сярэднім феадалам у якасці феода. Тыя ў сваю чаргу маглі перадаць частку атрыманай зямлі дробным феадалам.

Феадал, які даваў феод, лічыўся ***сеньёрам***, а той, хто



Клятва васала.
*Сярэдневяковая мініяцюра*

*Па якіх прыметах вы можаце вызначыць, хто — сеньёр, а хто — васал?*

*Прывядзіце прыклады, калі феадал мог быць адначасова і сеньёрам і васалам.*

атрымліваў яго, — ***васалам***. Падпарадкоўваўся васал толькі свайму сеньёру, і гэта замацоўвалася клятвай. Ён мог не падпарадкавацца сеньёру свайго сеньёра. Гэта было замацавана словамі: «Васал майго васала — не мой васал».

Клятва васала сеньёру праходзіла ўрачыста і пры сведках. Васал станавіўся на калені і ўкладваў свае рукі ў рукі гаспадара. Затым ён прамаўляў словы клятвы: «Клянуся на гэтым святым Евангеллі, што з гэтага часу і надалей я і мае патомкі будуць табе вернымі слугамі, як павінны быць вернымі васалы свайму сеньёру!» З рук сеньёра васал атрымліваў меч і грамату з апісаннем граніц яго феода. А калі яму ўрачыста павязвалі пояс з мячом, то ён станавіўся рыцарам. (***Рыцар***— феадал, цяжка ўзброены конны воін.)


6, с. 49

Адносіны паміж феадаламі можна ўявіць у выглядзе іерархіі або *феадальнай лесвіцы* — паслядоўнага падпарадкавання феадалаў. Кожны васал знаходзіўся ў пазямельнай і асабістай залежнасці ад свайго сеньёра. Ад сеньёра ён атрымліваў зямлю. А галоўным яго абавязкам была ваенная служба ў свайго сеньёра. Паводле першага загаду васал павінен быў з'явіцца да сеньёра ў поўным узбраенні.

**2. Феадалы і сяляне.** Да X ст. феадалы паступова захапілі ўсю прыгодную для апрацоўкі зямлю. Яны далучалі да сваіх уладанняў сялянскія палі, лясы, лугі, рэкі. Так узнікла прыказка: «Няма зямлі без пана». Землі адной мясцовасці, якія належаць феадалу, складалі яго *феадальны маёнтак*. Зямля



Праца сялян на феадала. *Сярэдневяковая мініяцюра*

ў ім дзялілася на дзве няроўныя часткі. Большая частка — гэта *панскія палі*, ураджай з якіх ішоў непасрэдна ў свірны феадала. Меншая частка — *сялянскія надзелы*, ураджай з якіх атрымлівалі сяляне. За выкарыстанне надзелаў сяляне выконвалі для феадалаў розныя работы. Гэтыя прымусовыя абавязкі называліся ***павіннасцямі***.

Феадал меў вялікія правы ў сваім маёнтку. Ён збіраў з сялян *аброк* прадуктамі і вырабамі рамяства. Застаўляў апрацоўваць свае палі і выконваць для яго іншыя работы ў маёнтку — гэта называлася *паншчынай*.

Сяляне вырошчвалі і ўбіралі ўраджай з панскіх палёў, даглядалі свойскіх жывёл і птушак свайго гаспадара. Акрамя таго, яны будавалі і рамантавалі замкі, масты, дарогі, чысцілі крыніцы і каналы, лавілі рыбу і збіралі ў лесе грыбы і ягады. Сяляне абавязаны былі аддаваць феадалу частку прадуктаў і рэчаў, выраблених на сваіх надзелах і дома: збожжа, масла, мёд, пражу, палатно, адзенне, абутак, вырабы са скуры, прылады працы.

*Вызначыце, што з гэтага пераліку адносілася да паншчыны, а што — да аброку.*

Феадал мог судзіць сялян, караць і накладваць на іх штрафы. Залежнасць сялян ад феадалаў, як пазямельная, так і асабістая, называецца ***феадальнай залежнасцю***.

Галоўным, што вызначала адносіны паміж людзьмі ў сярэдневяковым еўрапейскім грамадстве, з'яўлялася ўласнасць на зямлю. ***Феадалізм*** *— гэта адносіны пазямельнай і асабістай залежнасці паміж людзьмі, асновай якіх з'яўляецца ўласнасць на зямлю.*

**3. Натуральная гаспадарка: чаму не развіваецца гандаль?** У пачатку Высокага сярэдневякоўя ўсё неабходнае для жыцця выраблялася ў кожным феадальным уладанні. Сяляне забяспечвалі прадуктамі сельскай гаспадаркі і вырабамі рамяства сябе і свайго пана. А каму прадаць, калі ў суседзяў вырабляюць тое самае? Таму сфарміравалася ***натуральная гаспадарка***, пры якой прадукты працы вырабляліся для задавальнення ўласных патрэб, а не для продажу. Феадальнае ўладанне не залежала ад вытворчасці прадукцыі ў іншых уладаннях. Таму натуральная гаспадарка стала асновай для феадальнай раздробленасці.

Натуральная гаспадарка панавала ў Еўропе на працягу Высокага сярэдневякоўя. Вядома, людзі ўсё ж былі выму-

шаны купляць або абменьваць некаторыя тавары. Напрыклад, соль і жалеза, якія здабываліся далёка і не ўсюды. Феадалы хацелі купляць каштоўныя ўпрыгожанні, шаўковыя тканіны, дарагую зброю і пародзістых коней. Але такія пакупкі праводзіліся нячаста.

**4. Феадальная раздробленасць: сіла феадалаў і слабасць каралёў.** Маёнткі феадалаў забяспечвалі сябе амаль усім неабходным. Краіна складалася з мноства нязвязаных паміж сабой гаспадарак. Раздаючы землі і прывілеі, правіцелі паступова гублялі ўладу. Яны распараджаліся толькі ўласнымі землямі. У каралёў не было пастаяннай арміі. Цяпер буйныя феадалы называлі караля ўсяго толькі «першым сярод роўных».

Астатняя зямля знаходзілася ў феадалаў, якім падпарадкоўвалася насельніцтва іх уладанняў. Яны самі кіравалі залежным ад іх насельніцтвам. Буйныя феадалы мелі свае войска з васалаў. Яны маглі нападаць на суседнія краіны або нават ваяваць са сваім каралём. Паміж феадаламі часта ўзнікалі спрэчкі за землі, правы. Гэта прыводзіла да жорсткіх войнаў паміж імі. Такія войны называюць *міжусобнымі*. Сапраўдныя іх мэты былі грабежніцкімі.

Рыцары ў баі.
*Сярэдневяковая мініяцюра*



*Вызначыце, якія даспехі і зброя былі ў рыцараў. Як вы думаеце, чаму менавіта конніца была ў тыя часы галоўнай ударнай сілай у бітвах?*

У пачатку Высокага сярэдневякоўя вялікія дзяржавы Заходняй Еўропы фактычна распаліся на шэраг сярэдніх і дробных уладанняў феадалаў. Пачаўся перыяд ***феадальнай раздробленасці***. Яе асноўнымі прычынамі былі пераход ад бенефіцыя да феода, гаспадарчая адасобленасць феодаў з іх натуральнай гаспадаркай.

? **1.** Растлумачце, чаму і на якіх умовах сеньёр перадаваў частку сваіх зямель васалам. **2.** Якія павіннасці абавязаны былі выконваць сяляне? **3.** Чаму ў Высокім сярэдневякоўі панавала натуральная гаспадарка? **4.** Назавіце прычыны феадальнай раздробленасці ў Заходняй Еўропе. Абгрунтуйце свой адказ. **5.** Дапоўніце свой гістарычны слоўнік паняццямі: *феод, феадал, феадальная залежнасць, павіннасці, натуральная гаспадарка, феадальная раздробленасць.*


Слоўнік

## § 5. Сярэдневяковы горад

?! Параўнайце развіццё гарадоў Заходняй Еўропы і Візантыі ў Раннім сярэдневякоўі.

Гарады Сярэдневякоўя былі мала падобнымі на антычныя і сучасныя гарады. У гісторыкаў нават ёсць паняцце «сярэдневяковы горад». Навошта будавалі гарады ў Сярэдневякоўі, якія людзі ў іх жылі, чым яны займаліся? Чым гараджане адрозніваліся ад сялян? І чаму ўзнікла прыказка «Паветра горада робіць чалавека вольным»?

**1. Прычыны і шляхі ўзнікнення гарадоў.** Да пачатку Высокага сярэдневякоўя ў Заходняй Еўропе было мала гарадоў. Але затым сталі расці старыя гарады і з'яўляцца новыя. У чым прычына такіх змяненняў?

Па-першае, пачаўся пад'ём сельскай гаспадаркі. Былі ўзараны новыя землі. Прылады працы сталі лепшыя, і вырасла ўраджайнасць. Цяпер сяляне маглі пракарміць не толькі сябе і сваіх феадалаў. У іх заставаліся лішкі прадуктаў.

Па-другое, хутка развіваўся попыт на вырабы рамяства. Сяляне і феадалы хацелі набыць прылады працы, прадметы быту добрай якасці. Але хто іх зможа вырабіць? Узнікла патрэба ў рамесніках, якія б прафесійна займаліся толькі сваёй работай. Так у грамадстве з'явіўся слой рамеснікаўпрафесіяналаў.




Дзе ўзнікалі гарады

*У чым перавага размяшчэння гарадоў менавіта ў гэтых месцах?*

Рамеснікі імкнуліся сяліцца ў абароненым і людным месцы. Тут яны маглі схавацца ад грабежніцкіх нападаў і прадаваць свае вырабы пакупнікам. З цягам часу жыхары сталі ўмацоўваць свае паселішчы: абносілі іх ровам і валам, будавалі частакол, а пазней — каменныя сцены. Так у Заходняй Еўропе ўзнікалі ўмацаваныя паселішчы з гандлёва-рамесным насельніцтвам — гарады.

У Высокім сярэдневякоўі ў Заходняй Еўропе пачаўся бурны рост гарадоў.



Кавалі. *Сярэдневяковая мініяцюра*

**2. Гарады — цэнтры рамяства і гандлю.** Далейшае развіццё гарадоў і



Сярэдневяковая ярмарка. *Карціна сучаснага мастака*

гандлю вяло да разбурэння натуральнай гаспадаркі. У Высокім сярэдневякоўі ў гандаль паступова ўцягваліся ўсе слаі грамадства: рамеснікі, феадалы і сяляне. Паміж імі склаліся адносіны куплі-продажу. Рамеснікі хацелі хутчэй купіць прадукты харчавання ў сялян і прадаць свае вырабы. Узнікла патрэбнасць у *купцах*, якія займаліся толькі гандлем. У купцоў былі свае аб'яднанні — *гільдыі*.

Звычайны гандаль вёўся на штотыднёвых рынках. Найбольш ажыўлена гандлявалі на штогадовых рынках — *ярмарках*. У XIII ст. асабліва славіліся ярмаркі ў Шампані ў Францыі. На іх збіраліся купцы з розных краін і заключаліся здзелкі на вялікія сумы. Важнейшыя гандлёвыя шляхі праходзілі па Міжземным і Балтыйскім морах. Гандаль у Міжземным моры знаходзіўся ў руках двух гарадоў — Венецыі і Генуі. На Балтыйскім моры вядучая роля належала гораду Любеку. Ён узначальваў магутны гандлёвы саюз гарадоў — *Ганзу*.

У канцы Сярэдневякоўя ў Ганзу ўваходзіла больш чым 150 гарадоў. Важныя гандлёвыя сувязі склаліся з беларускім горадам Полацкам.

У Заходняй Еўропе разам з гарадамі стаў развівацца і новы від гаспадаркі. Цяпер вырабы рабілі не толькі для сябе, але і для продажу. Такі выраб называецца *таварам*. Гаспадарка, у якой тавары выпрабляюцца, а затым прадаюцца за грошы, называецца ***таварна-грашовай гаспадаркай***.

У Высокім сярэдневякоўі яна паступова пачала замяняць натуральную гаспадарку. Гарады станавіліся цэнтрамі рамяства і гандлю, а рамеснікі і купцы — іх асноўным насельніцтвам.

**3. Гарадское рамяство.** Праца рамесніка была асновай гаспадаркі сярэдневяковага горада. Рамеснік працаваў ва ўласнай *майстэрні*. Ён сам купляў неабходную сыравіну — матэрыял, з якога рыхтаваў свае вырабы, браў заказы. Затым ён выконваў усю работу па вытворчасці вырабаў і прадаваў іх. Яму дапамагалі *вучні* і *падмайстры* (памочнікі майстра). Рамеснікі аднолькавай спецыяльнасці аб'ядноўваліся ў саюзы, якія абаранялі іх інтарэсы, — *цэхі*. У гарадах забаранялася займацца рамяством не членам цэхаў.


Знайдзіце пры дапамозе інтэрнэт-рэсурсаў прыклады гербаў сярэдневяковых цэхаў. Што сімвалізавалі адлюстраваныя на іх значкі?



Кравец.
*Сярэдневяковая мініяцюра*



Ткач.
*Сярэдневяковая мініяцюра*

6, с. 55



Пекары.
*Сярэдневяковая мініяцюра*

Паўнапраўнымі членамі цэхаў лічыліся толькі ўладальнікі майстэрняў — *майстры*. На сходзе майстроў цэха прымаўся *статут*. У ім вызначаліся ўсе бакі жыцця рамеснікаў цэха. Напрыклад, колькі можна выпускаць вырабаў, з якіх матэрыялаў, якіх памераў, якой якасці і шмат іншага. Пры пагрозе нападзення на горад усе члены цэха складалі атрад апалчэння. Пад цэхавым сцягам яны выступалі на абарону горада. Як правіла, члены цэха сяліліся на адной вуліцы, якую так і называлі: вуліца Пекараў, Ткачоў, Краўцоў, Кавалёў, Збройнікаў.

Стаць майстрам было нялёгка. Спачатку трэба было некалькі гадоў працаваць вучнем. Яму не плацілі за яго працу. Дастатковай узнагародай лічылася тое, што яго кармілі і давалі магчымасць вучыцца. З цягам часу вучань мог стаць падмайстрам. Тады ён атрымліваў за працу невялікія грошы. Кожны падмайстар марыў здаць экзамен і стаць майстрам. Для гэтага трэба было зрабіць узорны выраб — шэдэўр. Затым яго трэба было прадставіць на адабрэнне ў савет майстроў. Толькі тады падмайстар станавіўся паўнапраўным майстрам і мог адкрыць уласную майстэрню.

*Як вы думаеце, для чаго ўводзіліся такія правілы?*

**4. Барацьба гараджан за самакіраванне.** Гарады ўзнікалі на землях феадалаў. Феадалы адносіліся да гараджан як да сялян: судзілі іх, накладвалі штрафы, спаганялі аброк вырабамі рамяства. Але паступова гарады мацнелі і багацелі.

Гараджане сталі адчуваць цяжар залежнасці ад феадалаў. Пачалася барацьба за абмежаванне пабораў феадалаў, а затым і поўнае вызваленне ад іх.



Залатая манета Венецыі — дукат

У XII—XIII стст. барацьба паміж гараджанамі і феадаламі разгарнулася па ўсёй Заходняй Еўропе. Адны гарады дабіліся незалежнасці. Яны далі феадалам выкуп грашыма або атрымалі свабоду ў выніку паўстанняў і войн супраць сваіх сеньёраў. Другія гарады так і не змаглі вызваліцца. Жыхары гарадоў, вызваліўшыся ад улады феадала, ператвараліся ў свабодных людзей.

Існавала правіла: калі беглы селянін пражыве ў горадзе год і адзін дзень, ён становіцца свабодным і выходзіць з-пад улады феадала. Таму і гаварылі: «Гарадское паветра робіць чалавека свабодным».

Жыхары гарадоў атрымлівалі права самастойна кіраваць горадам праз свае органы ўлады — *самакіраванне*. Гараджане выбіралі *гарадскую раду* і яе кіраўніка. У Францыі і Англіі яго называлі *мэрам*, у Германіі — *бургамістрам*. Гарадская рада чаканіла манеты, набірала ахову і войска. Засядала рада ў спецыяльным будынку — *ратушы*. У горадзе таксама быў свой *суд*, дзе засядалі выбраныя гараджанамі суддзі.

? **1.** Растлумачце, чаму ў X—XIII стст. у Заходняй Еўропе значна павялічылася колькасць гарадоў. **2.** Як і дзе ўзнікалі сярэдневяковыя гарады? **3.** Для чаго ствараліся статуты цэхаў? Каго яны абаранялі? **4.** Якую ролю сыграла геаграфічнае становішча ў развіцці Венецыі, Генуі і гарадоў Ганзейскага саюза? Пры адказе выкарыстайце карту 2 першага форзаца. **5.** Чаму сярэдневяковыя гарады імкнуліся атрымаць свабоду ад феадалаў? **6.** Дапоўніце слоўнік паняццямі: *горад, таварна-грашовая гаспадарка, цэх.* **7.** *Складзіце красворд «Сярэдневяковы горад».*



Слоўнік

## § 6. Паўсядзённае жыццё чалавека

?! **1.** Як называлася месца пасяджэння гарадской рады? **2.** Што з'яўляецца вышэйшым дасягненнем візантыйскай архітэктуры?

Сярэдневяковыя мысліцелі лічылі, што грамадства дзеліцца на тры саслоўі. Першае — тыя, хто моліцца за ўсіх (святары і манахі). Другое — тыя, хто са зброяй абараняе ўсіх (феадалы). Трэцяе — тыя, хто корміць і забяспечвае рэчамі ўсіх (сяляне і гараджане). Усе яны аднолькава неабходны адзін другому. Але якімі ж былі ўмовы жыцця людзей розных саслоўяў?

**1. Жыццё сялян: цяжкая праца і беднасць.** Залежныя сяляне складалі большую частку насельніцтва Заходняй Еўропы. Жылі яны ў вёсках, і ўмовы іх жыцця былі вельмі цяжкімі.

Сялянская сям'я тулілася ў маленькай хаціне, дзе частымі «гасцямі» з'яўляліся голад і хваробы. Страха хаціны была саламянай або з чароту. Дом селяніна складаўся з аднаго памяшкання, дзе гатавалі ежу, елі, спалі, рамантавалі адзенне, абутак. У маленькія вокны замест шкла ўстаўлялі тонкую скуру або прамасленую тканіну. Мэблі амаль не было. Спалі на лаўках або на земляной падлозе, падаслаўшы салому. Дым ад ачага выходзіў у адтуліну пад страхой, а таксама праз адчыненыя вокны і дзверы.

Усё жыццё селяніна праходзіла ў пастаяннай рабоце і беспрасветнай беднасці. Невялікі ўчастак зямлі, сад і агарод павінны былі



Святар, рыцар і селянін. *Сярэдневяковая мініяцюра*

*Гэтыя постаці расстаўлены па іх значэнні ў грамадстве. Патлумачце гэты парадак.*

забяспечыць прадуктамі селяніна і яго сям'ю. Але тут селянін мог працаваць толькі пасля таго, як выканае паншчыну. Гэтая работа адбірала шмат сіл. Да таго ж неабходна было аддаць феадалу ў выглядзе аброку і частку ўраджаю са свайго надзелу.



Сяляне на паншчыне. *Сярэдневяковая мініяцюра*

Ежа селяніна была аднастайнай і простай. Елі хлеб, кашы, бабы. Любімай стравай была салодкая рэпа. Мяса сяляне гатавалі і елі толькі на святы. У Сярэднія вякі засуха або моцныя дажджы, нават і ранція замаразкі нярэдка губілі ўраджай. Тады наступаў страшэнны голад. І пакутавалі ад яго больш за ўсё тыя, хто працаваў на зямлі, — сяляне. Страх галоднай смерці быў пастаянным спадарожнікам людзей Сярэдневякоўя.

Феадалы распараджаліся асабістым жыццём залежных сялян. Напрыклад, у Францыі нельга было ўступаць у шлюб без дазволу феадала.

За невыкананне павіннасцей і іншыя ўчынкі судзілі і каралі сялян або сам феадал, або назначаныя ім людзі. Яны маглі прыгаварыць чалавека да цялеснага пакарання або заключыць яго ў турму. Законы забаранялі феадалам забіваць сялян. У большасці краін Заходняй Еўропы земляробы мелі права пайсці ад свайго феадала. Але куды? Толькі да другога феадала, іначай ім немагчыма было пракарміцца: надзел зямлі для пражыцця мог даць толькі яе ўладальнік.

Аднастайнае цячэнне жыцця сялян перарывалі святы. Самымі важнымі святамі былі Нараджэнне Хрыстова і Вялікдзень. Сваёй працай сяляне стваралі багацці для ўсяго грамадства, але пры гэтым займалі ў ім ніжэйшую ступень.



▲ Замак феадала. *Рэканструкцыя*

**2. Жыццё феадалаў: быць лепшым воінам.** Феадалы жылі ў *замках*.

Іх уладальнікі лічылі ганебным апрацоўваць зямлю або займацца рамяством. Сваім прызваннем яны лічылі вайну. Феадалы з юных гадоў рыхтаваліся да ваеннай службы: вучыліся ездзіць вярхом на кані і валодаць зброяй, у асноўным мячом і кап'ём. Сыны феадалаў павінны былі вырастаць фізічна моцнымі. Іначай было нельга стаць добрым воінам-рыцарам — даспехі і зброя важылі 20 кілаграмаў і больш! А вось уменне чытаць і пісаць для маладога феадала не лічылася абавязковым. Навошта гэта ў баі?

Важнае месца ў жыцці феадалаў займалі спаборніцтвы ў ваенным мастацтве, лоўкасці і храбрасці — *рыцарскія турніры*. Арганізоўвалі іх як каралі, так і буйныя феадалы па самых розных прычынах: вяселле дачкі, пасвячэнне сына ў рыцары, завяршэнне вайны.

✓ У дзень турніру вакол замка ўстройваўся лагер з палатак, каля якіх стаялі сцягі і былі прымацаваны шчыты ўдзельнікаў-рыцараў. Гледачы размяшчаліся за агароджай, у якой было двое варот. На спецыяльным памосце рассаджваліся самыя знакамітыя феадалы. Пад гукі труб пачынаўся турнір. І вось ужо два конныя рыцары, з коп'ямі наперавес, імкліва памчаліся з супрацьлеглых варот насустрач адзін другому. Сутыкненне, удар, трэск коп'яў. Адзін з рыцараў не ўтрымаўся ў сядле. Гэта — паражэнне. Па правілах турніру пераможца забярэ яго каня і зброю. Адна пара рыцараў змяняе другую. Заканчваліся паядынкі, калі заставаўся адзіны пераможца, які атрымліваў верх над усімі.

Забавамі феадалаў былі паляванне і піры. Паляванне на дзікіх звяроў патрабавала сілы, лоўкасці і храбрасці. Яно ча-

ста заканчвалася раскошнымі пірамі. Падчас піроў феадалаў і іх гасцей забаўлялі спевакі і музыканты.

**3. Быт гараджан: як жылі ўнутры каменных сцен.** Багаты сярэдневяковы горад звычайна акружала некалькі каменных сцен. Увайсці ў яго можна было толькі праз вароты, якія ахоўваліся вартай. На ноч вароты зачынялі, падымалі перакінуты праз роў мост, вялікімі ланцугамі замыкалі вуліцы.

У Сярэднія вякі сельскага насельніцтва было ў дзясяткі разоў больш, чым гарадскога. Горад з насельніцтвам 1000 жыхароў лічылі вялікім, 4000—5000 і больш — велізарным. Такіх ва ўсёй Еўропе налічвалася каля 15. У іх лік уваходзілі Венецыя, Фларэнцыя, Кёльн, Прага, Лондан і некаторыя іншыя. Самым вялікім быў Парыж. У канцы Сярэдневякоўя ў ім пражывала больш за 200 000 жыхароў.

Дамы будавалі ў два або тры паверхі. На першым паверсе звычайна знаходзілася лаўка або майстэрня, склад, на другім і трэцім — жылыя пакоі. Але сонца ў іх было вельмі мала, паколькі вуліцы былі вельмі вузкімі.

Вуліцы гарадоў, як правіла, былі небрукаваныя. Памыі і смецце скідвалі ў сцёкавыя канавы або рэкі.



У сярэдневяковым горадзе.
*Карціна пачатку XX ст.*

*Чаму сярэдневяковыя гарады маглі расці толькі ўвышыню?*
*Высокія сцены горада маглі выратаваць ад ворагаў. А ад якіх небяспек яны не маглі абараніць яго жыхароў?*


6, с. 56

Усе вуліцы сыходзіліся да цэнтральнай плошчы горада. Тут сяліліся багатыя гараджане і будавалі свае палацы феадалы. У цэнтры горада была рыначная плошча. На плошчы знаходзілася ратуша. Недалёка ад яе была галоўная гарадская царква — *сабор*. Гэта быў самы высокі і прыгожы будынак у горадзе.

У гарадах было шмат беднякоў, гатовых наняцца на самую брудную і цяжкую работу. На ступеньках сабора прасілі міластыню скалечаныя і нямоглыя людзі.

Не раз у гарадах успыхвалі паўстанні беднякоў. Але гарадскія ўлады жорстка распраўляліся з імі, нярэдка карыстаючыся дапамогай суседзяў — феадалаў.

Слоўнік

**1.** Вызначыце асноўныя заняткі сялян і феадалаў. Што было галоўнай крыніцай іх даходаў? **2.** Растлумачце, чаму рыцары імкнуліся ўдзельнічаць у турнірах. Прывядзіце не менш за 3 прычыны. **3.** Якія рысы быту і жыцця гараджан адрознівалі іх ад сялян? **4.** Дапоўніце слоўнік новымі паняццямі па тэме: *замак, рыцарскі турнір, сабор*. **5.** Намалюйце прыкладны план сярэдневяковага горада. Размясціце на ім самыя важныя гарадскія аб’екты. **6.** Складзіце апавяданне «Дзень феадала», «Дзень селяніна», «Падарожжа па сярэдневяковым горадзе» (на выбар).



Знайдзіце 2—3 цікавыя факты з гісторыі аднаго з сярэдневяковых гарадоў Еўропы. Выкарыстайце іх пры выкананні задання **6**.

## § 7. Краіны Заходняй і Паўднёвай Еўропы

**1.** Калі распалася Франкская імперыя? Якія краіны ўтварыліся ў выніку яе распаду? **2.** Растлумачце значэнні паняццяў: *кароль, імператар, граф, феадальная раздробленасць*.

Вы ведаеце, што пасля раздзелу Франкскай імперыі ўтварыліся новыя дзяржавы. Але ці ўдалося ім уцалець ва ўмовах феадальнай раздробленасці? На паўднёвым захадзе Еўропы працягваліся войны, якія доўжыліся больш за сем стагоддзяў. Не гадоў, а стагоддзяў! Хто і за што ў іх змагаўся?




▲ Еўропа ў Высокім сярэдневякоўі

**1. Францыя ў X—XIII стст.: ад раздробленасці да аб'яднання.** У пачатку Высокага сярэдневякоўя Францыя распалася на мноства феадальных уладанняў. Французскі кароль валодаў толькі землямі вакол сталіцы Парыжа і горада Арлеана. Іх называлі «Востраў Францыя», паколькі з усіх бакоў яны былі акружаны вялікімі ўладаннямі буйных феадалаў. Герцагі і графы Нармандыі, Бургундыі, Шампані, Анжу былі багацейшыя і мацнейшыя за кара-



Людовік VI у баі з воінамі непакорных васалаў. *Карціна XIX ст.*

ля і не падпарадкоўваліся яму. Нярэдка яны пачыналі міжусобныя войны на землях самога караля. *(Чаму кароль мог праехаць з Парыжа ў Арлеан толькі ў суправаджэнні ўзброенага атрада?)*

Аднак, не маючы рэальнай улады над сваёй краінай, французскі кароль усё ж быў вышэйшай асобай у дзяржаве. Яго падтрымлівала царква. Кароль прызнаваўся ўсімі феадаламі як галоўнакамандуючы войска краіны, вярхоўны суддзя.

У пачатку XII ст. улада каралёў Францыі стала ўзмацняцца. Кароль ***Людовік VI*** павёў рашучую барацьбу супраць свавольства ўласных васалаў. Ён умацаваў сваю сталіцу Парыж і арганізаваў добрае войска. Разбіўшы непакорных васалаў, кароль Людовік VI стаў гаспадаром на сваіх землях.

Цяпер можна было думаць аб расшырэнні каралеўскіх уладанняў за кошт зямель буйных феадалаў. Наступныя каралі аб'ядноўвалі вакол «Вострава Францыі» ўсё новыя тэрыторыі.

Але ў сярэдзіне XII ст. буйны французскі феадал граф Анжу, герцаг Нармандыі і Аквітаніі ***Генрых Плантагенет***, стаў каралём Англіі. Ён атрымаў англійскі прастол, паколькі яго маці была дачкой памерлага караля Англіі. Так у Францыі вялікія тэрыторыі аказаліся пад уладай англійскага караля.



*Знайдзіце на карце (с. 41) уладанні англійскага караля ў Францыі.*

Французскім каралям прыйшлося адваёўваць гэтыя ўладанні Плантагенетаў. У пачатку XIII ст. кароль ***Філіп II Аўгуст*** пашырыў свае ўладанні амаль у чатыры разы. Пад уладай англічан заставалася толькі невялікая частка французскіх зямель. І паступова адбывалася аб’яднанне ўсёй краіны пад уладай французскіх каралёў.



Каранацыя Філіпа II Аўгуста. *Сярэдневяковая мініяцюра*

**2. Свяшчэнная Рымская імперыя ў Высокім сярэдневякоўі.** У X ст. у Германіі ўлада каралёў была моцнай, яны з’яўляліся гаспадарамі на сваіх вялікіх землях. Германскі кароль ***Атон I*** стварыў моцнае войска і разбіў качэўнікаў-венграў, затым падпарадкаваў славян, якія жылі паміж рэкамі Эльба і Одэр. Ён усталяваў сваю ўладу і ў раздробленай Паўночнай Італіі. У выніку Германія стала вялікай і магутнай дзяржавай. Атон I хацеў, каб яго лічылі галавой усіх правіцеляў Еўропы.

У **962 г.** папа рымскі ўсклаў на Атона I імператарскую карону. Так у Заходняй Еўропе з’явілася ***Свяшчэнная Рымская імперыя***. У яе, акрамя Германіі і Паўночнай Італіі, з цягам часу ўвайшлі землі Швейцарыі, Чэхіі, Нідэрландаў.



Карона Свяшчэннай Рымскай імперыі

*Знайдзіце агульнае ў дзейнасці Карла Вялікага і Атона I.*

**Папская дзяржава**

Дзяржава рымскіх пап утварылася ў 756 г. Кароль франкаў Піпін Кароткі ў знак удзячнасці за каранацыю яго папай падараваў уладыку рымскай царквы землі Сярэдняй Італіі. У сваёй дзяржаве папы з'яўляліся паўнаўласнымі манархамі. Асаблівасцю іх улады было тое, што прастол не перадаваўся ў спадчыну, паколькі папы давалі зарок бясшлюбнасці. Кожны новы галава дзяржавы выбіраўся. Папская дзяржава ўваходзіла ў склад Свяшчэннай Рымскай імперыі. У 1274 г. імператар прызнаў незалежнасць дзяржавы пап. Яна праіснавала да 1870 г., калі ўвайшла ў склад Італіі. З 1929 г. папская дзяржава зноў з'явілася на карце Еўропы. Яна называецца Ватыкан і з'яўляецца самай маленькай з еўрапейскіх краін. Размешчана Папская дзяржава ў цэнтры горада Рыма.

Але з XII ст. улада германскіх каралёў-імператараў пачала слабець. Нямецкія феадалы вялі войны ў землях славян, а пазней і ў Прыбалтыцы. Багатыя гарады Італіі не жадалі дзяліцца даходамі з нямецкімі заваёўнікамі і падымалі паўстанні. Германскія каралі, каб каранавацца ў Рыме як імператары, павінны былі ажыццяўляць паходы за Альпы і зноў пакараць Італію. За ўдзел у войнах нямецкія феадалы атрымлівалі новыя землі і правы. Гэта ўмацоўвала іх самастойнасць і аслабляла ўладу каралёў-імператараў. Германія стала феадальна раздробленай краінай.

**3. Краіны Пірэнейскага паўвострава. Рэканкіста.** У X ст. на Пірэнейскім паўвостраве ўжо два стагоддзі ішла бязлітасная вайна паміж арабамі і еўрапейцамі-хрысціянамі.

У пачатку VIII ст. амаль увесь Пірэнейскі паўвостраў быў заваяваны арабамі. Апошнія атрады з мясцовых жыхароў адышлі на поўнач. Яны змаглі ўмацавацца толькі ў горных раёнах Пірэнеяў. Адсюль еўрапейцы вялі наступленне на поўдзень краіны.

Гэта вайна — ***Рэканкіста*** (па-іспанску — адваяванне) — вялася еўрапейцамі-хрысціянамі за адваяванне захопленай арабамі тэрыторыі. Вайна працягвалася больш за

сем стагоддзяў. Рымскія папы не раз заклікалі хрысціян да паходаў супраць арабаў у Іспаніі. У Рэканкісце, акрамя мясцовага насельніцтва, часам удзельнічалі французскія, нямецкія, італьянскія рыцары.

У ходзе Рэканкісты ўтварыліся каралеўствы *Кастылія*, *Арагон*, *Партугалія*.



*Знайдзіце гэтыя дзяржавы на карце (с. 41).*

У пачатку XIII ст. адбыўся рашаючы пералом у вайне. У **1212 г.** войскі пірэнейскіх каралеўстваў і атрадаў еўрапейскіх рыцараў ушчэнт разбілі арабаў. Да сярэдзіны XIII ст. большая частка паўвострава была адваявана хрысціянамі. Толькі на поўдні засталася невялікая дзяржава арабаў.



6, с. 91



Бітва пад Лас Навас дэ Талоса ў 1212 г. *Карціна XIX ст.*

*На карціне бачны рашаючы момант бою, калі пад уціскам арабскага войска рыцары пачалі адступаць. Кароль Кастыліі вырашыў загінуць у баі, але не здавацца. Падумайце, як адбілася яго рашэнне на выніку бітвы.*

**?** **1.** Складзіце план п. 1 «Францыя ў X — XIII стст.: ад раздробленасці да аб'яднання». **2.** Параўнайце ўладанні французскага і англійскага каралёў у Францыі, выкарыстоўваючы карту. Як мяняліся іх памеры ў XII — пачатку XIII ст.? Пры адказе выкарыстайце карту. **3.** Дапоўніце лагічны ланцужок: імкненне да захопу новых зямель — ? — ? — ? — аслабленне ўлады германскіх імператараў. **4.** Дайце характарыстыку Рэканкісты паводле плана: месца, мэта, працягласць, удзельнікі, вынікі. **5.** Адзначце на лініі часу ў сваім сшытку даты гістарычных падзей. Растлумачце, як яны звязаны паміж сабой.

## § 8. Англія і краіны Скандынавіі ў X—XIII стст.: новыя дзяржавы Еўропы

?! **1.** Якія варварскія плямёны рассяліліся на тэрыторыі Брытаніі? **2.** Што азначае выраз «Васал майго васала — не мой васал»?

Яны заўсёды прыплывалі на караблях з драўлянай галавой дракона. Нават упамінанне аб гэтых людзях выклікала страх у жыхароў многіх краін Еўропы. Еўрапейцы пыталіся: «Хто гэтыя людзі, з якой яны краіны? За якія грахі Гасподзь наслаў іх на нас?» Дык хто ж гэтыя грозныя людзі на караблях? Які след яны пакінулі ў гісторыі?

**1. Паходы нарманаў: вікінгі — пагроза Еўропы.** У паўночнай частцы Еўропы жылі германскія плямёны — продкі сучасных нарвежцаў, шведаў і датчан. У Заходняй Еўропе іх называлі *нарма́намі* — «паўночнымі людзьмі». Яшчэ ў канцы VIII ст. правадыры і знатныя нарманы збіралі дружыны і накіроўваліся ў паходы на прыбярэжныя раёны краін Еўропы. Устойлівыя і з мелкай пасадкай караблі-дракары нарманаў лёгка слізгалі і па марах, і па рэках. Нападзенні заўсёды былі нечаканымі, яны наводзілі жах на мясцовых жыхароў.

✓ Удзельнікі гэтых паходаў называлі сябе вікінгамі. Пры спадарожным ветры караблі вікінгаў дасягалі берагоў Англіі, Францыі, Германіі, Польшчы і Русі ўсяго за 3—4 дні. Яны дабіраліся нават да Іспаніі, Італіі, Візантыі, арабскіх дзяржаў.

Пасля паходу большасць нарманаў з багатай здабычай вярталіся дамоў. Але некаторыя з іх сяліліся ў Еўропе на землях, падобных на іх суровы лясісты край.


6, с. 88

У пачатку X ст. нарманы пасяліліся на поўначы Францыі. Гэтая вобласць атрымала назву Нармандыя. Хутка нарманы прынялі хрысціянства, асвоілі французскую мову і мясцовы лад жыцця.

*Як вы думаеце, чаму нарманы прынялі французскую мову, норавы і звычаі, а не французы — нарманскую мову, традыцыі і норавы?*



*Прасачыце па карце 1 першага форзаца маршруты паходаў нарманаў (вікінгаў).*

**2. Дзяржавы Скандынавіі.** Паходы нарманаў узбагацілі знаць, прывялі да ўзмацнення правадыроў і дружыннікаў. З'явілася няроўнасць у грамадстве. У выніку ў IX—X стст. узніклі скандынаўскія каралеўствы — ***Нарвегія***, ***Данія*** і ***Швецыя***. Цяпер правадыры і знаць сталі феадаламі, атрымлівалі даходы ад залежных сялян і не жадалі рызыкаваць жыццём у доўгіх паходах. У скандынаўскіх дзяржавах было прынята хрысціянства.



Вікінг

У XI ст. Данія, Швецыя і Нарвегія пачалі барацьбу за першынство ў Паўночнай Еўропе. Перамаглі дацкія каралі. Кароль ***Канут Вялікі*** ў тым жа XI ст. дасягнуў вяршыні магутнасці і стаў каралём Нарвегіі, Швецыі і нават Англіі. Але пасля яго смерці дзяржава распалася.

**Адкрыцці нарманаў**

Нарманы былі ўмелымі мараплаўцамі. Часцей за ўсё нармандскія караблі плавалі ўздоўж берага, каб лёгка было ўкрыцца ад шторму. Але здараліся і працяглыя плаванні па акіяну. У канцы IX ст. нарманы адкрылі Ісландыю. На іх мове гэта назва азначала «Краіна льдоў». Праз сто гадоў нарманы адкрылі «Зялёную краіну» — Грэнландыю. А каля 1000 г. грэнландскі пасяленец Лейв Шчаслівы накіраваўся на сваім караблі далёка на паўднёвы захад. Ён дасягнуў пакрытай лясамі цёплай краіны, дзе рос вінаград. Лейв назваў гэты край «Краінай вінаграду» — Вінландам. Гэта быў востраў Ньюфаўндленд каля ўзбярэжжа Паўночнай Амерыкі.



6, с. 80

*Што дапамагала нарманам здзяйсняць такія доўгія і небяспечныя плаванні?*




Караблі вікінгаў

*Чым прыводзіліся ў рух гэтыя караблі?*

*Для чаго выкарыстоўвалася спецыяльнае вясло?*

**3. Нармандскае заваяванне Англіі. Каралеўская ўлада.** За сваю гісторыю Брытанскія астравы падвяргаліся многім нашэсцям.

У Раннім сярэдневякоўі на востраве Вялікабрытанія англы і саксы стварылі сем сваіх каралеўстваў. Яны ваявалі адно з другім, а затым і з новымі заваёўнікамі — нарманамі. Толькі ў пачатку Высокага сярэдневякоўя англасаксонскія каралеўствы былі аб'яднаны ў адну дзяржаву — ***Англію***.

У **1066 г.** на брытанскую зямлю прыйшлі новыя заваёўнікі — з Нармандыі. У бітве пры Гастынгсе іх цяжкая конніца разбіла пяхоту англасаксаў. Англійскі кароль загінуў у баі. Новым каралём Англіі стаў герцаг Нармандыі — ***Вільгельм І Заваёўнік***.

У XI ст. каралеўская ўлада ў Англіі была мацнейшая, чым у другіх краінах Еўропы. Каралю падпарадкоўваліся ўсе англійскія феадалы. Кожны з іх даваў манарху клятву вернасці. Для караля не дзейнічала феадальнае правіла «васал майго васала — не мой васал». У Англіі хутка замацаваўся феадалізм. Быў праведзены перапіс насельніцтва. Пры гэтым многія свабодныя сяляне трапілі ў спісы залежных людзей. *(Знайдзіце адрозненні ў адносінах паміж феадаламі ў Англіі і іншых еўрапейскіх краінах.)*

**4. Войны англійскіх каралёў.** У сярэдзіне XII ст. англійскія каралі мелі вялікія ўладанні і ў Францыі. Яны

хацелі далучыць астатнія французскія землі і стаць яшчэ і каралямі Францыі. Таксама каралі Англіі імкнуліся скарыць суседнія краіны Уэльс, Шатландыю і Ірландыю. У выніку доўгіх войн Уэльс быў заваяваны. У Ірландыі англічанам удалося захапіць толькі ўсходнія землі. Смелыя і мужныя шатландцы адстаялі сваю свабоду.

**5. Узнікненне парламента.** Англійскія каралі вялі частыя войны. Гэта патрабавала вялікіх выдаткаў. Каралі павялічвалі падаткі і жорстка распраўляліся з незадаволенымі. Гараджане пакутавалі ад падаткаў, рыцары ад самавольства караля. Першымі паўсталі буйныя феадалы. Іх падтрымалі рыцары і гараджане. У **1215 г.** паўстанцы перамаглі і заставілі караля падпісаць дагавор — ***Вялікую хартыю вольнасцей***. (***Хартыя*** — *грамата, якая давала або пацвярджала тыя або іншыя правы.*)



Кароль Іаан Беззямельны падпісвае Вялікую хартыю вольнасцей. *Карціна XIX ст.*



Англійскі парламент. *Сярэдневяковая мініяцюра*

У ёй кароль зацвердзіў усе патрабаванні паўстанцаў. Цяпер ён не мог уводзіць адвольна падаткі і пошліны. Аднак каралі не хацелі выконваць хартыю. Успыхнула новае паўстанне, і кароль зноў пацярпеў паражэнне. Але паўстанцам неабходна была падтрымка насельніцтва. У **1265 г.** пераможцы склікалі сход, у які ўвайшлі прадстаўнікі ад буйных феадалаў, духавенства, рыцараў і гараджан.

Паколькі на сходзе сасловій абмяркоўвалі пытанні і спрачаліся, яго сталі называць ***парламентам*** (слова «гаварыць» на французскай мове гучыць як «парле»). Хутка ўлада караля была адноўлена. Але з гэтага часу парламент стаў склікацца рэгулярна. Ён ператварыўся ў пастаянную дзяржаўную ўстанову. Падаткі ў Англіі ўводзіліся са згоды парламента. *(Дакажыце сказамі з тэксту, што ўлада караля ў Англіі была абмежавана.)*


§ 8


Слоўнік

? **1.** Падумайце, чым былі выкліканы паходы нарманаў. Якія землі падвергліся іх набегам? Чаму гэтыя набегі спыніліся? **2.** Складзіце спіс змяненняў у Англіі пасля нармандскага заваявання. Якія з іх вы лічыце самымі значнымі? **3.** Складзіце план пункта «Узнікненне парламента». **4.** Прадстаўнікі якіх сасловій уваходзілі ў англійскі парламент? Якія пытанні яны маглі вырашаць? **5.** Дапоўніце свой гістарычны слоўнік паняццем *парламент.*

## § 9. Каталіцкая царква

?! **1.** Дзе і калі ўзнікла хрысціянства? **2.** Хто ўзначальваў хрысціянскую царкву на захадзе Еўропы?

У Высокім сярэдневякоўі папы рымскія сталі самымі магутнымі людзьмі ў Заходняй Еўропе. Чаму ж іх баяліся не паслухацца нават каралі? І чаму рыцары, пакінуўшы свае злосныя міжусобіцы, рушылі на заваяванне далёкай Палесціны?

**1. Раздзяленне хрысціянскай царквы.** Як вы ўжо ведаеце, тэрыторыя Заходняй Рымскай імперыі была захоплена

варварамі. Візантыя адбіла іх нападзенні і працягвала заставацца хрысціянскай. І хоць многія з варварскіх народаў прынялі гэтую рэлігію, пачалося раздзяленне хрысціянскай царквы на ўсходнюю і заходнюю.



Багаслоўская спрэчка католікаў і праваслаўных. *Мініяцюра XIII ст.*

Паміж жыхарамі Заходняй Еўропы і Візантыі паступова расла непрыязнасць. Яна выражалася і ў тым, што яны абвінавачвалі адзін другога ў няправільнай веры ў Бога. На самай справе яны па-рознаму разумелі некаторыя палажэнні хрысціянскага вучэння.

Візантыйцы не лічылі варвараў, якія аселі на землях былой Заходняй Рымскай імперыі, наследнікамі велічы Рыма. Для іх гэтыя людзі засталіся грубымі, неадукаванымі, крыважэрнымі дзікунамі. Не іх, а сябе візантыйцы называлі «рамеямі» (рымлянамі). Заходнія еўрапейцы ў сваю чаргу адзываліся аб жыхарах Візантыі як аб распешчаных людзях, якія жылі ў багацці. А яно, быццам, дасталася ім незаслужана, паколькі не было здабыта з мячом у руках.

Галоўнае адрозненне заключалася ў разуменні палажэння аб Троіцы. На ўсходзе лічылі, што Святы Дух сыходзіць толькі ад Бога Айца, а на захадзе — што ад Бога Айца і ад Бога Сына.

Хрысціянскі Захад узначальвалі папы рымскія, якія лічылі сябе адзінымі ўладыкамі ўсяго хрысціянскага свету. На хрысціянскім жа Усходзе існавала ўяўленне аб роўнасці

паміж сабой усіх патрыярхаў, якія ўзначальвалі цэрквы. Таму прэтэнзіі рымскіх пап на ўладу над сабой усходнія хрысціяне адвяргалі.

Супярэчнасці абвастрыліся яшчэ больш, калі хрысціянства сталі прымаць славянскія народы. Бо паўстала пытанне: ці прызнаюць яны галавой царквы папу рымскага?

Супярэчнасці паміж хрысціянамі Заходняй Еўропы і Візантыі прывялі да канчатковага царкоўнага расколу. **У 1054 г.** паслы рымскага папы абвясцілі праклянцце — анафему — канстанцінопальскаму патрыярху і ўсім хрысціянам, якія не прызнавалі над сабой царкоўную ўладу Рыма. У адказ на гэта канстанцінопальскі патрыярх абвясціў анафему папскім паслам. Гэтыя падзеі аформілі канчатковае раздзяленне хрысціянства на заходнюю і ўсходнюю часткі. Заходнюю царкву сталі называць ***каталіцкай*** (гэта значыць «усяленскай»). Католікамі сталі жыхары Заходняй Еўропы.

Ва ўсходнюю царкву, якая атрымала назву ***праваслаўная*** (гэта значыць «правільнай веры»), увайшлі канстанцінопальскі, іерусалімскі, александрыйскі і антыахійскі патрыярхаты. У выніку праваслаўнымі хрысціянамі сталі грэкі, грузіны, сірыйцы і іншыя народы. Праваслаўнымі сталі і славянскія народы, якія прынялі хрысціянства ад візантыйскіх святароў: балгары, сербы, усходнія славяне.

**2. Рымскія папы — уладыкі Заходняй Еўропы.** У Высокім сярэдневякоўі каталіцкая царква пачала хутка багацець і ўмацоўвацца. Усе вернікі выплачвалі дзесяціну, плацілі за царкоўныя абрады. Каралі і феадалы даравалі царкве землі разам з сялянамі.

У Высокім сярэдневякоўі ўлада каралёў аслабела. Ва ўмовах феадальнай раздробленасці папы рымскія сталі ўладыкамі Заходняй Еўропы. Бо там усе хрысціяне належалі да адной царквы і абавязаны былі выконваць запаведзі Хры-

ста. Галавой каталіцкай царквы лічыўся папа рымскі. І гэта дазваляла папам умешвацца ў справы каралёў.

Вяршыняй магутнасці папства стала XIII ст. Папа Рымскі ***Інакенцій III*** (1198—1216) змог падпарадкаваць сабе манархаў многіх краін Заходняй Еўропы. Ён меў права



Інакенцій III адлучае ад царквы ерэтыкоў у Францыі і накіроўвае на іх крыжаносцаў. *Сярэдневяковая мініяцюра*

забараніць вайну або заклікаць да вайны супраць непакорных каралёў або людзей іншага веравызнання.

У Сярэднія вякі ўсе людзі верылі ў Бога. Тых, хто выступаў супраць вучэння царквы, называлі *ерэтыкамі*. Для барацьбы з імі папы ў XIII ст. стварылі спецыяльны суд — *інквізіцыю*. Западозраных у справах або выказваннях супраць царквы саджалі ў турмы, катавалі, каб атрымаць доказы іх віны. І многія невінаватыя людзі прызнаваліся ў тым, чаго ніколі не рабілі. Інквізіцыя перадавала іх прадстаўнікам улады, і тыя публічна спальвалі ерэтыкоў на вогнішчах.

**3. Крыжовыя паходы.** Папы рымскія неаднаразова забаранялі міжусобныя войны паміж феадаламі, але тыя




Крыжовыя паходы ў XI—XII стст.

працягвалі ваяваць адзін з другім. І тады царква вырашыла накіраваць ваяўнічых феадалаў за межы Еўропы — на мусульман. Гэта былі людзі другой веры, хрысціяне называлі іх «няверныmі».

У той час Палесціна з горадам Іерусалімам знаходзілася пад уладай мусульман. Менавіта ў гэтым горадзе быў раскрыжаваны Ісус Хрыстос і там жа знаходзілася хрысціянская святыня — гроб Хрыстоў.

У 1095 г. папа Урбан II заклікаў хрысціян узяцца за зброю і вызваліць хрысціянскую святыню ад мусульман. Ён аб'явіў, што трэба дапамагчы і праваслаўным хрысціянам, якія пацярпелі ад «няверных». Гэта прывяло б і да распаўсюджання ўлады пап на новыя краіны.

Крыжаносцы ў баі супраць мусульман. *Мініяцюра XIII ст.*

*Па якіх прыметах вы вызначылі, дзе на ілюстрацыі вывы крыжаносцаў, а дзе мусульман?*



Так быў пакладзены пачатак паходам еўрапейцаў на Усход. Іх удзельнікі насілі на вопратцы крыжы, таму іх называлі *крыжаносцамі*, а войны — ***крыжовымі паходамі***. *(Жыхары якіх краін Заходняй Еўропы ўдзельнічалі ў крыжовых паходах? Пры адказе выкарыстайце карту на с. 54.)*

Першы з іх пачаўся ў **1096 г.** Пасля цяжкіх баёў крыжаносцы прарваліся да Іерусаліма. Летам **1099 г.** пасля асады яны штурмам захапілі горад. Крыжаносцы ўчынілі страшную разню, забіваючы і мужчын, і жанчын, і старых, і дзяцей. *(Як вы думаеце, якія хрысціянскія запаведзі парушылі крыжаносцы? Ці лічылі яны гэта грахом?)*

У выніку першага крыжовага паходу ў Палесціне і Сірыі былі створаны дзяржавы крыжаносцаў. У іх феадалы ўстанавілі звыклыя парадкі і звычаі. Важную ролю ў дзяржавах адыгрывалі *духоўна-рыцарскія ордэны*. Самымі вядомымі сталі ордэны *гаспітальераў, тампліераў і тэўтонаў*.



Гаспітальеры. *Малюнак сучаснага мастака*



6, с. 72

На чале ордэна стаяў вялікі магістр. Яму беспярэчна падпарадкоўваліся манахі-рыцары. Яны паходзілі з феадалаў і называлі сябе «братамі-рыцарамі». Галоўнай сваёй задачай яны лічылі ўзброеную барацьбу з «нявернымі».

Мусульмане не змірыліся са стратамі і пачалі адваёўваць захопленыя тэрыторыі. У 1187 г. яны вярнулі сабе Іерусалім. Папы рымскія заклікалі еўрапейцаў да новых крыжовых паходаў. Усяго такіх паходаў на Усход было восем.

Да канца XIII ст. крыжаносцы былі выгнаны з Палесціны. Хрысціянскія святыні зноў аказаліся ў руках мусульман. Крыжовыя паходы прывялі да гібелі многіх людзей, яны значна ўзмацнілі рэлігійную варожасць паміж людзьмі рознага веравызнання. У Еўропе ж паступова заціхлі феадальныя міжусобіцы і наступіў час дзяржаў з моцнай каралеўскай уладай.

? **1.** Назавіце прычыны раздзялення хрысціянскай царквы на праваслаўную і каталіцкую. **2.** Складзіце план пункта «Рымскія папы — уладыкі Заходняй Еўропы». **3.** Назавіце прычыны крыжовых паходаў. Якія вынікі мелі крыжовыя паходы для заходніх еўрапейцаў і мусульман? **4.** Нанясіце на лініі часу ў сшытку даты асноўных падзей. Растлумачце, як гэтыя падзеі звязаны паміж сабой. **5.** Дапоўніце свой гістарычны слоўнік паняццямі: *каталіцкая царква, праваслаўная царква, крыжовыя паходы.*


Слоўнік

## § 10. Заходнееўрапейская культура Высокага сярэдневякоўя

?! Чаму культура Візантыі Ранняга сярэдневякоўя значна апярэджвала культуру Заходняй Еўропы?

З «цёмных вякоў» Ранняга сярэдневякоўя Заходняя Еўропа здзейсніла імклівы рывок у развіцці культуры. Тое, што раней лічылася непатрэбным людзям, стала каштоўным і неабходным. Чаму ж адбыліся такія перамены?

**1. Прычыны пад'ёму культуры ў Заходняй Еўропе.** У перыяд Ранняга сярэдневякоўя культура Заходняй Еўропы прыйшла ў заняпад. Апусцелі гарадскія тэатры, амфітэатры, цыркі. Людзям было не да відовішч, яны клапаціліся аб тым, як выжыць у тыя суровыя часы. У пачатку Сярэдневякоўя ў Заходняй Еўропе нават каралі не ўмелі ні чытаць, ні пісаць.



Настаўнік і вучні. *Сярэдневяковая мініяцюра*

Галоўнай захавальніцай культуры заставалася хрысціянская царква. Свяшчэннікі і манахі былі самымі адукаванымі людзьмі. Без ведання лацінскай і грэчаскай мовы нельга было чытаць Біблію і праводзіць набажэнствы. Без ведання астраноміі немагчыма было вылічваць даты хрысціянскіх свят, без ведання архітэктуры — пабудаваць храм. Таму царква захоўвала і берагла антычныя веды.

У X—XIII стст. узрасла цікавасць да адукацыі і навук. Галоўнымі цэнтрамі культуры сталі гарады, бо для развіцця рамяства і гандлю патрэбны былі новыя веды. Гарадам і каралеўскай уладзе патрэбны былі адукаваныя людзі. Гараджанам — для таго, каб весці гандлёвыя справы, арганізоўваць жыццё горада, адстойваць свае правы. Каралям — для таго, каб мець у дзяржаве падрыхтаваных суддзяў, знаўцаў закону — *юрыстаў*.

**2. Развіццё адукацыі. Узнікненне ўніверсітэтаў.** Уменняў чытаць, пісаць і лічыць было мала, каб стаць добрым юрыстам, урачом, багасловам. Таму ў Высокім сярэдневякоўі з'яві-

ліся першыя вышэйшыя навучальныя ўстановы — ***універсітэты*** (у перакладзе з латыні — ***агульнасць, аб'яднанне***).

Выкладанне ва ўніверсітэтах вялося на лацінскай мове. Таму студэнты, вывучыўшы латынь, маглі вучыцца і жыць у розных еўрапейскіх краінах.

Самымі вядомымі былі ўніверсітэты Парыжа, Оксфарда, Кембрыджа, Балоны. Універсітэты з'яўляліся згуртаваннем настаўнікаў — *прафесараў* і навучэнцаў — *студэнтаў*.

Ва ўніверсітэтах студэнтаў навучалі граматыцы, арыфметыцы, геаметрыі, астраноміі, музыцы, уменню спрачацца. Усяму гэтаму вучылі на падрыхтоўчым факультэце. Затым можна было выбіраць спецыяльнасць юрыста, урача, багаслова на адным з трох факультэтаў: юрыдычным, медыцынскім, багаслоўскім. Заняткі праводзіліся ў форме лекцый. Прафесар чытаў студэнтам кнігу. Па ходу чытання ён тлумачыў незразумелыя выразы і сэнс найбольш цяжкіх сказаў. Студэнты слухалі і запісвалі яго словы.

Яшчэ адной формай заняткаў былі славесныя паядынкі — дыспуты. У іх выпрацоўвалася ўменне спрачацца. Такія спрэчкі вучылі студэнтаў правільна выказваць свае думкі, даказваць сваю правату.



Сход прафесараў Парыжскага ўніверсітэта. *Мініяцюра XVI ст.*

6, с. 96

**3. Развіццё навуковых ведаў.** У XII—XIII стст. сярод выкладчыкаў універсітэтаў вяліся спрэчкі аб спосабах доказу ісціны або на аснове веры, або на аснове ведаў і вопыту. Адны лічылі, што пры доказе трэба спасылацца на царкоўных пісьменнікаў або Біблію. Другія выкладчыкі меркавалі, што трэба давяраць уласным ведам, розуму і вопыту.



Роджэр Бэкан. *Малюнак мастака XIX ст.*

У XIII ст. вядомым вучоным быў прафесар ***Роджэр Бэкан***. Ён выкладаў ва ўніверсітэтах Парыжа і Оксфарда. Ён вывучаў матэматыку, якую лічыў патрэбнай для доказу ісціны. Бэкан вучыў сваіх студэнтаў, што веды абавязкова павінны пацвярджацца вопытам. Прафесар зрабіў шмат вынаходніцтваў.

**З сачыненняў Роджэра Бэкана**

Каб рабіць дабро, трэба яго ведаць, каб пазбягаць зла, трэба яго адрозніваць. Пакуль існуе невуцтва, чалавек не знаходзіць сродкаў супраць зла... Няма небяспекі большай, чым невуцтва.

У Высокім сярэдневякоўі пашырыліся геаграфічныя ўяўленні еўрапейцаў, іх веды аб жыцці іншых народаў. У XIII ст. венецыянскі купец ***Марка Пола*** правёў шматгадовае падарожжа ў Кітай і Цэнтральную Азію. Вярнуўшыся, ён напісаў аб гэтым кнігу, дзе расказаў аб жыцці і звычаях многіх народаў Усходу.

**4. Новая архітэктура.** У Высокім сярэдневякоўі ў Заходняй Еўропе разгарнулася вялікае будаўніцтва. Сярэдневяковыя архітэктары ўнеслі шмат новага ў архітэктуру і тэхніку



Царква раманскага стылю. *XII ст.*



Сярэдневяковыя вітражы. Гатычная ружа. *Сабор у Рэймсе*

каменнага будаўніцтва. Самымі буйнымі і прыгожымі збудаваннямі былі храмы, манастыры, замкі.

Жыхары Заходняй Еўропы былі веруючымі. Таму самымі важнымі пабудовамі з'яўляліся храмы.

Яны велічна падымаліся над зямлёй падобна магутным крэпасцям з грознымі вежамі. Цяжкія скляпенні абапіраліся на сцены. І таму іх рабілі вельмі тоўстымі і трывалымі з малой колькасцю вокнаў. Будынак здаваўся цяжкім і прысадзістым, нягледзячы на свае вежы. Унутры храмаў сцены афарбоўваліся ў цёмныя колеры, у паўзмроку мігцелі свечкі. Пазней гэты стыль архітэктуры назвалі ***раманскім*** (ад лацінскага слова «Рома» — Рым).

Але ў XII ст. архітэктары вынайшлі каркас — унутраную трывалую канструкцыю будынка. Цяпер для ўзвядзення вы-

сокіх будынкаў ужо не патрабаваліся тоўстыя магутныя сцены. Цяжар скляпення будынка падтрымліваўся апорнымі слупамі.

Храмы сталі намнога вышэйшыя. І галоўнае, з'явілася магчымасць рабіць у сценах вялікія і высокія стрэлападобныя вокны з вітражамі (выявамі з каляровага шкла). Яны напаўнялі храмы рознакаляровымі блікамі і таямнічай гульнёй ценяў. Пазней гэты стыль архітэктуры назвалі ***гатычным*** — ад назвы германскага племені готаў.

У многіх гатычных храмах было круглае акно з вітражом, на якім была паказана гатычная ружа.

**5. Літаратура: рыцар ці працаўнік?** У Высокім сярэдневякоўі было складзена шмат літаратурных твораў. Іх аўтары — выхадцы са святароў, рыцараў і гараджан. Сяляне свае песні і апавяданні перадавалі з пакалення ў пакаленне вусна.

Асаблівага росквіту ў Высокім сярэдневякоўі дасягнула *рыцарская літаратура*. У творах паэтаў-рыцараў галоўным быў вобраз ідэальнага рыцара. Яго паказвалі моцным, храбрым, справядлівым, верным свайму сеньёру і сваім ідэалам. Адна з самых папулярных паэм — «*Песня пра Раланда*». У ёй услаўлялася вернасць абавязку і каралю.

Пяру французскага паэта-рыцара належаць такія словы: «Ах! Трэба біцца сотнямі, тысячамі, каб потым нас уславілі ў паэмах. Рагі, барабаны, сцягі і флажкі, коні чорныя і белыя... Мне падабаецца, калі скакуны гоняць людзей і жывёлу...»

***Як вы думаеце, чаму гараджанам і сялянам не маглі падабацца такія адносіны рыцараў да вайны?***

У *гарадской літаратуры* высмейваліся чалавечыя недахопы багатых і знатных людзей. Паэты і пісьменнікі з гараджан асуджалі вайну. Таму ў іх творах рыцар паказваўся

як высакамерны чалавек, які не ўмее працаваць. Гараджане складалі таксама кароткія смешныя апавяданні ў вершах. У іх усхвалялася кемлівасць простага чалавека.


§ 10


Слоўнік

**1.** Чым быў выкліканы культурны пад'ём у Заходняй Еўропе ў Высокім сярэдневякоўі? **2.** Чаму і як вучылі ў сярэдневяковых універсітэтах? **3.** Пералічыце адметныя рысы раманскага і гатычнага стыляў. **4.** Хто і чаму былі галоўнымі героямі рыцарскай і гарадской літаратуры? **5.** Дапоўніце слоўнік паняццямі: *універсітэт, раманскі стыль, гатычны стыль.*


Знайдзіце 2—3 цікавыя факты аб адным з еўрапейскіх сабораў Высокага сярэдневякоўя. Прадстаўце іх аднакласнікам.

## § 11. Візантыя ў X—XIII стст.: веліч і ўпадак

**1.** Чаму ў Раннім сярэдневякоўі Візантыя з'яўлялася галоўным цэнтрам культуры ў Еўропе? 2. Як змянілася тэрыторыя Візантыі ў часы імператара Юстыніяна?

Візантыйская імперыя не раз падвяргалася нападзенням. У цяжкіх войнах яна несла страты. Але часам удавалася і адваёўваць ранейшыя ўладанні. Аднак не толькі войны аслабілі вялікую дзяржаву. Як магло стацца, што «горад Канстанціна» стаў сталіцай не візантыйцаў-рамеяў, а нейкіх «лацінян»?

**1. Чаму Візантыя слабела?** У Раннім сярэдневякоўі Візантыя славілася магутнасцю, але затым хутка страціла яе. У пачатку Высокага сярэдневякоўя імператары паспрабавалі аднавіць былую веліч Візантыі. На рубяжы X—XI стст. імператар ***Васілій II*** заваяваў Балгарыю. Зноў увесь Балканскі паўвостраў аказаўся пад уладай Візантыі. Імперыя вярнула сабе частку Сірыі, астравы Кіпр і Крыт, яе ўладу прызналі правіцелі Арменіі і Грузіі.

У другой палавіне XI ст. краіна ледзь стрымлівала націск з усходу качэўнікаў-туркаў, якія стварылі сваю дзяржаву ў Малой Азіі. Толькі дапамога крыжаносцаў выратавала

Візантыю. Але крыжаносцы асталіся ў Палесціне і Сірыі і не збіраліся вяртаць візантыйцам гэтыя землі.

Улада імператара была няўстойлівай. Вакол трона ішла пастаянная барацьба. Загаворы, інтрыгі і ўсобіцы прыводзілі да хуткай змены правіцеляў.

> ✓ На працягу 50 гадоў пасля смерці Васілія II на візантыйскім прастоле змянілася 13 імператараў.

Імператары, як і раней, правілі краінай, выдавалі законы і судзілі. Але неабходна было ўмацоўваць армію, павялічваць расходы на ўтрыманне чыноўнікаў, колькасць якіх увесь час узрастала. Патрабавалася ўсё больш грошай, і таму правіцелі павялічвалі падаткі з насельніцтва. Нідзе ў Еўропе не плацілі такіх вялікіх падаткаў!

Слабасць улады, рост падаткаў, самаўпраўства чыноўнікаў і знаці прыводзілі да збяднення рамеснікаў і сялян. У грамадстве расла незадаволенасць.

**2. Візантыйскія гарады і гандаль: заморскія канкурэнты.** У X—XII стст. у Візантыі па-ранейшаму квітнелі гарады. Як і раней, яны былі цэнтрамі рамяства і гандлю. Усімі гарадамі Візантыі кіравалі імператарскія чыноўнікі. Яны збіралі з жыхароў горада падаткі, застаўлялі рамеснікаў і гандляроў выконваць іх указанні.

Пасля захаплення крыжаносцамі Сірыі і Палесціны кантроль над гандлем у Міжземным моры захапілі італьянскія гарады Венецыя і Генуя. Яны сталі выцясняць гарады Візантыі. Італьянскія тавары былі значна лепшыя і таннейшыя за візантыйскія.



▲ Герб Генуі



▲ Герб Венецыі



▲ Евангеліст Лука.
*Візантыйская мініяцюра XIII ст.*

Іх ахвотна куплялі і прадавалі па ўсёй Еўропе.

Рост дзяржаўных выдаткаў заставіў імператараў браць пазыку ў замежных купцоў. У адказ купцы патрабавалі вызваліць іх ад падаткаў, прадаць ім тэрыторыі рынкаў і прычалаў. Усё гэта абцяжарвала далейшае развіццё гарадоў, рамёствы і гандаль у самой Візантыі.

**3. Царква ў Візантыі.** У Візантыі склаўся саюз праваслаўнай царквы і дзяржавы. Царква падтрымлівала імператарскую ўладу, а імператары апекавалі царкву. Але канстанцінопальскі патрыярх не ўмешваўся ў барацьбу за ўладу. У адрозненне ад каталіцкай царквы царква ў Візантыі не імкнулася падпарадкаваць сабе манархаў.

Праваслаўная царква Візантыі сыграла вельмі важную ролю ў распаўсюджанні хрысціянства. Адсюль праваслаўе было прынята многімі народамі, асабліва славянскімі.

Каталіцкая царква прызнавала для набажэнстваў толькі лацінскую мову. Большасць жыхароў Еўропы яе не ведалі. А праваслаўная царква дазволіла грэкам весці службу на грэчаскай мове, грузінам — на грузінскай, славянам — на царкоўнаславянскай.

**4. Чацвёрты крыжовы паход і Візантыя.** Пасля захопу егіпецкім правіцелем Саладзінам Іерусаліма ў Заходняй Еўропе задумалі новы крыжовы паход. Папа Рымскі Інакенцій III лічыў, што крыжаносцы павінны накіравацца

ў Егіпет. Але крыжаносцы змянілі свой маршрут і рушылі на Канстанцінопаль.

Да крыжаносцаў прыбылі паслы Аляксея, сына звергнутага візантыйскага імператара. Яны ўгаварылі кіраўнікоў крыжаносцаў дапамагчы Аляксею вярнуць прастол яго бацьку. Аляксей абяцаў вялікія грошы за дапамогу. Венецыянскія караблі з крыжаносцамі накіраваліся да сцен старажытнага Канстанцінопаля...

Летам 1203 г. крыжаносцы падышлі да Канстанцінопаля і хутка вярнулі на прастол звергнутага імператара. Але той не змог заплаціць ім абяцаных грошай. Раз'юшаныя крыжаносцы 13 красавіка **1204 г.** штурмам узялі галоўны горад Візантыі.

Упершыню сталіца старажытнай імперыі стала здабычай ворага. Крыжаносцы спалілі цэлыя кварталы, разбурылі палацы і храмы, разрабавалі храм Святой Сафіі.

На захопленых тэрыторыях крыжаносцы заснавалі сваю дзяржаву са сталіцай у Канстанцінопалі — *Лацінскую імперыю*. На незанятых імі землях утварылася некалькі невялікіх грэчаскіх дзяржаў. Іх правіцелі вялі доўгую барацьбу з крыжаносцамі.

Чацвёрты крыжовы паход

*Адкуль і куды павінны былі адправіцца крыжаносцы?*

*Якую веру спавядалі жыхары Візантыі?*




势 

Плануемы напрамак паходу
Напрамак 4-га крыжовага паходу
Тэрыторыя Лацінскай імперыі, якая была створана крыжаносцамі

**Візантыйскі гісторык аб разрабаванні Канстанцінопаля**

Цяжка і немагчыма было змягчыць маленнем і ўміласцівіць гэты варварскі народ... Усякі павінен быў баяцца за сваё жыццё; на вуліцах плач, крыкі, енкі, на перакрыжаваннях рыданне, у храмах жалобныя стогны... Аб разрабаванні галоўнага храма Святой Сафіі нельга слухаць раўнадушна. Святыя прадметы, затканыя каштоўнасцямі незвычайнай прыгажосці, былі рассечаны на кавалкі і раздзелены паміж воінамі разам з іншымі раскошнымі рэчамі...

У **1261 г.** захопнікаў нарэшце выгналі з Канстанцінопаля. Візантыйская імперыя была адноўлена. Але яна з'яўлялася толькі прывідам некалі вялікай дзяржавы.

Вартае жалю відовішча ўяўляў і Канстанцінопаль, паўразбураны, з зарослымі пустазеллем плошчамі. *(Як вы думаеце, хто больш за ўсё выйграў ад разбурэння Канстанцінопаля?)*

Імператары вялі войны за вяртанне страчаных тэрыторый. Гэта патрабавала вялікіх сродкаў, і зноў раслі падаткі, якія цяжкім ярмом клаліся на насельніцтва. Візантыя ўсё больш слабела. А на яе ўсходніх граніцах умацоўвалася турэцкая дзяржава. Хутка яна стала галоўным праціўнікам Візантыі і суседніх хрысціянскіх дзяржаў.

? **1.** Складзіце план адказу «Прычыны аслаблення Візантыі». **2.** Растлумачце, чаму ў гандлі гарады Візантыі не вытрымлівалі саперніцтва з італьянскімі гарадамі. **3.** Параўнайце праваслаўную і каталіцкую цэрквы паводле плана: галава царквы, адносіны з манархамі, распаўсюджанне на другія тэрыторыі, мова набажэнстваў. Адказ афарміце ў выглядзе табліцы. **4.** Дакажыце, што да канца XIII ст. Візантыя канчаткова страціла сваю магутнасць. Прывядзіце не менш за 3 прыклады.

## Глава 3. ПОЗНЯЕ СЯРЭДНЕВЯКОЎЕ (XIV—XV стст.)

### § 12. Познефеадальнае грамадства ў Заходняй Еўропе

?! **1.** Што азначала для селяніна пазямельная і асабістая залежнасць ад феадала? **2.** У чым адрозненне таварна-грашовай гаспадаркі ад натуральнай?

У Высокім сярэдневякоўі ўсталяваўся, здавалася, трывалы парадак у адносінах паміж людзьмі. Селянін залежаў ад феадала, васал — ад сеньёра. А што адбудзецца, калі ў гэтым ланцугу залежнасці знікне адно або два звяны? Напрыклад, селянін атрымае асабістую свабоду, а васал застанецца без свайго сеньёра. У Сярэднія вякі такое нават было цяжка ўявіць. Але гэта адбылося...

**1. Развіццё сельскай гаспадаркі. Вызваленне сялян.** Асноўным заняткам насельніцтва Заходняй Еўропы ў Познім сярэдневякоўі заставалася сельская гаспадарка. Рост гарадоў і гарадскога насельніцтва выклікаў значнае павелічэнне попыту на прадукты харчавання і сыравіну. Гэта дало магутны штуршок да развіцця сельскай гаспадаркі.



Ворыва і сяўба. *Мініяцюра XV ст.*

Феадалы, каб павялічыць свае даходы, адмянялі паншчыну. Замест яе яны дзялілі панскія палі на надзелы і перадавалі сялянам у карыстанне. За гэта сяляне плацілі феадалам аброк, спачатку — прадуктамі, затым — грашамі.

Селянін мог удзяляць сваёй гаспадарцы больш часу. Ён сам адвозіў прадукты на гарадскі рынак і прадаваў іх. І чым больш прадаваў, тым больш грошай заставалася ў яго пасля выплаты аброку феадалу.

У XIV—XV стст. амаль ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы сяляне былі вызвалены ад асабістай залежнасці. Звычайна гэта адбывалася за выкуп, які земляробы плацілі свайму феадалу. Спачатку ўсё гэта адбывалася ў Італіі і Францыі, затым у Англіі і іншых краінах. А на ўсходзе Еўропы асабістая залежнасць сялян захавалася яшчэ на некалькі стагоддзяў. *(Пацвердзіце сказамі з тэксту, што становішча сялян у Заходняй Еўропе мянялася.)*

**2. Мануфактурная вытворчасць: рэзкі рост вытворчасці тавараў.** ***Мануфактура*** *— гэта прадпрыемства, заснаванае на раздзяленні працы і выкарыстанні ручной працы.* Тэрмін складаецца з лацінскіх слоў, якія абазначаюць словы «рука» і «вытворчасць».

У Еўропе першыя мануфактуры ўзніклі ў Паўночнай Італіі ў пачатку XIV в. Найбольш буйныя з іх знаходзіліся ў Фларэнцыі. Гэта былі прадпрыемствы па вытворчасці тканіны — сукнаробныя мануфактуры.

Спачатку ў Фларэнцыі дазволілі рабіць шарсцяное сукно не толькі майстрам цэхаў, але і купцам. Купцы прымалі



Суконная мануфактура. *Малюнак сучаснага мастака*

на работу спрактыкаванага майстра-сукнароба. Пасля гэтага яны закуплялі шэрсць і наймалі людзей для яе апрацоўкі. Гэтыя работнікі выконвалі толькі адну простую аперацыю. Напрыклад, адзін работнік мыў шэрсць, вымытая шэрсць трапляла да другога работніка, які яе сушыў. Затым трэці работнік часаў шэрсць. Прадзільшчыкі пралі пражу, а затым яе перадавалі ткачам.

Размеркаванне работнікаў па простых аперацыях пры вытворчасці вырабу называецца *раздзяленнем працы*.

Работнік павінен быў добра ведаць і выконваць толькі сваю аперацыю. Яго праца не патрабавала доўгай падрыхтоўкі, а значыць, была таннай. Работнікі мануфактур за сваю працу атрымлівалі грошы, г. зн. яны былі ***наёмнымі рабочымі***.



Знайдзіце інфармацыю аб тым, што і як выраблялі на сярэдневяковых мануфактурах.

Мануфактура прыйшла на змену рамеснай майстэрні. Вырабаў выпускалася намнога больш, і цана тавараў знізілася.

**3. Цэнтралізаваная дзяржава.** Развіццё гарадоў, рамяства, сельскай гаспадаркі, гандлю выклікала неабходнасць аб'яднання краіны пад адзінай уладай караля. У гэтай барацьбе караля падтрымлівалі рамеснікі і купцы. Раней кожны феадал за права праезду па сваіх уладаннях браў плату, а гандляры неслі страты. А ў адзінай краіне такіх перашкод быць не магло.



Рыцар XIV ст.
*Рэканструкцыя*

Дробныя феадалы таксама хацелі атрымаць абарону караля ад усеўладдзя сваіх сеньёраў. Нарэшце, усе жыхары краіны пакутавалі ад міжусобных




▲ Цэнтралізаваная дзяржава ў Францыі

войн феадалаў. І толькі кароль са сваёй моцнай арміяй мог спыніць іх і абмежаваць правы буйных феадалаў.

Пасля аб'яднання краіны менавіта каралеўская ўлада стала цэнтрам кіравання дзяржавай. Дзяржава, кіраванне якой ажыццяўляецца з аднаго цэнтра, называецца ***цэнтралізаванай дзяржавай***. У Познім сярэдневякоўі такія дзяржавы сфарміраваліся ў Англіі, Францыі і Іспаніі.

У гэтых дзяржавах усе феадалы прысягалі на вернасць каралю. Рыцары, якія раней уваходзілі ў атрады сваіх сеньёраў, паступалі на службу ў каралеўскую армію. Цяпер усе феадалы краіны — і буйныя, і дробныя — падпарадкоўваліся аднаму правіцелю. У Заходняй Еўропе паступова знікла феадальная іерархія.

Грамадства ў Познім сярэдневякоўі ўжо было не такім, як у Высокім сярэдневякоўі. Змяніліся феадальныя адносіны паміж феадаламі і сялянамі і паміж самімі феадаламі. ***Познефеадальнае грамадства*** — *грамадства, у якім галоўнымі застаюцца феадальныя адносіны, але знікаюць асабістая залежнасць сялян ад феадалаў і феадальная іерархія.*

У тых краінах, дзе стварылася цэнтралізаваная дзяржава, адбываліся вялікія змяненні. Напрыклад, для кіравання краінай спатрэбілася шмат каралеўскіх чыноўнікаў. *(Чаму ў Высокім сярэдневякоўі ў краінах Заходняй Еўропы было мала чыноўнікаў?)*

Павелічэнне колькасці чыноўнікаў і з'яўленне пастаяннай арміі патрабавалі вялікіх дзяржаўных выдаткаў. Грошы на




Сярэдневяковы город. *Мініяцюра XV ст.*

свае расходы дзяржава атрымлівала, збіраючы падаткі. Пры гэтым нельга было дзейнічаць толькі з выкарыстаннем сілы. Незадаволенае насельніцтва магло падняць паўстанне. Каб сабраць грошы, патрабавалася заручыцца згодай гараджан, феадалаў, духавенства. Таму каралі вымушаны былі склікаць прадстаўнікоў гэтых груп насельніцтва (саслоўяў) на сходы. На гэтых сходах не толькі давалася згода на збор падаткаў, але і прымаліся законы, па якіх жыла краіна.

Манархія, у якой кароль звяртаецца за парадай і згодай да прадстаўнікоў саслоўяў, называецца ***саслоўна-прадстаўнічай манархіяй***.

Саслоўна-прадстаўнічым органам улады ў Англіі быў парламент. Сход прадстаўнікоў французскіх саслоўяў называўся ***Генеральныя штаты***. Упершыню яны былі скліканы ў **1302 г.** *(Калі ў Англіі з'явіўся парламент?)*

**4. Дзяржавы Заходняй Еўропы і каталіцкая царква.** Папа рымскі не мог дыктаваць сваю волю манархам цэнтралізаваных дзяржаў. Цяпер каралёў падтрымлівала большасць насельніцтва дзяржавы, і яны не баяліся пагроз з Рыма. Каралі заставілі святарам сваёй краіны выконваць толькі іх волю і законы краіны.



Папскі палац у Авіньёне. Францыя. *Фота*

*Як вы думаеце, для чаго папам быў неабходны палац з такімі магутнымі ўмацаваннямі?*

*Дзе папы знаходзіліся ў большай бяспецы: у Авіньёне або ў Рыме?*

У XIV ст. амаль 70 гадоў рымскія папы жылі ў горадзе Авіньёне. Там папы знаходзіліся пад кантролем французскіх каралёў, па ўказанні якіх папамі выбіраліся толькі французы. Таму гэты перыяд называюць «авіньёнскім паланеннем».

Пазней папам удалося вярнуцца ў Рым. Аднак узнік раскол: у Францыі і Італіі адначасова выбіралі двух пап, якія адразу праклялі адзін другога. Амаль 40 гадоў каталіцкая царква была расколатай. Толькі ў 1414 г. імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі сабраў царкоўны сабор (збор вышэйшага духавенства) у Канстанцы. У 1417 г. на ім скінулі ўсіх пап і выбралі аднаго. Але ўладыкі каталіцкай царквы ўжо не мелі былой магутнасці.

? **1.** Дапоўніце лагічны ланцужок: рост гарадоў — ? —? —? — вызваленне сялян ад асабістай залежнасці. **2.** Складзіце пытанні для параўнання рамеснай майстэрні і мануфактуры. **3.** Растлумачце, хто і чаму быў зацікаўлены ва ўмацаванні каралеўскай улады. **4.** Якія органы саслоўнага прадстаўніцтва існавалі ў краінах Заходняй Еўропы? Назавіце прычыны іх стварэння. **5.** Запішыце ў гістарычны слоўнік азначэнні паняццяў: *мануфактура*, *познефеадальнае грамадства, цэнтралізаваная дзяржава, саслоўна-прадстаўнічая манархія, Генеральныя штаты.*

Слоўнік

# § 13. Стогадовая вайна (1337—1453)

?! Калі і як землі ў Францыі апынуліся пад уладай каралёў Англіі?

У Познім сярэдневякоўі разгарэлася вайна, названая Стогадовай. Вы ўжо ведаеце, што бываюць такія доўгія войны. Давайце паспрабуем высветліць, хто, чаму і за што ваяваў. І як адбылося, што не закаваныя ў браню воіны-рыцары, а простая сялянская дзяўчына стала выратавальніцай сваёй краіны?

**1. Прычыны Стогадовай вайны.** У пачатку Позняга сярэдневякоўя Англія і Францыя былі моцнымі дзяржавамі Еўропы. Абедзве краіны былі дзяржавамі з моцнай каралеўскай уладай. Французскія каралі імкнуліся завяршыць аб'яднанне Францыі. Але на паўднёвым захадзе Францыі знаходзіліся ўладанні англійскіх каралёў. Французскія каралі хацелі вярнуць іх сабе. А англійскія каралі і феадалы, наадварот, імкнуліся атрымаць яшчэ больш зямель у Францыі.



*Да якога года англічане захапілі найвялікшую тэрыторыю ў Францыі?*




Англійскія ўладанні да 1337 г.
Англійскія ўладанні ў Францыі да 1360 г.
Тэрыторыі, якія знаходзіліся пад уладай Англіі да 1429 г.
Уладанні французскага караля Карла VII у 1429 г.
Граніцы Францыі да канца вайны
Напрамкі англійскіх паходаў
Паход на чале з Жаннай д'Арк
1346 Буйнейшыя бітвы

Стогадовая вайна

І здавалася, жаданні англічан могуць здзейсніцца. У Францыі памёр кароль. Сыноў-наследнікаў у яго не было. Англійскі кароль Эдуард III Плантагенет прыходзіўся пляменнікам памерламу французскаму каралю. І ён адразу заявіў аб сваім праве на каралеўскую ўладу ў Францыі.

Але ў Познім сярэдневякоўі феадальная іерархія была ліквідавана. Феадалы залежалі толькі ад аднаго сеньёра — свайго караля. Манарх стаў адзіным сеньёрам для ўсіх феадалаў краіны. І сяляне ўжо разумелі, што плацяць яны падаткі чыноўнікам караля і судзяць іх каралеўскія суддзі, а не мясцовы феадал. Французы ўжо не хацелі, каб іх сеньёрам быў чужаземец. Новым правіцелем быў абвешчаны сваяк памерлага караля французскі феадал Філіп Валуа. Спрэчка аб тым, хто зойме каралеўскі прастол, стала падставай для пачатку вайны.

Гэтую вайну пачаў англійскі кароль Эдуард III у **1337 г.** Ён хацеў захапіць Францыю і стаць яе каралём. Французы абаранялі сваю зямлю і дзяржаву. *(Падлічыце, колькі гадоў у сапраўднасці працягвалася Стогадовая вайна.)*

Англійская армія была невялікай, але рухомай і баяздольнай. Усе загады і пехацінцамі, і рыцарамі не аспрэчваліся. У войску англічан было шмат лучнікаў з сялян. Пушчаныя з лукаў стрэлы ляцелі далёка і наносілі вялікі ўрон рыцарскай конніцы, якая атакавала.

Французская армія была вялікай, але французскія рыцары не прывыклі выконваць агульныя загады і лічылі, што на вайне трэба паказаць перш за ўсё асабістую доблесць. Яны зняважліва глядзелі на нязнатных па паходжанні пехацінцаў.

**2. Асноўныя падзеі вайны.** У пачатку вайны баявыя дзеянні англічан супраць французаў былі паспяховымі. Французскі флот быў разбіты на моры, а армія была разгромлена пад *Крэсі* ў **1346 г.**

Ударную сілу французскай пяхоты складалі арбалетчыкі. Але арбалет тады ўступаў англійскаму доўгаму луку ў хуткастрэльнасці і дальнасці палёту стралы. Бітва пад Крэсі пачалася з абстрэлу арбалетчыкамі англійскага войска. У адказ паляцелі стрэлы з лукаў. Гэта было страшнае відовішча. Ад кожнага залпа англічан падала мноства забітых арбалетчыкаў. Ратуючыся ад гібелі, уцалелыя кінуліся назад. І тады, раззлаваныя няўдачай гэтых простых людзей, французскія рыцары на конях кінуліся ў атаку. Яны бязлітасна тапталі коньмі сваю ж пяхоту, але хутка самі трапілі пад стрэлы англічан. Рыцары выляталі з сёдлаў, гінулі і людзі, і коні. Атака захлынулася.

Англічане захапілі горад-порт Кале, які стаў іх асноўнай базай на французскай зямлі. **У 1356 г.** англійскія войскі разбілі французаў пад *Пуацье*. Тут загінула некалькі тысяч рыцараў, сам французскі кароль трапіў у палон. Францыя павінна была аддаць за яго вялікі выкуп.


7, с. 25

У 1360 г. Францыя і Англія падпісалі мірны дагавор. Па яго ўмовах Англія атрымала амаль трэцюю частку французскай тэрыторыі.

Французы не змірыліся з паражэннем. Яны ўмацавалі армію. Цяпер камандзіраў прызначалі, улічваючы і талент, і тытул. Ваенныя дзеянні аднавіліся. Французы пачалі крок за крокам вызваляць краіну. Праз 15 гадоў Англія захавала за


Бітва пад Крэсі. *Мініяцюра XV ст.*

сабой толькі некалькі гарадоў на ўзбярэжжы Францыі. На гэтым вайна зноў прыпынілася.

У пачатку XV ст. у Францыі пачалася барацьба паміж буйнымі феадаламі. Гэтая барацьба аслабіла краіну. Англія вырашыла выкарыстаць аслабленне Францыі і ў саюзе з герцагам Бургундыі аднавіла баявыя дзеянні. Саюзнікі захапілі вялікія тэрыторыі на поўначы Францыі. Не здаваўся толькі поўдзень краіны, дзе правіў сын памерлага караля ***Карл***. У **1428 г.** англічане пачалі асаду горада Арлеана. Захапіўшы яго, яны змаглі б пачаць заваяванне поўдня, а затым і ўсёй Францыі. *(Калі становішча Францыі было больш небяспечным: у канцы XIV ст. ці ў пачатку XV ст.? Абгрунтуйце сваё меркаванне.)*



Жанна д'Арк каля сцен Арлеана

*Як Жанна д'Арк дзейнічала ў баі?*

**3. Жанна д'Арк — гераіня Францыі.** У гэты складаны для Францыі момант на абарону радзімы выступіла 16-гадовая дзяўчына-сялянка ***Жанна д'Арк***. Яна паспяшалася да каменданта адной з французскіх крэпасцей. Жанна стала пераконваць яго, што Бог хоча ператаваць Францыю і зробіць ён гэта праз яе. Камендант пасля доўгіх ваганняў даў Жанне баявога каня і зброю. Тым часам слухі пра яе хутка разышліся па краіне. Усе французы, ад селяніна да феадала, паверылі, што Жанну паслаў Бог і Бог выратуе іх ад англічан.

Карл паставіў дзяўчыну на чале арміі і даў ёй вопытных

дарадчыкаў. Падчас баёў яна пастаянна была ў найбольш небяспечных месцах і паказвала сапраўдны цуд храбрасці. У 1429 г. армія на чале з Жаннай падышла да Арлеана. Хутка англічане былі разбіты. Арлеан быў у асадзе 209 дзён, армія Жанны д'Арк вызваліла яго за 9 дзён! Для французаў гэта быў сапраўдны цуд і доказ дапамогі Бога. Вызваленне Арлеана ад асады стала пераломнай падзеяй у вайне. Наступленне французаў было нястрымным. Яны вызвалялі горад за горадам.

Лёс Жанны д'Арк склаўся трагічна. У 1430 г. яе ўзялі ў палон бургундцы. За вялікі выкуп герцаг Бургундыі аддаў яе англічанам. Над Жаннай быў праведзены царкоўны суд, які абвінаваціў яе ў вядзьмарстве. Суд прызнаў Жанну вінаватай у ерасі, і яна была спалена на кастры ў 1431 г. Праз 25 гадоў па распараджэнні караля Францыі справа Жанны д'Арк была перагледжана, і яе прызналі невіноўнай. Жанна д'Арк стала нацыянальнай гераіняй Францыі.

**4. Вынікі Стогадовай вайны.** Закончылася Стогадовая вайна ў **1453 г.** Цяпер у Англіі захаваўся толькі адзін горад на французскай зямлі — Кале. Французы перамаглі ў Стогадовай вайне і вызвалілі сваю краіну ад захопнікаў.

Вайна прывяла Францыю да разбурэння. Загінула шмат людзей, частка зямель не апрацоўвалася. Некалькі дзесяцігоддзяў спатрэбілася для аднаўлення гаспадаркі краіны. Але перамога ў вайне прывяла да ўмацавання каралеўскай улады ў Францыі. Насельніцтва Англіі пакутавала ад падаткаў на вайну, якія рэзка ўзраслі. А паражэнне ў вайне аслабіла ўладу англійскіх каралёў.

? **1.** Вызначыце прычыны Стогадовай вайны. **2.** Растлумачце, чаму з боку Францыі вайна была абарончай. **3.** Чаму зняцце асады Арлеана ў 1429 г. стала пераломнай падзеяй у ходзе Стогадовай вайны? **4.** Складзіце апавяданне аб ходзе Стогадовай вайны паводле плана: прычыны вайны,

асноўныя падзеі, вынікі. Пры адказе выкарыстайце карту на с. 73. **5.** Растлумачце, чаму вайна рэзка пагоршыла становішча насельніцтва Англіі і Францыі. Прывядзіце не менш за 3 прычыны.


Падрыхтуйце і прапануйце аднакласнікам паведамленне аб бітвах пры Крэсі і Пуацье паводле плана: дата, месца, мэты ўдзельнікаў, ход бітвы, вынікі.

## § 14. Краіны Заходняй Еўропы і Візантыя ў XIV—XV стст.

?! **1.** Растлумачце паняцце *цэнтралізаваная дзяржава*. **2.** Калі і як утварылася Свяшчэнная Рымская імперыя? **3.** Што азначае паняцце *Рэканкіста*? Калі яна пачалася?

У Познім сярэдневякоўі папы рымскія ўжо не дыктавалі сваю волю манархам краін Заходняй Еўропы. Сіла дзяржаў вызначалася не іх памерамі і колькасцю насельніцтва. Галоўнымі становяцца дзяржавы з моцнай каралеўскай уладай, якая абапіралася на падтрымку розных слаёў насельніцтва сваёй краіны. Якія краіны выходзяць у лідары?

### 1. Цэнтралізаваныя дзяржавы — мацнейшыя ў Еўропе.

У Познім сярэдневякоўі ў Еўропе ўтварыліся Англія і Францыя. А ў канцы XV ст. з'явілася новая цэнтралізаваная дзяржава — Іспанія. Менавіта яны сталі мацнейшымі ў Заходняй Еўропе, хоць і не былі самымі вялікімі.

Самай вялікай дзяржавай заставалася Свяшчэнная Рымская імперыя, але там панавала феадальная раздробленасць. Гэта аслабляла імперыю.



Фердынанд Арагонскі і Ізабэла Кастыльская. *Мініяцюра XV—XVI стст.*

*Іх шлюб прывёў да аб'яднання Арагона і Кастыліі.*

**2. Францыя і Англія.** Пасля Стогадовай вайны Францыя завяршыла сваё аб'яднанне. Кароль Людовік XI, які дзейнічаў сілай, інтрыгамі і подкупам, падпарадкаваў сабе апошніх незалежных французскіх герцагаў і графаў. Самым моцным з іх заставаўся герцаг Бургундыі Карл Смелы. Людовік XI натравіў на Карла Смелага яго ворагаў. У адной з бітваў герцаг Бургундыі быў забіты.

Людовік XI аддаваў перавагу хітрасці. За гэта яго празвалі «сусветным павуком». Крэпасці кароль стараўся браць не штурмам, а подкупам здраднікаў. Карл Смелы атрымаў сваё прозвішча за храбрасць, ён імкнуўся праславіцца ў баях.

У Англію пасля няўдач у Францыі вярнуліся разбітыя і азлобленыя войскі. Неўзабаве пачалася барацьба за ўладу паміж прадстаўнікамі дзвюх галін дынастыі Плантагенетаў. У яе былі ўцягнуты многія феадалы Англіі, пачалася доўгая міжусобная вайна. Яна атрымала назву ***вайны Пунсовай і Белай ружы***, паводле колеру руж, выяўленых на гербах бакоў, якія варагавалі паміж сабой.



Пунсовая ружа

Вайна расцягнулася на 30 гадоў. Яна прывяла да ўзаемнага знішчэння значнай часткі буйных феадалаў Англіі. Гэта азначала рэзкае аслабленне галоўных праціўнікаў каралеўскай улады. Новы кароль Англіі заснаваў новую дынастыю і ўмацаваў сваю ўладу.



Белая ружа

Да канца Сярэдневякоўя Англія і Францыя сталі самымі магутнымі цэнтралізаванымі дзяржавамі Еўропы.



Герб Свяшчэннай Рымскай імперыі

**3. Свяшчэнная Рымская імперыя. Германія і Італія.** У склад Свяшчэннай Рымскай імперыі ўваходзілі Германія, Паўночная Італія, Чэхія, Нідэрланды. Але яна так і не стала цэнтралізаванай дзяржавай. З цягам часу Германія і Італія раздзяліліся на мноства буйных і дробных дзяржаў. На чале кожнай германскай дзяржавы-княства стаяў незалежны правіцель, які меў поўную ўладу, свае войска і які чаканіў свае манеты.

У Свяшчэннай Рымскай імперыі не было адзіных законаў і падаткаў для ўсёй краіны. У Познім сярэдневякоўі ўлада імператара была слабай. У сярэдзіне XIV ст. быў устаноўлены парадак, па якім сем магутных князёў выбіралі імператара. Фармальна ён лічыўся галавой усёй краіны, але на самай справе кіраваў толькі ўласным княствам. Ён не меў права ўмешвацца ў справы другіх князёў. *(Растлумачце, як гэты парадак замацаваў раз’яднанасць і раздробленасць краіны.)*

Адсутнасць адзінства Свяшчэннай Рымскай імперыі была выклікана шэрагам прычын. Тут пражывалі розныя народы: немцы, чэхі, італьянцы, галандцы, славенцы, яўрэі і іншыя. Яны мелі сваю мову, свае традыцыі, сваю культуру.

Гаспадарчае развіццё ў розных частках імперыі ішло неаднолькава. Найбольш развітой была Паўночная Італія — край багатых і квітнеючых гарадоў. Менавіта там узніклі першыя мануфактуры і бурна развіваліся рамяство і гандаль. Гэтыя гарады былі самастойнымі гарадамі-рэспублікамі. Улада



▲ Венецыянскі і генуэзскі караблі. *Рэканструкцыя*

ў іх належала самым багатым купцам. *(Назавіце адрозненні рэспублікі ад манархіі.)*

Буйнейшымі з італьянскіх гарадоў-рэспублік былі Венецыя і Генуя. Яны кантралявалі гандаль у Міжземным і Чорным морах. Эканамічна развітымі былі поўнач Германіі і вобласці ўздоўж рэк Рэйн і Дунай. Сельскагаспадарчая Усходняя Германія, наадварот, была адсталай. Тут феадалы ў XV ст. сталі пераводзіць сялян з аброку на паншчыну, хоць у Паўночнай Італіі ўсе сяляне атрымалі асабістую свабоду.

У выніку Свяшчэнная Рымская імперыя не змагла перадолець гаспадарчай раз'яднанасці і раздробленасці на асобныя дзяржавы.

**4. Іспанія.** У **1479 г.** хрысціянскія каралеўствы Кастылія і Арагон аб'ядналіся ў адну дзяржаву. У выніку на карце Еўропы з'явілася яшчэ адна моцная дзяржава — Іспанія. Аб'яднанне дзяржаў пад адзінай уладай называюць ***дзяржаўнай уніяй***.

У **1492 г.** іспанцы захапілі апошняе ўладанне мусульман на Пірэнейскім паўвостраве — Гранаду. Так закончылася шматвяковая Рэканкіста.

Пасля завяршэння Рэканкісты правіцелі Іспаніі ў пошуках новых зямель і даходаў адправілі за далёкія моры сваіх рыцараў. Іх канкурэнтамі сталі партугальцы. Іспанская



Хрыстафор Калумб абвяшчае далучэнне новых зямель да Іспаніі. *Малюнак XIX ст.*



Васка да Гама. *Мініяцюра XV ст.*

флатылія Хрыстафора Калумба адкрыла ў **1492 г.** Амерыку. Партугалец Васка да Гама ў **1498 г.** знайшоў марскі шлях у Індыю, абагнуўшы з поўдня Афрыку. Пры пасрэдніцтве рымскага папы Іспанія і Партугалія дамовіліся аб раздзеле новаадкрытых імі зямель. За Іспаніяй прызнаваліся ўладанні ў Амерыцы, за Партугаліяй — у Афрыцы.

**5. Падзенне Візантыі.** У той год, калі закончылася Стогадовая вайна, страшная вестка абляцела Еўропу: «Туркі ўзялі Канстанцінопаль!»

Сама Візантыя была ўжо слабай. Яна сціснулася да памераў невялікай вобласці вакол Канстанцінопаля. Горад, які называлі «Новым Рымам», уяўляў сабой сумнае відовішча. Мноства закінутых майстэрань рамеснікаў і лавак гандляроў, а некаторыя раёны і зусім здаваліся вёскамі. Толькі вуліцы, дзе гандлявалі італьянскія купцы з Генуі і Венецыі, былі ажыўленымі.

У XIV ст. у Малой Азіі ўзвысілася турэцкае княства, створанае ***Асманам***. Яго правіцелі падпарадкавалі сабе іншыя турэцкія княствы і прыступілі да заваявання Бал-

канскага паўвострава. У красавіку 1453 г. вялікая турэцкая армія асадзіла Канстанцінопаль. Імператар звярнуўся за дапамогай да еўрапейскіх дзяржаў. Але часы былі ўжо іншыя. Хрысціянскія правіцелі і рыцары Еўропы не прыйшлі на выручку.



Штурм туркамі Канстанцінопаля

29 мая **1453 г.** пасля рашучага штурму туркі ўварваліся ў горад. Абаронцы былі перабіты. Гараджане, якія засталіся ў жывых, трапілі ў рабства. Загінуў і апошні імператар дзяржавы. Візантыя з гэтага часу перастала існаваць. Цэнтр праваслаўя — горад Канстанцінопаль — заваёўнікі-мусульмане пазней перайменавалі ў Стамбул. Сабор Святой Сафіі быў ператвораны імі ў мусульманскі храм. Крыж на ім змяніўся на паўмесяц.

Замацаваўшыся на Балканах, Турцыя стала грозным праціўнікам для многіх дзяржаў Еўропы.

**1.** Якія дзяржавы былі мацнейшымі ў Заходняй Еўропе ў Познім сярэдневякоўі? **2.** Што было агульным у развіцці Францыі і Англіі пасля заканчэння Стогадовай вайны? Знайдзіце адрозненні ў развіцці гэтых краін. **3.** Растлумачце прычыны аслаблення Свяшчэннай Рымскай імперыі. **4.** Як звязаны Рэканкіста і ўтварэнне дзяржавы Іспанія? **5.** Чаму Візантыя не змагла адбіць націск туркаў-асманаў? **6**. Дапоўніце гістарычны слоўнік паняццем *дзяржаўная унія.*



Слоўнік



У чым адрозненне аб’яднання Іспаніі ад таго, як гэта адбывалася ў Англіі і Францыі?

## § 15. Ранняе Адраджэнне

?! **1.** Дзе ўзніклі першыя мануфактуры? **2.** Спецыялістаў якіх прафесій рыхтавалі ў сярэдневяковых універсітэтах?

> Што менавіта хацелі адрадзіць мысліцелі і творцы? Што не задавальняла іх у сучасным жыцці? Чаму іх позіркі накіраваліся да далёкай антычнасці? І чаму гэта адбылося менавіта ў Познім сярэдневякоўі?

**1. Як з'явілася культура Адраджэння?** У Познім сярэдневякоўі з'явіўся новы тып культуры — культура ***Адраджэння***. Яна развівалася і ў далейшым. Таму XIV—XV стст. прынята называць ***Раннім Адраджэннем***, а XVI ст. — ***Познім Адраджэннем***.

Культура Адраджэння зарадзілася ў гарадах-рэспубліках Паўночнай Італіі. У іх бурна развіваліся гандаль, мануфактурная вытворчасць. Улада ў гэтых гарадах належала самым багатым купцам і ўладальнікам мануфактур. Гэтыя людзі глядзелі на навакольны свет зусім не так, як феадалы. Для феадалаў асноўнымі спосабамі нажывы былі войны, захоп зямель і прымушэнне сялян працаваць на



▲ Фларэнцыя. *Мініяцюра XV ст.*

іх. Заняцці вытворчасцю, гандлем, грашовымі аперацыямі патрабавалі зусім іншых уменняў і якасцей чалавека. Перш за ўсё, неабходны былі вялікія веды. І не толькі матэматыкі, тэхнікі, геаграфіі, чужых моў і звычаяў. Патрабаваліся веды аб самім чалавеку, аб устройстве і адносінах паміж людзьмі ў чалавечым грамадстве.



Партрэт банкіра Джуліяна Медзічы. *С. Батычэлі*

Багатыя жыхары гарадоў хацелі жыць прыгожа і мець асалоду ад зямнога жыцця. Вялікія сродкі траціліся на пабудову раскошных дамоў, навучанне дзяцей, пакупку кніг, карцін, скульптур.

Сталі ценіцца людзі, якія займаліся разумовай працай: настаўнікі і прафесары, архітэктары і мастакі, вучоныя і інжынеры, урачы і юрысты. Іх пазней назавуць ***інтэлігенцыяй***.



Нараджэнне Венеры. *Фрагмент карціны С. Батычэлі*

З'явіліся і новыя погляды на гісторыю чалавецтва. Некаторыя вучоныя лічылі феадальныя адносіны панавання-падпарадкавання паміж людзьмі прымітыўнымі, падобнымі да паводзін звяроў у зграі. Але якімі яны павінны быць? Ідэал грамадства гэтыя вучоныя знайшлі ў старажытных Афінах і Рымскай рэспубліцы. Лепшай формай чалавечых адносін яны лічылі калектыў свабодных грамадзян з роўнымі правамі і роўнасцю іх перад законам.

Натуральна, што Сярэдневякоўе гэтыя мысліцелі лічылі заняпадам, а сябе тымі, хто прадаўжаюць традыцыі антычнасці, адраджаюць іх. Таму сваю культуру яны называлі ***Адраджэннем***.

**2. Антычнасць, якая ажыла.** Мысліцеляў Адраджэння сталі называць *гуманістамі*, паколькі яны вывучалі «чалавечую прыроду» (на лацінскай мове — «гуманітас») і чалавека ва ўсіх праявах яго жыцця. А іх вучэнне аб чалавеку атрымала назву ***гуманізм***. Дэвізам гуманістаў стаў выраз «Чалавек — каваль свайго шчасця». Культура Адраджэння пачала сваё пераможнае шэсце па Еўропе.

У Познім сярэдневякоўі тое, што больш за ўсё хвалявала людзей антычнасці, — грамадзянін і свабода, патрыятызм, годнасць чалавека — зноў стала блізкім і зразумелым. Ізноў узнікла цікавасць да гісторыі Старажытнай Грэцыі і Старажытнага Рыма, учынкаў іх вялікіх грамадзян, да легендаў і міфаў антычнасці. Здавалася, людзі прачнуліся ад тысячагадовага сну. У грамадстве ўсталяваўся новы лад жыцця. Яго асноўнымі рысамі былі актыўнасць, практычнасць, цікаўнасць.

«Бог стварыў чалавека, каб ён усведамляў законы Сусвету, любіў яго прыгажосць, здзіўляўся яго веліччу» — так лічылі дзеячы Адраджэння.

*Як Вы лічыце, ці было Адраджэнне простым паўторам антычнасці?*

Гэта была новая культура, і паколькі яна выйшла з глыбіні Сярэдневякоўя, то з'яўлялася хрысціянскай. Культура Адраджэння стала культурай новага грамадства, якое ішло на змену феадалізму.

**3. Дантэ.** Італьянскі паэт і мысліцель ***Дантэ Аліг'еры*** стаяў каля вытокаў Адраджэння. Яго творчасць была пераходам ад старой сярэдневяковай культуры да новай. Дантэ нарадзіўся і вырас у Фларэнцыі. У конным страі, у рыцарскім узбраенні ён удзельнічаў у бітвах за свой горад. Але калі да ўлады прыйшлі яго праціўнікі, Дантэ быў прыгавораны да смерці. Ён уцёк з роднага горада і ў выгнанні пісаў свае вершы і паэмы. У іх ён заклікаў да аб'яднання Італіі.



Дантэ.
*Фрэска XV ст.*

Галоўная праца Дантэ — паэма *«Боская камедыя»*. У ёй Дантэ апісвае сваё фантастычнае падарожжа ў пекла і ў рай у суправаджэнні старажытнарымскага паэта Вяргілія.

Сам Дантэ назваў свой твор проста «Камедыя», але зачараваныя сучаснікі дадалі ў назву слова «Боская».

**4. Петрарка.** Адным з першых італьянскіх гуманістаў быў ***Франчэска Петрарка***. Яшчэ ў маладосці Петрарка стаў лепшым знаўцам антычнай гісторыі і літаратуры. Ён збіраў рукапісы старажытнагрэчаскіх і старажытнарымскіх аўтараў.

Славу Петрарку прынеслі яго вершы і паэмы. Ён пісаў не толькі на латыні, але і на мове свайго народа — італьянскай.

Петрарка лічыў, што чалавека ўзвялічвае яго адукаванасць, зацікаўленасць навукай, веданне гісторыі і культуры чалавецтва. Гэтай велічы кожны чалавек паві-



Петрарка.
*Фрэска XV ст.*

нен дабівацца сам, сваёй працай. Ён высмейваў раскошу і гультайства феадалаў. Працы і вершы Петраркі сталі шырока вядомы не толькі ў Італіі, але і ва ўсёй Еўропе.

Петрарка асуджаў войны, ваяўнічасць феадалаў. Ён пісаў: «Не лічу, што грудзі і галава, закрытыя жалезам, прыгажэйшыя, чым мірныя і не абароненыя жалезам». А на ганарлівы выкрык: «Я — правадыр на вайне, праслаўлены перамогамі!» — адказваў: «Лепш быць правадыром міру».

**5. Мастацтва Ранняга Адраджэння.** Чалавек, яго дзеянні, пачуцці, перажыванні — усё гэта стала галоўным для мастакоў Адраджэння.

Першым буйным майстрам новага жывапісу быў мастак з Фларэнцыі ***Джота***. На сваіх фрэсках і карцінах ён паказваў у асноўным біблейскія сюжэты. Ісус, Божая Маці і святыя быццам звярталіся да гледачоў, станавіліся саўдзельнікамі іх жыцця.

Джота адзін з першых мастакоў Сярэдневякоўя, хто маляваў аб'ёмна і паглыбляў прастору карціны. Чалавечыя фігуры ў яго не плоскія, а выглядаюць як жывыя.



Бегства ў Егіпет. *Джота*

***Сандра Батычэлі*** з Фларэнцыі быў адным з першых жывапісцаў Адраджэння, які стаў пісаць карціны на сюжэты антычнай міфалогіі. Батычэлі пісаў таксама партрэты і карціны на рэлігійныя тэмы.

Фларэнціец ***Данатэла*** — майстар скульптурнага партрэта. Яго скульптуры здаваліся жывымі. Раказваюць, што калі ён



Конная статуя. *Данатэла*



Партрэт маладой жанчыны. *С. Батычэлі*

працаваў над адной са сваіх статуй, то гнеўна крычаў твору: «Да гавары ж ты, нарэшце!»

Адным з лепшых архітэктараў Ранняга Адраджэння з'яўляўся ***Філіпа Брунелескі***. Пад яго кіраўніцтвам быў узведзены купал над саборам Санта-Марыі ў роднай Фларэнцыі — першы буйны помнік эпохі Адраджэння. Купал дыяметрам 42 м стаў сімвалам горада. Брунелескі лічыцца роданачальнікам архітэктуры Адраджэння. *(У якім вялікім горадзе старажытнасці архітэктары ўмелі ствараць агромныя купалы будынкаў? А ці здольны былі на гэта візантыйскія архітэктары?)*



Сабор у Фларэнцыі — твор Брунелескі. *Сучасны выгляд*


7, с. 83



Гутэнберг разглядае надрукаваны аркуш кнігі. *Малюнак XIX ст.*

**6. Кнігадрукаванне.** Вялікае значэнне для развіцця навукі і літаратуры мела ***кнігадрукаванне.***

Першая кніга ў Еўропе была надрукавана ўраджэнцам нямецкага горада Майнца ***Іаганам Гутэнбергам.*** Ён пачаў адліваць з металу прамавугольныя брусочкі з рэльефнай выявай літар. З дапамогай разборнага шрыфту складаў радкі і старонкі набору, з якога рабіў адбітак на паперы.

Для друкавання Гутэнберг прыстасаваў асобы станок, які дазваляў майстру пры дапамозе шрубы раўнамерна прыціскаць паперу да набору. **У 1445 г.** Гутэнберг выпусціў першую друкаваную кнігу. *(Параўнайце кошт і тэрміны вырабу рукапісных і друкаваных кніг. Якія магчымасці для развіцця навукі і адукацыі адкрыла кнігадрукаванне?)*



Друкаванне кніг. *XV ст.*



Аркуш Бібліі, надрукаванай Гутэнбергам у 1450 г.

**Кнігадрукаванне пачало хутка распаўсюджвацца па ўсіх краінах Еўропы. Яно зрабіла кнігі даступнымі вялікай колькасці людзей, дапамагло развіццю адукацыі.**

? **1.** Растлумачце, чаму культура Адраджэння ўзнікла менавіта ў Паўночнай Італіі. **2.** Растлумачце, чаму свой ідэал чалавечага грамадства гуманісты бачылі ў Старажытнай Грэцыі і Старажытным Рыме. **3.** Чаму гуманісты высока цанілі працу чалавека і вынікі яго працы? **4.** Як выявіліся погляды гуманістаў у мастацтве? **5.** Дакажыце, што вынаходніцтва кнігадрукавання — адно з найвялікшых дасягненняў чалавецтва. **6.** Дапоўніце свой гістарычны слоўнік паняццямі: *Адраджэнне, гуманізм.*


Слоўнік

З дапамогай інтэрнэт-рэсурсаў стварыце калекцыю «Шэдэўры жывапісу Ранняга Адраджэння». Прапануйце яе сваім аднакласнікам.

Гуманісты лічылі, што чалавек — гэта творца, паколькі ён працуе і гэтым уладкоўвае сваё жыццё. Гуманісты асуджалі пагарду феадалаў да фізічнай працы. Яны лічылі працу абавязковай для ўсіх. Багацце, створанае ўласнай працай, гуманісты праслаўлялі, а прагу да нажывы і бясплоднае накапленне асуджалі. Яны пісалі, што чалавечай працай узараны палі, узведзены гарады, а не вайной або гультайствам. Гуманісты лічылі галоўнымі якасцямі чалавека веды і абавязковую працу на карысць грамадства. Тых жа, хто нічога не зрабіў для сваёй радзімы, яны называлі «бескарыснымі грамадзянамі».

***Якія новыя для таго часу ідэі выказвалі гуманісты?***



# Раздзел II

# СЛАВЯНЕ Ў СЯРЭДНЕВЯКОЎІ

## § 16. Славяне ў Раннім сярэдневякоўі

?! **1.** Калі з'явіліся славяне? **2.** Калі адбывалася і што сабой уяўляла Вялікае перасяленне народаў?

З пачаткам Сярэдневякоўя ў гісторыі Еўропы моцна заявілі аб сабе новыя народы. Яны называлі сябе агульным іменем — славяне. Суседзі адзначалі іх ваяўнічасць і згуртаванасць. Славяне хутка асвоілі вялікія прасторы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, стварылі свае дзяржавы. Як гэта адбылося? Што адбывалася ў самім грамадстве славян?

**1. Як славяне рассяліліся ў Еўропе.** Доўгі час славяне жылі на невялікай тэрыторыі ў Цэнтральнай Еўропе. Гэтую своеасаблівую «калыску» славян называюць іх *прарадзімай*.

У выніку нашэсця гунаў і перамяшчэння германскіх плямён здаўна асвоеныя землі ў Еўропе абязлюдзелі. У V — пачатку VI ст. на іх пачалі перасяляцца славян-




Тэрыторыі, якія засялялі і асвойвалі славяне
Напрамкі рассялення славян
Тэрыторыі першых славянскіх дзяржаў:
1 Дзяржавы Сама
2 Першага Балгарскага царства
3 Вялікамараўскай дзяржавы

Першыя славянскія дзяржавы

скія плямёны. У выніку яны занялі вялікія прасторы ад ракі Эльбы (славяне называлі яе Лаба) на захадзе да Волгі на ўсходзе, ад Ладажскага возера на поўначы да ракі Дунай і Чорнага мора на поўдні.

У ходзе рассялення адбылося раздзяленне славян на ***заходніх, паўднёвых*** і ***ўсходніх***.

Заходнія славяне засялялі землі ад Віслы да Эльбы. Яны сталі продкамі сучасных польскага, чэшскага і славацкага народаў. Іншыя славянскія плямёны перайшлі Дунай і ўварваліся ва ўладанні Візантыйскай імперыі. Пасля цяжкіх войнаў з візантыйцамі яны засялілі Балканскі паўвостраў. Гэтыя плямёны склалі аснову паўднёвых славян — продкаў балгар, сербаў, харватаў і іншых народаў. Вялікая група славян засяліла тэрыторыю Усходняй Еўропы. Яны сталі асновай усходнеславянскай супольнасці. Гэта былі продкі беларускага, рускага і ўкраінскага народаў.

**2. Што ўяўляла сабой грамадства славян.** Славяне звычайна сяліліся па берагах рэк. Свае паселішчы ўмацоўвалі валамі і равамі.




▲ Заняткі славян

*Вывучыўшы схему, раскажыце аб занятках славян. Якія з іх з'яўляліся самымі важнымі?*

Славяне жылі родамі, некалькі родаў утваралі племя. Плямёны нярэдка аб'ядноўваліся ў *саюз плямён*. Свабод-



Фігурка Святавіта. *IX—X стст.*

6, с. 102

ныя супляменнікі лічыліся роўнымі. Усе важныя пытанні жыцця племені рашаліся на народных сходах — ***веча***.

Але паступова стала з'яўляцца няроўнасць, і вылучыліся багатыя людзі. Набыць багацце славяне маглі ў набегах на суседзяў. Набегі ўзначальвалі ваенныя правадыры — ***князі***. Вакол князя ўтваралася група пастаянных баявых саратнікаў і дарадчыкаў — ***дружына***. З дапамогай дружыны князь умацоўваў сваю ўладу над супляменнікамі.

**3. У што славяне верылі.** Старажытныя славяне былі язычнікамі. Яны верылі ў мноства багоў. Асабліва шанавалі тых багоў, ад якіх, паводле іх вераванняў, залежаў ураджай або рост свойскіх жывёл. Так, маці ўсяго жывога лічылася *Маці сырая зямля*.

Славяне верылі, што ўвесь навакольны свет жывы і напоўнены ду́хамі. Таму шанаваліся лясы, камяні, рэкі, балоты, азёры, крыніцы, горы. Славяне верылі, што духі пастаянна ўмешваліся ў жыццё людзей: маглі нашкодзіць, але маглі і прынесці шчасце.

Візантыйскія гісторыкі адзначалі, што галоўным богам славян — «адзіным уладаром усяго» —лічыўся бог-стваральнік маланкі. Усходнія славяне называлі яго Перуном. Пакланяліся славяне і богу Сонца Хорсу, богу-кавалю, Сварогу, які жыў на небе, апекуну статка Воласу, а таксама богу сонца і святла, які прыносіць дабро, Дажбогу. У заходніх славян самым шанаваным быў бог вайны і ўрадлівасці Святавіт.

***Як вы думаеце, чаму менавіта гэтыя багі шанаваліся славянамі?***

Для пакланення язычніцкім багам ствараліся спецыяльныя адкрытыя свяцілішчы — *ка́пішчы*. У іх ставіліся скульптурныя выявы багоў — *ідалы*. Шырока было распаўсюджана ў славян і пакланенне памерлым продкам.

**4. Утварэнне першых дзяржаў.** З'яўленне бедных і багатых, умацаванне ўлады князёў сталі ўмовамі для ўзнікнення ў славян дзяржаў. Неабходна было засцерагацца і ад знешняй небяспекі. Са стэпаў на славянскія землі часта нападалі качэўнікі. Візантыя імкнулася падпарадкаваць сабе паўднёвых славян, а грозным праціўнікам заходніх славян з'яўлялася Франкская дзяржава.

У пачатку VII ст. на ўсходзе Балканскага паўвострава ўзнік славянскі саюз ***Сем родаў*** (або *Сем плямён*). У канцы гэтага ж стагоддзя яго падпарадкавалі сабе качэўнікі-*балгары*. Яны прыйшлі з далёкіх усходніх стэпаў. Качэўнікі-балгары перайшлі да аселага жыцця, засвоілі мову і культуру мясцовага славянскага насельніцтва і хутка зліліся з ім. Паводле назвы гэтых качэўнікаў частка паўднёвых славян стала называцца балгарамі. У **681 г.** балгары нанеслі пара-



Бітва балгар з візантыйцамі. *Кніжная мініяцюра*

жэнне Візантыі. Гэтая дата лічыцца пачаткам ***Першага Балгарскага царства.***

У 864 г. балгары першымі сярод славян прынялі хрысціянства з Візантыі.

У VII ст. у разгар барацьбы з качэўнікамі-*аварамі* некалькі славянскіх плямён у сярэднім цячэнні Дуная аб'ядналася ў адно княства на чале з купцом па імі ***Сама.*** Былі разбіты не толькі качэўнікі, але і магутныя франкі, якія таксама хацелі падпарадкаваць гэта княства. Але пасля смерці Сама саюз славянскіх плямён распаўся.

У IX ст. на тэрыторыі сучаснай Чэхіі існавала ***Вялікамараўская дзяржава.*** Яе правіцелі змаглі адстаяць незалежнасць у барацьбе з франкамі. Аднак да пачатку X ст. Вялікая Маравія пала пад націскам качэўнікаў-*венграў*.

**5. Асветнікі славян Кірыла і Мяфодзій.** Прыняцце хрысціянства славянскімі народамі азначала не толькі адмаўленне ад язычніцтва і прызнанне веры ў адзінага Бога. Гэта было і далучэнне славянскіх народаў да вялікіх



Мяфодзій і Кірыла



Старонка кнігі, напісаная кірыліцай

дасягненняў сусветнай культуры. Аднак святары, якія хрысцілі славян, прынеслі з сабой Біблію і іншыя кнігі на чужых для славян мовах — грэчаскай або лацінскай. На гэтых жа мовах вялося і набажэнства.

Для таго каб хрысціянскае вучэнне стала зразумелым для славян, выкладаць яго трэба было на даступнай для іх мове. Вялікую ролю ў сцвярджэнні хрысціянства сярод славян адыгралі браты Кірыла і Мяфодзій. У 863 г. яны прыбылі ў Вялікую Маравію па просьбе яе князя.

Кірыла і Мяфодзій былі грэкамі з візантыйскага горада Салонікі (па-славянску — Салунь). У ваколіцах горада пражывала шмат славян. Таму браты добра ведалі іх мову. З 1963 г. у славянскіх краінах у гонар Кірылы і Мяфодзія штогод адзначаецца Дзень славянскай пісьменнасці і культуры. Кірыла вынайшаў азбуку для славян. Яна атрымала назву *глаголіца*. Пазней вучні Кірылы стварылі новую азбуку, якой мы карыстаемся да гэтага часу. Паводле імені хрысціянскага асветніка яна і атрымала сваю назву — *кірыліца*.

Стварэнне славянскай пісьменнасці і пераклады кніг на славянскую мову Кірылам і Мяфодзіем мелі вялікае значэнне для развіцця культуры славянскіх народаў. Сучасныя беларускі, рускі, украінскі, балгарскі і сербскі алфавіты ў сваёй аснове маюць кірыліцу.

З V ст. славяне сталі вядомы сваім суседзям. Да XI ст. у паўднёвых і заходніх славян узніклі першыя дзяржавы.

? **1.** На якія групы раздзяляліся славяне? Продкамі якіх сучасных славянскіх народаў яны з'яўляюцца? Адказ прадстаўце ў выглядзе схемы. **2.** Як было ўстроена грамадства старажытных славян? Чаму з цягам часу ўлада князёў умацавалася? **3.** Якія богі былі самымі шанаванымі ў старажытных славян? Чаму? **4.** Якія прычыны і ўмовы садзейнічалі з'яўленню ў славян першых дзяржаў? **5.** Чым вядомы Кірыла і Мяфодзій? У чым значэнне іх дзейнасці для славянскіх народаў? **6.** Дапоўніце слоўнік паняццямі: *саюз плямён, веча, князь, дружына, кірыліца.*


§ 16


Слоўнік

# § 17. Чэхія і Польшча ў X—XV стст.

?! **1.** Якія сучасныя народы адносяцца да заходніх славян? **2.** Калі і па якой прычыне загінула Вялікамараўская дзяржава?

У Цэнтральнай Еўропе славяне стварылі дзве дзяржавы — Чэхію і Польшчу. Як адбывалася станаўленне дзяржаў заходніх славян? Чаму яны аказаліся цесна звязанымі з Заходняй Еўропай?

**1. Як з'явілася і развівалася Чэхія.** На тэрыторыі Чэхіі здаўна пражывалі славянскія плямёны *чэхаў, пшаван, лучан* і інш. Пастуова сярод племянных князёў выдзяліўся князь чэхаў. У IX ст. чэшскія плямёны аказаліся пад уладай правіцеля Вялікай Маравіі. Пасля падзення гэтай дзяржавы ў пачатку X ст. утварылася ***Чэшская дзяржава***.

6, с. 117




Граніцы дзяржаў на пачатак XI ст.
Граніцы далучаных тэрыторый
Граніца Свяшчэннай Рымскай імперыі

Тэрыторыі
Польшчы ў пачатку XI ст.
Чэхіі да 1018 г.
далучаныя да Чэхіі да сярэдзіны XI ст.
далучаныя да Кіеўскай Русі ў першай палове XI ст.

▲ Польшча і Чэхія

Імператары Свяшчэннай Рымскай імперыі здзяйснялі ваенныя паходы ў Чэхію, умешваліся ў яе ўнутраныя справы. У выніку Чэхія ўвайшла ў састаў імперыі, але карысталася ў ёй вялікай самастойнасцю. Тут захаваліся свае законы, а ў 1158 г. чэшскі князь прыняў тытул караля.

Аднак немцы з цягам часу ўсё актыўней прыбіралі да рук багацці Чэхіі. Значныя ўладанні належалі і каталіцкай царкве. Сярод чэхаў нарастала незадаволенасць.



Чэшскі грош

У Познім сярэдневякоўі ў Чэхіі хутка расла колькасць насельніцтва, узнікла шмат новых гарадоў. Высокага ўзроўню дасягнула рамяство. Чэшскія манеты — сярэбраныя грошы — сталі самымі хадавымі грашыма ў Цэнтральнай Еўропе, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі.

У перыяд праўлення чэшскага караля і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі ***Карла IV*** (1346—1378) Чэхія перажывала свой росквіт. У 1348 г. у Празе паводле ўказа імператара быў заснаваны першы на славянскіх землях універсітэт. Сюды былі запрошаны самыя знакамітыя вучоныя з усёй імперыі.



7, с. 118

**2. Хто такія гусіты і чаго яны дабіваліся.** У пачатку XV ст. адным з самых вядомых і ўплывовых людзей у Празе стаў ***Ян Гус***. Ён быў выбраны рэктарам (кіраўніком) універсітэта, прыняў сан свяшчэнніка і пачаў выступаць з пропаведзямі.



Абарончыя збудаванні гусітаў. *Мініяцюра XV ст.*

*Павозкі змацоўваліся ланцугамі, каб рыцарскай конніцы было цяжка прарвацца. Укрыўшыся ў павозках, гусіты стралялі з гармат, стрэльбаў*

У сваіх пропаведзях Ян Гус крытыкаваў царкву за яе імкненне да багацця. Ён лічыў, што святары не павінны браць грошы за правядзенне рэлігійных абрадаў. Ян Гус гаварыў, што не папа рымскі з'яўляецца вышэйшым галавой царквы, а Ісус Хрыстос. Ян Гус выступаў і супраць засілля немцаў у Чэхіі.

Поспех пропаведзяў Яна Гуса і рост ліку яго паплечнікаў спалохалі царкву і нямецкіх феадалаў. Папа рымскі і імператар выклікалі парушальніка спакою на царкоўны сабор у горад Канстанцу. Тут яму прад'явілі абвінавачанне ў ерасі і спрабавалі заставіць адрачыся ад сваіх поглядаў. Ян Гус рашуча адмовіўся і **6 ліпеня 1415 г.** быў спалены на вогнішчы.

? Падрыхтуйце паведамленне пра Яна Гуса.

Пакаранне Яна Гуса скалыхнула Чэхію. У **1419 г.** яго паслядоўнікі — ***гусіты*** — паднялі паўстанне ў Празе. Хутка яно ахапіла ўсю краіну. Паўстанне было накіравана супраць каталіцкай царквы і нямецкага панавання ў Чэхіі. У ім прынялі ўдзел гараджане, сяляне і многія чэшскія феадалы. Але *паны* (буйныя феадалы) і багатыя гараджане Чэхіі схіляліся да захавання ўлады імператара.

Бязлітасныя Гусіцкія войны доўжыліся 15 гадоў. Яны спыніліся да **1434 г.**, калі паны і багатыя гараджане пайшлі на згоду з імператарам і папам рымскім. Паўстанцы былі разбіты.



Крыжаносцы атакуюць гусітаў. *Мініяцюра XV ст.*



Князь Мешка I



Баляслаў I Храбры

Папам рымскім неаднаразова абвяшчаліся крыжовыя паходы супраць гусітаў. Пакуль гусіты выступалі сумесна, яны заўсёды наносілі паражэнні ворагам.

Але кіраванне ў гарадах перайшло да чэхаў. Дзяржаўныя дакументы з гэтага часу сталі пісаць на чэшскай мове.

**3. Станаўленне Польшчы.** У Раннім сярэдневякоўі славянскія плямёны засялілі тэрыторыю паміж рэкамі Одэр і Вісла. Сярод іх выдзеліліся саюзы плямён *палян, мазаўшан, віслян*. У другой палавіне X ст. польскія землі былі аб'яднаны ў адзіную дзяржаву князем ***Мешка I***. У **966 г.** ён прыняў хрысціянства з Рыма. Пераемнік Мешка **Баляслаў I Храбры** значна пашырыў граніцы сваёй дзяржавы. У 1025 г. незадоўга да сваёй смерці ён атрымаў каралеўскі тытул.



Казімір III Вялікі. *Мастак Ян Матэйка*

На паўночным усходзе ад Польшчы на ўзбярэжжы Балтыйскага мора жылі плямёны балтыйскага народа прусаў. Паміж палякамі і прусамі пастаянна ўзнікалі канфлікты. У 1226 г. адзін з польскіх князёў запрасіў для барацьбы з прусамі рыцараў-манахаў Тэўтонскага ордэна. На захопленых прускіх землях рыцары стварылі ўласную дзяржаву. З цягам часу яна стала самым небяспечным суседам Польшчы. *(Дзе былі ўпершыню створаны ордэны рыцараў-манахаў? Як яны называліся?)*

Каралеўская ўлада ў Польшчы ўмацавалася пры ***Казіміру III Вялікім*** (1333—1370). За гады свайго доўгага праўлення Казімір III амаль у два з паловай разы павялічыў тэрыторыю дзяржавы.




Польшча і суседнія краіны ў пачатку XV ст.

Асаблівую ўвагу кароль надаваў гарадам: некаторыя з іх былі перабудаваны, пашыраны, абнесены новымі каменнымі сценамі. Таму гаварылі, што Казімір III «атрымаў Польшчу драўлянай, а пакінуў яе каменнай». *(Як вы думаеце, чаму Казімір III надаваў такую ўвагу добраўпарадкаванню гарадоў?)* У гэтыя гады гарады атрымалі шырокія правы на самакіраванне. Узорам служыла гарадское ўпраўленне нямецкага горада Магдэбурга — *Магдэбургскае права.*

Пераемнікі Казіміра III на польскім прастоле не змаглі захаваць моцную каралеўскую ўладу. Між тым працягвалася барацьба з Тэўтонскім ордэнам, які быў галоўным праціўнікам не толькі Польшчы, але і ***Вялікага Княства Літоўскага***. Гэта дзяржава ўзнікла на заходніх землях Старажытнай Русі і часткі Прыбалтыкі. Агульная пагроза зблізіла дзве суседнія краіны. У выніку ў **1385 г.** у замку Крэва паміж імі была заключана унія.



Грунвальдская бітва.
*Мастак С. Ганудцін*

Паводле ўмоў ***Крэўскай уніі*** Польшча і Вялікае Княства Літоўскае павінны былі аб'яднацца ў адну дзяржаву. На самай справе ў дзвюх дзяржавах агульным быў толькі правіцель. У кожнай з іх захаваліся свае законы, войска, сістэма кіравання. Але Крэўская унія дазволіла аб'яднаць сілы дзвюх дзяржаў у барацьбе з Тэўтонскім ордэнам.



Нямецкі рыцар.
*Рэканструкцыя*

15 ліпеня **1410 г.** каля паселішча Грунвальд тэўтонскія рыцары атрымалі знішчальнае паражэнне. Магутнасць Тэўтонскага ордэна была падарвана. Але толькі ў 1466 г. паводле ўмоў заключанага міру Тэўтонскі ордэн адмовіўся ад захопленых польскіх зямель. Польшча атрымала выхад да Балтыйскага мора. Тэрыторыя, якая засталася ў Ордэна, стала залежнай ад польскага караля.

**4. Што ўяўляла сабой грамадства заходніх славян.** На працягу X—XIII стст. у Чэхіі і Польшчы паступова складвалася феадальнае грамадства. Сяляне траплялі ў асабістую і пазямельную залежнасць ад феадалаў. Паступова, як і на захадзе Еўропы, у заходніх славян сфарміраваліся саслоўі феадальнага грамадства. Гэта былі *духавенства* («тыя, хто моляцца за ўсіх»), *шляхта* (феадалы — «тыя, хто са зброяй абараняюць усіх»). І тыя, хто забяспечвае ўсіх ежай і рэчамі, — сяляне і гараджане.




Саслоўі заходнеславянскага грамадства ў Познім сярэдневякоўі

Буйныя феадалы ў Чэхіі называліся *панамі*, а ў Польшчы — *магнатамі*. У 1374 г. польскі кароль выдаў *Кошыцкі прывілей*. Ён даваў усёй шляхце значныя прывілеі. Галоўнай з іх было вызваленне ад падаткаў і абавязкаў перад дзяржавай, акрамя ваеннай службы. У выніку польская шляхта набыла такія прывілеі, якімі не валодалі феадалы ні адной еўрапейскай краіны.

Рамеснікі ў гарадах Чэхіі і Польшчы аб'ядноўваліся ў цэхі.

Такім чынам, Чэшская і Польская дзяржавы ўзніклі ў X ст. У іх усталявалася хрысціянства заходняга абраду (каталіцтва) і паступова склалася феадальнае грамадства.

? **1.** Калі і пры якіх умовах узнікла Чэшская дзяржава? **2.** Як складваліся ў Высокім сярэдневякоўі адносіны паміж Чэхіяй і Германіяй? **3.** Што прывяло да пачатку Гусіцкіх войнаў? Якія іх вынікі? **4.** Калі і на якой тэрыторыі ўзнікла Польская дзяржава? **5.** Якія адносіны склаліся ў Польшчы з Тэўтонскім ордэнам і Вялікім Княствам Літоўскім? **6.** Што ўяўляла сабой у Высокім сярэдневякоўі грамадства заходніх славян? **7.** Дапоўніце гістарычны слоўнік паняццямі: *паны, гусіты, шляхта, магнаты, Магдэбургскае права.* **8.** Што агульнае і што адметнае можна выявіць у развіцці Польшчы і Чэхіі ў перыяд Сярэдневякоўя?

Слоўнік

## § 18. Лёсы славян Балканскага паўвострава

?! **1.** Якая група славян засяліла Балканскі паўвостраў? **2.** Хто такія балгары? **3.** Калі ўзнікла Першае Балгарскае царства?

Славяне на Балканскім паўвостраве ў Сярэднія вякі стваралі моцныя дзяржавы. Але ні адна з іх не змагла захаваць сваёй незалежнасці. Чаму так адбылося? Перад націскам якога небяспечнага ворага не змаглі ўстаяць паўднёвыя славяне?

**У чым асаблівасць развіцця балканскіх зямель.** На Балканскім паўвостраве ў Сярэднія вякі размяшчаліся дзяржавы паўднёвых славян — *Балгарыя, Сербія* і *Харватыя*. Паўднёвыя славяне засялілі тэрыторыі, якія раней уваходзілі ў склад Візантыйскай імперыі. Гэта магутная дзяржава імкнулася зноў падпарадкаваць сабе ўвесь Балканскі паўвостраў.

Ад антычнасці на Балканскім паўвостраве захавалася шмат дарог, партоў на марскім узбярэжжы. Праз гэтыя землі ажыццяўляліся важнейшыя гандлёвыя сувязі Азіі і Еўропы.

Дзяржавы паўднёвых славян склаліся там, дзе раней існавала старажытная рымская цывілізацыя. Але феадальныя адносіны фарміраваліся ў іх іначай, чым у варварскіх каралеўствах Заходняй Еўропы. У паўднёвых славян яны складваліся павольней. Пазней з'явілася прыватная ўласнасць на зямлю. Першымі ад славянскіх правіцеляў землі

з сялянамі атрымала не знаць, а манастыры. Доўгі час выкарыстоўвалася праца рабоў.



Цар Сімяён.
*Мастак Д. Гюджэнаў*

**2. Балгарскія царствы.** У канцы IX — пачатку X ст. Першае Балгарскае царства дасягнула сваёй найвышэйшай магутнасці. ***Сімяён Вялікі***, які кіраваў у гэты час у Балгарыі, абвясціў сябе «царом усіх балгар і рамеяў».

Балгарыя пры цару Сімяёне распасціралася ад берага Чорнага мора на ўсходзе да Адрыятычнага мора на захадзе. У перыяд яго праўлення адбываўся пад'ём і балгарскай культуры. У Балгарыі ўладкаваліся вучні Кірылы і Мяфодзія.

Пасля смерці цара Сімяёна Балгарыя яшчэ некаторы час захоўвала незалежнасць. Але ў рашаючай бітве візантыйская армія разбіла балгарскае войска. І ў **1018 г.** уся Балгарыя апынулася пад уладай Візантыі. Першае Балгарскае царства пала.

Балгарскі народ не скарыўся перад візантыйскім уладараннем. У канцы XII ст. Балгарыя вярнула сабе незалежнасць. Гэтую адноўленую балгарскую дзяржаву гісторыкі называюць ***Другім Балгарскім царствам***.

У сярэдзіне XIV ст. Балгарыя была адной з самых моцных дзяржаў на Балканах. Але ўнутраныя ўсобіцы, якія распачаліся, аслабілі краіну.

**3. Як развівалася дзяржаўнасць сербаў.** Першыя племянныя княствы сербаў, якія пасяліліся ў цэнтральнай частцы Балканскага паўвострава, узніклі ў VIII—IX стст. Але захаваць сваю самастойнасць у акружэнні моцных дзяржаў сербам у гэты перыяд было цяжка. Сербскія землі

падпарадкоўвалі то балгарскія цары, то візантыйскія імператары.

Толькі ў канцы XII ст. была створана адзіная Сербская дзяржава. У першай палавіне XIV ст. Сербія ўмацавалася ў перыяд праўлення ***Стэфана Душана***. Ён шмат ваяваў з суседнімі дзяржавамі — Візантыяй і Венгрыяй. У выніку да Сербіі былі далучаны многія тэрыторыі, дзе жылі славяне, албанцы, грэкі.



Стэфан Душан. *Фрэска XIV ст.*

Каб паказаць сваю веліч, Стэфан Душан прыняў тытул «цара сербаў і грэкаў». *(Як вы думаеце, што азначаў гэты тытул? Ці быў на самай справе Стэфан Душан царом грэкаў?)*

У яго планах было стварэнне вялікай імперыі з цэнтрам у Канстанцінопалі. Аднак падчас падрыхтоўкі паходу на сталіцу Візантыі Стэфан Душан нечакана памёр. Хутка Сербская дзяржава распалася на некалькі незалежных уладанняў. Іх правіцелі вялі пастаянныя войны адзін з другім.

Стэфан Душан быў таленавітым палкаводцам, дыпламатам. З яго імем звязана стварэнне зводу законаў — «Законніка Стэфана Душана». Змест законаў сведчыць аб тым, што ў Сербіі склалася феадальнае грамадства. Сяляне да сярэдзіны XIV ст. ужо знаходзіліся ў залежнасці: на карысць гаспадароў зямлі яны выконвалі розныя павіннасці.

**4. Лёс Харватыі ў Сярэднія вякі.** Па дамоўленасці Карла Вялікага з візантыйскім імператарам харвацкія землі павінны былі належаць Франкскай імперыі. Але ў другой палове IX ст. Харватыя дабілася незалежнасці. А ў пачат-




Уладанні Асмана I да 1324 г.
Тэрыторыі, заваяваныя туркамі-асманамі да сярэдзіны XIV ст., да пачатку XV ст., да канца XV ст.
Уладанні Візантыі да пачатку XV ст.
Напрамкі паходаў турак-асманаў

Заваяванне туркамі-асманамі Балканскага паўвострава

ку X ст. князь Харватыі прыняў тытул караля.

У **1102 г.** харвацкая знаць заключыла пагадненне з венгерскім каралём аб уключэнні Харватыі ў склад Венгрыі. Але пры гэтым Харватыя ўсё ж заставалася каралеўствам і захоўвала ўнутраную самастойнасць.

**5. Як Балканы трапілі пад уладу туркаў-асманаў.** У войнах з Сербіяй і Балгарыяй Візантыйская імперыя часта выкарыстоўвала дапамогу туркаў-асманаў.

Туркі-асманы стварылі сваю дзяржаву ў Малой Азіі, якая некалі належала Візантыі. Асманскія султаны (правіцелі) пачалі аб'ядноўваць пад сваёй уладай іншыя турэцкія дзяржавы.

Пастулова яны сталі прасоўвацца на захад, захопліваючы візантыйскія ўладанні. У сярэдзіне XIV ст. разгарэлася бязлітасная барацьба за ўладу ў імперыі. Гэта дазволіла туркам перайсці да заваёў на Балканскім паўвостраве.

Пакінуўшы Канстанцінопаль у сябе ў тыле, туркі рушылі на дзяржавы паўднёвых славян. Нягледзячы на страшную пагрозу, славянскія правіцелі не змаглі ўтварыць ваенны саюз. Да канца XIV ст. туркі захапілі ўсе балгарскія землі.



Подзвіг Мілаша Абіліча

*Перад пачаткам бітвы на Косавым полі храбры сербскі воін Мілаш Абіліч забіў турэцкага султана, але і сам загінуў.*

Сербы і баснійцы (паўднёваславянскі народ, які меў на той час сваю невялікую дзяржаву) паспрабавалі спыніць заваёўнікаў.

**15** чэрвеня **1389 г.** на Косавым полі — у самым цэнтры Балканскага паўвострава — адбылася рашаючая бітва. Моцнай турэцкай арміі супрацьстаяла намнога меншае па колькасці войска сербаў і баснійцаў. У выніку войска славян пацярпела на Косавым полі жорсткае паражэнне.

Хутка туркі падпарадкавалі ўсе балканскія дзяржавы. А ў 1453 г. пасля захопу туркамі-асманамі Канстанцінопаля перастала існаваць некалі магутная Візантыйская імперыя.

**6. Як жылі славяне пад турэцкім ярмом.** Вынікі асманскага заваявання Балканскага паўвострава аказаліся

жахлівымі. Былі забіты або забраны для продажу ў рабства дзясяткі тысяч людзей. Буйнейшыя гарады былі разбураны дашчэнту.

Але жыццё працягвалася, і насельніцтва абрабаваных славянскіх зямель павінна было прыстасавацца да новых умоў. Туркі хацелі спакою ў захопленых землях і своечасовага паступлення падаткаў. Таму яны захавалі на ранейшых пасадах праваслаўных свяшчэннікаў і епіскапаў. Захаваліся і сельскія абшчыны з іх ранейшымі кіраўнікамі.

Аднак становішча хрысціян у Асманскай дзяржаве было цяжкім. Хрысціяне плацілі нашмат большыя падаткі, чым мусульмане. Яны не мелі права насіць зброю, ездзіць вярхом на кані і нават насіць адзенне сіняга і зялёнага колераў, якое маглі насіць толькі мусульмане.

Асабліва цяжкім быў так называемы «падатак крывёю». У тых сем'ях, дзе было некалькі сыноў, аднаго з іх забіралі ў школы Стамбула і іншых буйных турэцкіх гарадоў. Пазней юнакі служылі пры султанскім двары або станавіліся янычарамі — воінамі асобага турэцкага войска.

*Растлумачце назву падатку, пра які вы прачыталі.*

На многія стагоддзі паўднёвыя славяне, як грэкі і албанцы, аказаліся пад турэцкім гнётам.

Такім чынам, славяне Балканскага паўвострава ўжо ў Сярэдневякоўі стварылі свае дзяржавы. Але іх самастойнае развіццё было спынена турэцкімі заваёўнікамі. Наперадзе чакала доўгая барацьба за незалежнасць.

? **1.** У чым заключаліся асаблівасці развіцця славянскіх дзяржаў Балканскага паўвострава ў перыяд Сярэдневякоўя? **2.** Як развівалася ў Сярэдневякоўі балгарская дзяржаўнасць? **3.** Выдзеліце этапы ў развіцці

сербскай дзяржаўнасці. **4.** Які лёс Харватыі ў эпоху Сярэдневякоўя? **5.** Як вы думаеце, чаму славянскія дзяржавы на Балканах не змаглі спыніць заваёўнікаў-туркаў? **6.** Як адбывалася заваяванне туркамі-асманамі Балканскага паўвострава? **7.** Якія вынікі для краін Балканскага паўвострава мела турэцкае заваяванне?

## § 19. Утварэнне Старажытнарускай дзяржавы і яе першыя правіцелі

?! **1.** Адкуль і калі прыйшлі славяне ва Усходнюю Еўропу? **2.** Якія дзяржавы першымі ўзніклі ў славян?

Да канца 1-га тысячагоддзя ўсходнія славяне стварылі дзяржаву з моцнай уладай і строгімі законамі. Як гэта адбывалася? Якія адносіны склаліся ва ўсходніх славян з суседзямі і ў самім іх грамадстве?

**1. Усходнія славяне і іх суседзі.** Славяне з’явіліся ва Усходняй Еўропе ў VI ст. Два-тры стагоддзі спатрэбілася ім, каб асвоіць вялікую тэрыторыю да рэк Волгі і Дона.

Звесткі аб гэтых далёкіх часах захаваліся ў старажытнейшым летапісе — «Аповесці мінулых гадоў». Гэты ўнікальны твор напісаў манах ***Нестар*** каля **1113 г.** У летапісе ўпамінаюцца 12 усходнеславянскіх «плямён», якія рассяліліся на шырокіх прасторах Усходняй Еўропы. «Плямёнамі» гэтыя вялікія аб’яднанні людзей называў Нестар. Гісторыкі ж называюць іх ***саюзамі плямён***. У кожнага саюза плямён былі свае звычаі і традыцыі.

На чале некаторых саюзаў плямён стаялі ***князі***. *Племянное княжанне* існавала ў *палян*, якія пасяліліся на землях уздоўж сярэдняга цячэння Дняпра. Паводле падання, князь палян Кій заснаваў горад Кіеў. *Драўляне* жылі сярод лясоў, на захад ад палян — іх даўніх сапернікаў. На поўнач

ад драўлян вакол прыпяцкіх балот размясціліся *дрыгавічы*. Уздоўж ракі Сож жылі *радзімічы*.

Свой князь быў у *палачан*, якія атрымалі сваё імя ад ракі Палаты. Палачане былі часткай вялікага саюза *крывічоў*. Самы паўночны славянскі саюз плямён называўся *славенамі*. Менавіта ў іх землях узнік знакаміты горад Ноўгарад Вялікі.

Ва Усходняй Еўропе славяне сутыкнуліся з народамі, якія размаўлялі на іншых мовах. Некаторыя з іх змяшаліся са славянамі. Іншыя пазней увайшлі ў састаў іх дзяржавы, але захавалі сваю самабытнасць. Трэція плацілі даніну славянам, а затым сталі самастойнымі або аказаліся ў складзе іншых дзяржаў.


*Знайдзіце на карце 1 першага форзаца ўсходнеславянскія саюзы плямён.*

**2. Каля вытокаў старажытнарускай дзяржаўнасці.** За тэрыторыямі пражывання ўсходніх славян замацавалася назва *Русь*. Хутчэй за ўсё, яна мела скандынаўскае паходжанне. Руссю, або Рускай зямлёй, стала называцца дзяржава ўсходніх славян.


Заморскія госці. *Карціна М. Рэрыха*

На поўначы на ўсходніх славян пастаянна нападалі *варáгі*. Так на Русі называлі скандынаўскіх воінаў-вікінгаў. *(Успомніце, хто такія вікінгі.)* А на поўдні некаторыя ўсходнеславянскія плямёны павінны былі плаціць даніну *Хазарскаму каганату*.

Аб’яднанню ўсходніх славян садзейнічаў гандлёвы шлях «з вараг у грэкі». Ён звязваў скандынаўскія краіны з Візантыяй. Найбольш важны адрэзак шляху праходзіў па тэрыторыі ўсходніх славян — па рацэ Дняпро. Кантроль шляху «з вараг у грэкі» даваў вялікія выгоды, паколькі з купецкіх суднаў збіраліся гандлёвыя пошліны. Вялікі прыбытак прыносіў продаж на візантыйскіх і ўсходніх рынках футраў, мёду, воску і зброі.



*Прасачыце па карце 1 першага форзаца маршрут гандлёвага шляху «з вараг у грэкі».*

Да сярэдзіны IX ст. усходнія славяне стварылі два вялікія аб’яднанні. На поўначы на чале некалькіх славянскіх і фіна-ўгорскіх плямён аказаўся варажскі князь ***Рурык.*** Яшчэ раней узнікла моцнае аб’яднанне на землях палян у сярэднім цячэнні ракі Дняпро.

Пасля смерці Рурыка новым правіцелем стаў князь ***Алег***. Ён у 882 г. захапіў Кіеў. Услед за гэтым Алег пакарыў драўлян, севяран і радзімічаў. Даніну, якую тыя раней плацілі хазарам, кіеўскі князь стаў збіраць сабе.

Так ва Усходняй Еўропе ў **882 г.** узнікла дзяржава, якую гісторыкі называюць ***Старажытная Русь***, або ***Кіеўская Русь***.

**3. Першыя кіеўскія князі.** Князь Алег вядомы паходам на сталіцу Візантыі Канстанцінопаль (Царград). Ваяваў з Візантыяй і пераемнік Алега князь ***Ігар***, сын Рурыка.



Шчыт на браме Царграда. *Мастак Б. Альшанскі*



Князь Ігар збірае даніну з драўлян. *Мастак К. Лебедзеў*

Кіеўскія князі збіралі даніну з падпарадкаваных «плямён» падчас *палюддзя*. Князь з дружынай накіроўваўся ў палюддзе восенню і вяртаўся ў Кіеў толькі вясной. Князь не толькі збіраў даніну, але і праводзіў суд. Князь Ігар у 945 г. быў забіты драўлянамі падчас збору даніны. Удава князя Ігара ***Вольга*** адпомсціла драўлянам. Услед за гэтым яна ўнесла важныя перамены ў спосаб збору даніны. Для гэтага былі створаны спецыяльныя пункты — пагосты.

Сын Ігара ***Святаслаў*** на працягу свайго праўлення пастаянна вёў войны. Ён разбіў Хазарскі каганат, Балгарыю, распачаў вайну з магутнай Візантыйскай імперыяй. Але візантыйцы ўсё-такі заставілі Святаслава пайсці з Балгарыі.

Між тым з'явілася новая небяспека для Русі: качэўнікі прычарнаморскіх стэпаў — *печанегі*. Яны забілі ваяўнічага князя Святаслава, калі той вяртаўся ў Кіеў.

**4. Як Русь стала хрысціянскай.** У 980 г. на прастоле ў Кіеве замацаваўся ***Уладзімір Святаслававіч***. Потым народ назваў яго *Краснае Сонейка*, а праваслаўная царква — *Святым*.

Князь Уладзімір падпарадкаваў усе ўсходнеславянскія землі Кіеву і знішчыў мясцовых племянных князёў. За-

мест іх ён назначыў сваіх *пасаднікаў*. Іх памочнікамі былі *тысяцкія*, якія падчас ваенных дзеянняў узначальвалі апалчэнне («тысячу»). Пазней Уладзімір у важнейшыя гарады Русі накіраваў сваіх сыноў.

Але галоўным дзеяннем Уладзіміра стала ўстанаўленне на падначаленых яму землях хрысціянства. У **988 г.** Уладзімір хрысціўся сам і хрысціў кіяўлян. З цяжкасцю хрысціянства замацоўвалася ў іншых мясцовасцях Русі, асабліва ў глухіх кутках. Нядаўнія язычнікі не хацелі адмаўляцца ад сваіх багоў, якім маліліся стагоддзямі. *(Падумайце, наколькі важным быў у той час асабісты прыклад правіцеля.)*

Услед за прыняццем хрысціянства ў Кіеўскай Русі была створана царкоўная арганізацыя. Кіеўскі князь для патрэб царквы выдзеліў дзясятую частку сваіх даходаў.

Царкоўная арганізацыя Русі



Хрышчэнне Русі.
*Мастак В. Васняцоў*



6, с. 147





Яраслаў Мудры. *Рэканструкцыя М. Герасімава*

Прынццe хрысціянства садзейнічала ўзмацненню ўлады кіеўскага князя, росту міжнароднага аўтарытэту Старажытнарускай дзяржавы. Русь далучылася да дасягненняў візантыйскай і антычнай культур.

**5. Росквіт Кіеўскай Русі.** Пасля смерці Уладзіміра паміж яго сынамі пачалася барацьба за ўладу ў Кіеве. Пераможцам у ёй выйшаў наўгародскі князь ***Яраслаў***. Падчас праўлення ў Кіеве Яраслава, празванага ***Мудрым*** (1019—1054), Старажытная Русь дасягнула найбольшай магутнасці. Русь на роўных ладзіла свае ўзаемаадносіны з Візантыяй. Яраслаў канчаткова ліквідаваў пагрозу печанежскіх набегаў.

Яраслаў Мудры быў выдатным дыпламатам. Праз сваіх сыноў і дачок ён парадніўся з многімі моцнымі манархамі Еўропы таго часу.

Дачка Яраслава Лізавета выйшла замуж за караля Нарвегіі, Анастасія — за караля Венгрыі, Ганна — за караля Францыі. Сын Усевалад ажаніўся з прынцэсай Ганнай — дачкой візантыйскага імператара Канстанціна IX Манамаха.

6, с. 145

Вядомы Яраслаў Мудры і як заканадавец. Пры ім быў створаны пісьмовы звод законаў — ***Руская Праўда***. Законы ў адносінах да багатых і бедных, уладальнікаў і падначаленых гучалі ў ёй па-рознаму. У зводзе ўжо названы катэгорыі залежнага насельніцтва. Зусім бяспраўнымі людзьмі былі халопы. Да паўсвабодных людзей адносіліся смерды. Яны выконвалі павіннасці на карысць князя.

Так з канца IX да сярэдзіны XI ст. на тэрыторыі рассялення ўсходніх славян сфарміравалася моцная дзяржава. У ёй замацавалася хрысціянства і быў прыняты звод законаў.

? **1.** Аб якіх «плямёнах» усходніх славян расказвае «Аповесць мінулых гадоў»? **2.** У выніку якіх падзей узнікла Старажытнаруская дзяржава? **3.** Якія дзеянні першых князёў данёс да нас летапіс? **4.** Раскажыце аб прычынах, абставінах і выніках прыняцця хрысціянства на Русі. **5.** Растлумачце, чаму час праўлення Яраслава Мудрага быў перыядам найвышэйшай магутнасці Кіеўскай Русі. **6.** Дапоўніце гістарычны слоўнік паняццямі: *варагі, Старажытная Русь (Кіеўская Русь), Руская Праўда.*


§ 19


Слоўнік

## § 20. Раздробленасць Старажытнай Русі

?! **1.** Калі распалася Франкская імперыя? Чаму гэта адбылося? **2.** З кім ваявалі першыя кіеўскія князі? Якімі былі вынікі гэтых войнаў?

Старажытнаруская дзяржава нядоўга заставалася адзінай. Ужо ў другой трэці XII ст. на яе тэрыторыі ўзніклі незалежныя дзяржавы-княствы. Чаму гэта адбылося? Як гэта адбілася на здольнасці Русі адбіваць знешнюю небяспеку?

**1. Чаму наступіла раздробленасць.** Кожны сын вялікага кіеўскага князя меў права на ўладу над часткай Рускай зямлі. Вялікі князь хацеў забяспечыць ім вартае князя жыццё. Таму і Уладзімір Краснае Сонейка, і Яраслаў Мудры адпраўлялі сваіх сыноў у буйнейшыя гарады, выдзялялі ім частку сваіх уладанняў. Кіеўскія князі разлічвалі так умацаваць сваю ўладу на месцах. Але вынік аказаўся адваротным.

Малодшыя князі, атрымаўшы ў кіраванне ўладанні, не хацелі аддаваць сабраную даніну ў Кіеў. Сваё ўладкаванае княства яны жадалі перадаць уласным сынам.

Імкнучыся забяспечыць сваіх дружыннікаў, князі выдзялялі ім землі ва ўласнасць Так з'явіліся баярскія ***вотчыны***.




Старажытная Русь у перыяд раздробленасці

Губляць свае ўладанні баяры не хацелі. Таму былі зацікаўлены ў тым, каб князі заставаліся ў сваіх княствах.

У Старажытнай Русі панавала натуральная гаспадарка. А гэта таксама садзейнічала раздрабленню.

Аднак захавалася і тое, што аб’ядноўвала Рускую зямлю: адзіны правячы княжацкі род, агульны звод законаў Руская Праўда, адна царкоўная арганізацыя. *(Падумайце, што яшчэ было агульным ва ўсіх старажытнарускіх княствах.)*

**2. Буйнейшыя дзяржавы-княствы.** Правіцель, які займаў прастол у Кіеве, у летапісах называецца ***вялікім князем***. Усе іншыя князі павінны былі яму падпарадкоўвацца. Аднак ужо ў канцы X ст. самастойным стала Полацкае княства.

У **1097 г.** князі сабраліся на з’езд у Любечы. Каб папярэдзіць сваркі, было прынята рашэнне: «Няхай кожны валодае сваёй вотчынай». «Вотчынай» князь называў тыя землі, якія знаходзіліся ва ўладанні яго бацькі. З гэтага часу ў асобных княствах сталі правіць свае дынастыі. Аднак у Кіеве павінен быў правіць старэйшы ў Рускай зямлі князь.

З 1113 па 1125 г. у Кіеве правіў магутны князь ***Уладзімір Манамах***. Яму ўдалося часова аднавіць уладу Кіева амаль на ўсёй тэрыторыі Русі. Але хутка пасля яго смерці Русь стала ўяўляць сабой тэрыторыю, якая складалася з пятнаццаці самастойных дзяржаў-княстваў. Яны не падпарадкаваліся кіеўскаму князю. Сярод мноства самастойных дзяржаў найбольш моцнымі былі *Уладзіміра-Суздальская*, *Кіеўская*, *Чарнігаўская*, *Валынская*, *Галіцкая*, *Полацкая*, *Смаленская*.

Асобае дзяржаўнае ўстройства мела *Наўгародская баярская рэспуб-*



З’езд князёў.
*Мастак С. Іваноў*

*ліка*. Тут на сходзе свабодных гараджан — ***веча*** — выбіраліся галоўныя службовыя асобы дзяржавы — пасаднік і тысяцкі. З 1136 г. наўгародцы самі вырашалі, якога князя запрасіць да сябе на княжанне. Веча заключала з князем асобы дагавор, умовы якога павінны былі строга выконвацца.

Князі імкнуліся сілай даказаць сваю перавагу над другімі, захапіць чужыя ўладанні. Усобіцы паміж князямі вялі да разбурэння гарадоў і паселішчаў, гібелі людзей, перашкаджалі аб'яднанню сіл для барацьбы з качэўнікамі і іншымі іншаземнымі захопнікамі.

**3. Барацьба з качэўнікамі.** Стэпавыя прасторы Паўночнага Прычарнамор'я здаўна прываблівалі качэўнікаў. Тутэйшыя прыродныя ўмовы дазвалялі весці *качавую жывёлагадоўлю*. На працягу некалькіх стагоддзяў сюды прыходзілі розныя качавыя народы. Яны часта рабілі грабежніцкія набегі на суседзяў.

Амаль паўтара стагоддзя Русь вяла напружаную барацьбу з качэўнікамі-печанегамі. Ад іх набегаў пакутавалі безабаронныя паселішчы. Не заўсёды іх жыхары паспявалі ўкрыцца за моцнымі сценамі гарадоў. Аб барацьбе з печанегамі Уладзіміра Краснае Сонейка, яго дружыннікаў Ільі Мурамца, Дабрыні Нікіціча былі складзены *быліны*.



Руская дружына гоніцца за полаўцамі. *Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*

На многія гады прычарнаморскія стэпы занялі родныя печанегам *полаўцы*. З іх прыходам

небяспека для зямель Русі яшчэ больш вырасла. Полаўцы амаль кожны год рабілі набегі на Русь. Не раз іх граміў Уладзімір Манамах. Але поспеху ў барацьбе з качэўнікамі можна было дабіцца толькі разам. Адсутнасць адзінства дзеянняў старажытнарускіх князёў асабліва згубна адбілася ў ходзе мангольскага нашэсця.


6, с. 162

*Вызначыце па карце (с. 118), якія княствы больш за ўсё пакутавалі ад набегаў качэўнікаў.*

**4. Мангольскае нашэсце на Русь.** У пачатку 20-х гг. XIII ст. у прычарнаморскіх стэпах з'явіліся новыя качэўнікі — *манголы*. На Русі іх называлі *татарамі*.

К гэтаму часу мангольскія плямёны, аб'яднаныя ***Чынгісханам***, ужо пакарылі многія народы.

Пасля смерці Чынгісхана заваяваныя манголамі землі былі раздзелены. Вобласць на захад ад ракі Урал была аддадзена ўнуку Чынгісхана — ***Батыю***. Але старажытнарускія княствы яму яшчэ трэба было заваяваць. У канцы **1237 г.** манголы абрушыліся на Разанскае княства. Затым Батый адзін за другім захапіў і спаліў амаль усе гарады Паўночна-Усходняй Русі.

Уладзімірскі князь Юрый Усеваладавіч паспрабаваў даць адпор ворагу. Але на рацэ Сіць 4 сакавіка 1238 г. ён быў разбіты манголамі.

У 1239 г. Батый зноў рушыў на Русь. На гэты раз мангольскае войска напала на Паўднёвую і Паўднёва-Заходнюю Русь. У снежні **1240 г.**



Манголы.
*Сярэдневяковы кітайскі малюнак*



Узяцце манголамі Разані. *Рэканструкцыя*



Баскакі. *Мастак С. Іваноў*

*Баскакамі называлі кіраўнікоў атрадаў, якія дапамагалі збіраць даніну для Арды.*

манголы захапілі Кіеў. У 1241 г. яны прыступілі да заваявання суседніх з Руссю краін. Але сіл на гэта ў захопнікаў ужо не было.

У выніку нашэсця Батыя былі забіты і забраны ў палон дзясяткі тысяч людзей. Загінулі ўнікальныя помнікі культуры, кнігі, летапісы, іконы. Такога спусташэння Русь яшчэ не ведала.

Разрабаванае старажытнарускае княства апынулася ў залежнасці ад новай дзяржавы — ***Залатой Арды***, створанай манголамі. Старажытнарускія княствы абавязаны былі выплачваць даніну ардынскім ханам. Князі павінны былі ездзіць у Арду, каб атрымаць ***ярлык*** (спецыяльны дакумент) на княжанне.

**5. Націск крыжаносцаў.** Усходняя Прыбалтыка заставалася адным з нямногіх месцаў у Еўропе, дзе яшчэ жылі язычніцкія плямёны. Гэта былі балцкія і фінскія народы, якія яшчэ не стварылі сваіх дзяржаў. Іх землі прываблівалі заходнееўрапейскіх феадалаў. Заваёўнікаў падтрымлівала

каталіцкая царква, якая імкнулася распаўсюдзіць свой уплыў на ўсход.

У 1202 г. для захопу зямель Усходняй Прыбалтыкі быў створаны *Ордэн мечаносцаў*. Яго рыцары захапілі землі, на якіх жылі продкі сучасных латышоў і эстонцаў. Але пры нападзеннях на наўгародскія і літоўскія землі мечаносцы наткнуліся на рашучы адпор. Гэта заставіла Ордэн мечаносцаў падпарадкавацца больш моцнаму Тэўтонскаму ордэну.



Аляксандр Неўскі. *Мастак П. Корын*



6, с. 160

Між тым у падзеі ў Прыбалтыцы ўмяшаліся шведскія феадалы. Але ў **1240 г.** малады наўгародскі князь ***Аляксандр Яраслававіч*** нанёс ім знішчальнае паражэнне ў бітве на беразе ракі Нявы. За гэтую перамогу яго празвалі ***Неўскім***.

Яшчэ большую небяспеку прадстаўлялі рыцары Тэўтонскага ордэна. Але вясной **1242 г.** Аляксандр Неўскі разбіў нямецкіх рыцараў-крыжаносцаў на лёдзе Чудскага возера. Гэтую бітву назвалі *Лядовым пабоішчам*.

Перамога Аляксандра Неўскага заставіла Тэўтонскі ордэн на некаторы час адмовіцца ад заваявальных задум у адносінах да Русі. Аднак Усходняя Прыбалтыка была страчана.

? **1.** Якія прычыны прывялі да раздраблення Старажытнарускай дзяржавы? **2.** У чым заключалася раздробленасць? Якія з'явы былі для яе характэрны? **3.** Раскажыце аб барацьбе Русі з печанегамі і полаўцамі. Ці ўдалося старажытнарускім князям ліквідаваць небяспеку ад нападаў качэўнікаў? **4.** Як адбывалася заваяванне Русі манголамі? Што садзейнічала поспехам манголаў? **5.** Якія вынікі мангольскага нашэсця на Русь? **6.** Раскажыце аб барацьбе Русі са шведскімі і нямецкімі феадаламі. Чым яна скончылася? **7.** Падумайце, пры якіх умовах рускія княствы маглі б адбіць нашэсце манголаў.

## § 21. Узмацненне Маскоўскага княства

?! **1**. Якія старажытнарускія княствы існавалі ў XII — пачатку XIII ст.? **2.** У чым выражалася залежнасць Паўночна-Усходняй Русі ад Залатой Арды?

З пачатку XIV ст. пачынаецца няўхільнае ўзвышэнне Масквы над іншымі гарадамі Паўночна-Усходняй Русі. Як жа атрымалася, што спачатку нічым непрыметны горад стаў на чале аб'яднання рускіх зямель і нават кінуў выклік магутнай Ардзе?

**1. Чаму Масква аказалася мацнейшай.** У гісторыі Усходняй Еўропы з XIV ст. асобае месца заняла Масква. Менавіта гэты горад стаў адным з цэнтраў аб'яднання рускіх зямель і з цягам часу ўзначаліў барацьбу з Залатой Ардой.

Масква вядома з 1147 г. Але цэнтрам самастойнага княства яна стала толькі ў 1270 г. У гэты час яе атрымаў у спадчыну як свой удзел малодшы сын Аляксандра Неўскага Данііл.

Удзелам (ад слова «доля») называлі тэрыторыю з адным або некалькімі гарадамі, якую абавязкова атрымліваў прадстаўнік княжацкай сям'і ў агульным родавым уладанні.

Першапачаткова Маскоўскае княства было адным з самых нязначных у Паўночна-Усходняй Русі. К канцу XIII ст. тут размяшчалася больш за дзясятак буйных княстваў. Чаму ж менавіта Маскве суджана было стаць цэнтрам аб'яднання рускіх зямель?

Гісторыкі называюць некалькі прычын. Так, выгадным было геаграфічнае становішча Масквы. Праз яе праходзілі ажыўленыя гандлёвыя шляхі. Яна знаходзілася далёка ад небяспечнай граніцы з Ардой, таму сюды перасяляліся людзі з другіх княстваў. Разам з простымі земляробамі і рамеснікамі ў Маскву прыходзілі феадалы. Маскоўскаму князю трэба было забяспечыць іх зямельнымі ўладаннямі. Гэта вымушала яго захопліваць суседнія землі: сваіх было мала. Для расшырэння граніц княства прыходзілася нават ісці

▲ Барацьба Русі з іншаземнымі заваёўнікамі



*Правядзіце параўнанне з картай «Старажытная Русь» у перыяд раздробленасці (с. 118). Якія змены адбыліся?*

на згоду з ворагамі Русі — татарамі. Умацаванню Масквы садзейнічалі тыя абставіны, што яе саюзнікам стала царква.

У канцы XIII ст. мітрапаліт галава Рускай Праваслаўнай Царквы пераехаў ва Уладзімір-на-Клязьме. А ў 1328 г. ён выбраў Маскву месцам свайго пастаяннага знаходжання.




Першыя маскоўскія князі

**2. Чым вядомы першыя маскоўскія князі.** Данііл Аляксандравіч стаў роданачальнікам дынастыі маскоўскіх князёў. Галоўным горадам на паўночным усходзе Русі ў гэты час быў Уладзімір. Той, хто валодаў *Уладзімірскім вялікім княжаннем*, станавіўся старшым князем у Паўночна-Усходняй Русі. Пытанне аб тым, хто будзе вялікім князем, вырашаў хан Залатой Арды.

У 1327 г. сын Данііла ***Іван Каліта*** змог атрымаць ярлык на вялікае княжанне ва Уладзіміры.

У 1327 г. паўсталі жыхары Цвяры. Да іх у горад з'явіўся для збору даніны татарскі баскак Чолхан. Самавольства і здзекі баскака выклікалі выбух гневу. Чолхан быў забіты. Да паўстанцаў далучыўся і цвярскі князь. Хан Залатой Арды накіраваў на Цвер атрад карнікаў. Да яго далучыліся дружыны Івана Каліты. Жорсткая расправа надоўга аслабіла Цвярское княства, затое ўмацавала становішча маскоўскага князя. Галоўным зборшчыкам даніны для Арды стаў Іван Каліта.

Пры Іване Каліце Маскоўскае княства стала самым моцным у Паўночна-Усходняй Русі. Вялікае княжанне ў

яго ўжо ніхто не мог аспрэчыць. Збор даніны даў магчымасць маскоўскаму князю значна разбагацець. Адсюль яго прозвішча — «Каліта», што азначае «кашалёк для грошай». Павялічыліся і яго зямельныя ўладанні. Гэта дазваляла рабіць шчодрыя раздачы феадалам, якія верна служылі князю.

Палітыку Івана Каліты працягвалі яго сыны. Акрамя спадчыннага ўладання — Маскоўскага княства — ім належала Уладзімірскае вялікае княства.

**3. Дзмітрый Данскі і Кулікоўская бітва.** У 1359 г. маскоўскім князем стаў ***Дзмітрый Іванавіч.*** Улада маскоўскага князя настолькі ўмацавалася, што ён змог кінуць выклік Залатой Ардзе. У самой Ардзе ў той час пачаліся міжусобіцы. За 20 гадоў там змянілася больш чым 20 ханаў. Нарэшце да сярэдзіны 70-х гг. XIV ст. уладу змог захапіць Мамай.



Рускі воін Ардынскі воін
*Малюнак А. Фёдарава*

> Мамай не быў нашчадкам Чынгісхана. Таму ён павінен быў правіць ад асобы падстаўных, паслушных яму ханаў. Але многія татарскія ханы не прызналі Мамая.

У канцы лета 1380 г. рускія палкі на чале з Дзмітрыем Іванавічам выступілі супраць татар. Пераправіўшыся цераз Дон, войскі размясціліся на Куліковым полі. Тут **8 верасня 1380 г.** адбылася адна з найвялікшых бітваў у рускай гісторыі — ***Кулікоўская.*** Асноўныя сілы Залатой Арды пацярпелі поўнае паражэнне, а Дзмітрый Іванавіч стаў называцца Данскім.



Раніца на Куліковым полі. *Мастак А. Бубноў*

Значэнне Кулікоўскай бітвы было вялікім. Цяпер не выклікала сумнення, што Русь можа змагацца з татарамі і перамагаць іх.

Аб'яднанне зямель Русі адбывалася ў вострай барацьбе. У другой палавіне XIV ст. моцным сапернікам Маскоўскага княства стала Вялікае Княства Літоўскае. Яго правіцелі таксама ставілі сваёй мэтай аб'яднанне пад сваёй уладай усходнеславянскіх зямель. Барацьба мела пераменны поспех. Тройчы вялікі князь літоўскі Альгерд хадзіў паходамі на Маскоўскае княства, але пакарыць яго не змог.

У самой Ардзе пасля разгрому Мамая ўлада перайшла да хана Тахтамыша. У 1382 г. ён захапіў і спаліў Маскву. Ардынскае ўладаранне было адноўлена.



Маскоўскі Крэмль пры Дзмітрыю Данскім. *Мастак А. Васняцоў*

Але ранейшай залежнасці ўжо не было. Так, Дзмітрый Данскі перадаў і Маскоўскае княства, і Уладзімірскае вялікае княства ў спадчыну свайму сыну, не пытаючыся дазволу хана.

К XV ст. Маскоўскае княства значна ўмацавалася, да яго былі да-

лучаны многія рускія землі. Але па-ранейшаму падпарадкоўваліся Ардзе.

**4. Сельская гаспадарка, рамяство і гандаль.** Асноўную масу насельніцтва Маскоўскай Русі складалі земляробы. З канца XIV ст. усіх іх сталі называць ***сялянамі***. Тэрыторыя Паўночна-Усходняй Русі ў Познім сярэдневякоўі актыўна засялялася выхадцамі з іншых зямель. Людзі адыходзілі далей ад граніц з татарамі. Пад раллю расчышчаліся лясы, асвойваліся новыя землі.




Заняткі рускіх сялян

*З дапамогай схемы складзіце расказ аб асноўных занятках сялян у XIV—XV стст.*

Мангольскае нашэсце нанесла страшны ўрон усходнеславянскім гарадам. Старажытнарускае рамяство прыйшло ў заняпад. Толькі з сярэдзіны XIV ст., калі залежнасць ад Арды аслабла, пачалося адраджэнне рамяства ў гарадах Паўночна-Усходняй Русі. Князі, баяры і манастыры ў свае ўладанні прыцягвалі рамеснікаў. Гэта былі кавалі, ганчары, цесляры, шаўцы, краўцы.

Ажыўлены гандаль XIV—XV стст. вёўся Ноўгарадам Вялікім з Ганзейскім саюзам, асабліва з галоўным горадам гэтага гандлёвага аб’яднання — Любекам. Маскоўскія купцы часта бывалі ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы. Адсюль яны пранікалі і далей — у Чэхію і Германію.

Да пачатку XV ст. у Паўночна-Усходняй Русі склаліся ўмовы для стварэння адзінай дзяржавы.

? **1.** Чаму менавіта Маскоўскае княства ўзначаліла аб'яднанне зямель Паўночна-Усходняй Русі? **2.** Раскажыце аб дзейнасці першых маскоўскіх князёў па ўмацаванні свайго княства. **3.** Калі адбылася Кулікоўская бітва, у чым заключалася яе значэнне? **4.** Як змяніліся адносіны Маскоўскага княства да суседзяў у перыяд праўлення Дзмітрыя Данскога? **5.** Якія змены адбыліся ў грамадстве Паўночна-Усходняй Русі XIV—XV стст.? **6.** З кім гандлявала Паўночна-Усходняя Русь у XIV—XV стст.? **7.** Знайдзіце пацвярджэнне таму, што мангольскае заваяванне і залежнасць ад Арды запаволілі развіццё рускіх зямель.

## § 22. Утварэнне адзінай Расійскай дзяржавы

?! Калі ў Заходняй Еўропе склаліся цэнтралізаваныя дзяржавы?

У другой палавіне XV ст. ва Усходняй Еўропе ўзнікла новая дзяржава. Яна хутка павялічыла сваю тэрыторыю і вызвалілася ад выплаты даніны Ардзе. Як гэта адбылося і што гэтаму садзейнічала?

**1. Іван III — «гасудар усяе Русі».** У перыяд праўлення вялікага князя ***Івана III*** (1462—1505) Маскве адно за другім былі падпарадкаваны ўсе княствы Паўночна-Усходняй Русі — Яраслаўскае, Растоўскае, Цвярское. Гэтыя княствы, як і Маскоўскае, называліся вялікімі. У **1478 г.** да Масквы была канчаткова далучана вялікая тэрыторыя Наўгародскай рэспублікі.

За час праўлення Івана III тэрыторыя Маскоўскага княства вырасла больш чым у пяць разоў. Пасля ліквідацыі



Іван III. *Гравюра XV ст.*



Соф'я Палеалог. *Рэканструкцыя С. Нікіціна*

незалежнасці Цвярскога вялікага княства (1485) Іван III стаў называцца *«гасударом усяе Русі»*.

Маскоўскае вялікае княства атрымала прызнанне на міжнароднай арэне. Іван III ажаніўся з пляменніцай апошняга візантыйскага імператара Соф'яй Палеалог.

Магчыма, дзякуючы яе пасрэдніцтву Маскоўскае вялікае княства атрымала герб з двухгаловым арлом. Акрамя таго, маскоўскі правіцель цяпер мог прэтэндаваць на «візантыйскую спадчыну» — землі, захопленыя туркамі-асманамі. Але Маскоўскае вялікае княства па-ранейшаму павінна было плаціць даніну татарам.

**2. Стаянне на рацэ Угры.** У XV ст. Залатая Арда распалася на некалькі незалежных дзяржаў. Самай моцнай з іх з'яўлялася Вялікая Арда. Яна займала тэрыторыю паміж Волгай і Донам, Ніжняе Паволжа і Паўночны Каўказ. Менавіта ёй працягвала плаціць даніну Маскоўскае вялікае княства.

Але маскоўскі вялікі князь імкнуўся пазбавіцца ад такой залежнасці. Ён шукаў саюзнікаў сярод татарскіх дзяржаў, якія варагавалі з Вялікай Ардой. Саюз быў заключаны з Крымскім ханствам.



Іван III разрывае ханскую грамату. *Мастак А. Кіўшанка*



Стаянне на рацэ Угры. *Мініяцюра XVI ст.*

7, с. 160

Ужо ў 1472 г. маскоўскі вялікі князь Іван III перастаў плаціць даніну Ардзе. Змірыцца з гэтым Арда не магла.

Хан Ахмат паспрабаваў заставіць маскоўскага гасудара аднавіць выплату даніны. У пачатку восені **1480 г.** войска Вялікай Арды падышло да ракі Угры. Сюды ж накіраваліся і маскоўскія палкі. Праціўнікі стаялі на берагах Угры да той пары, пакуль рака не замерзла. Ардынскі хан не асмеліўся ўступіць у бітву з вялікімі сіламі маскоўскага князя і адступіў.

Стаянне на рацэ Угры стала завяршэннем 240-гадовага перыяду залежнасці ад Арды. Маскоўскае вялікае княства набыло поўную незалежнасць.

**3. Расійская дзяржава.** Аб'яднанне зямель вакол Масквы прывяло да ўтварэння ва Усходняй Еўропе ў другой палавіне XV ст. новай моцнай дзяржавы. Паступова, да канца XVI ст., за ёй замацавалася назва ***«Расія»***. Гісторыкі называюць яе ***Расійскай дзяржавай***. З канца XV ст. змяніўся тытул маскоўскага правіцеля: ён стаў называцца «Божай міласцю гасударом усяе Русі». Гэта прама сведчыла аб умацаванні яго ўлады.

Паняцце «гасудар» у тыя часы азначала літаральна «гаспадар». Гасударом з'яўляўся ў адносінах да сваіх людзей уладальнік халопаў. Такім чынам, Іван III разглядаў сваю ўладу як непадзельную, Богам дадзеную і якая прэтэндуе на ахоп усёй тэрыторыі ўсходняга славянства, усёй Русі.

Анежскае воз.
Ладажскае возера
Выбарг
Нарва
Ладага
НАЎГАРОДСКАЯ ЗЯМЛЯ
Вялікі Ноўгарад
Пскоў
Вялікія Лукі
Полацк
Зах. Дзвіна
Смаленск
Дняпро
Мажайск
Вязьма
Ржэва
Волга
Таржок
Цвер
Белавозера
Волагда
Малога
Вугліч
Яраслаў
Растоў
Суздаль
Дзмітраў
Уладзімір
МАСКВА
Таруса
Каломна
Кастрама
Галіч
Сухона
Вялікі Усцюг
МАЛАЯ ПЕРМ
ВЯЦКАЯ ЗЯМЛЯ
Хлынаў (Вятка)
КАЗАНСКАЕ ХАНСТВА
КАЗАНЬ
Старадўб
Ніжні Ноўгарад
Мурам
Ака
Тула
Пераяслаў-Разанскі
Адоеў
Стаянне на рацэ Угры
1480
Кулікоўская бітва
1380
ВЯЛІКАЯ АРДА
Волга
Бранск
Мцэнск
Гомель
Ноўгарад-Северскі
Чарнігаў
Дзясна
Кіеў
Дняпро
ПОЛЕ
ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

- Маскоўскае княства ў 1270 г.
- Набыцці першых маскоўскіх князёў

Тэрыторыі, далучаныя да Масквы

- у 1359 –1389 гг.
- у 1389 –1462 гг.
- у 1462 –1505 гг.
- у 1505 –1533 гг.
- Цэнтры княстваў і зямель, далучаных да Масквы
- Граніца Вялікага княства Маскоўскага да 1533 г.

▲ Русь у другой палавіне XIII — пачатку XIV ст.



*Падумайце, якія тэрыторыі давядзецца падпарадкаваць Маскве.*

Фарміраванне тэрыторыі адзінай Расійскай дзяржавы было завершана падчас праўлення сына Івана III — ***Васілія III***.

Унутры дзяржавы вялікія князі няўхільна абмяжоўвалі ўладу раней незалежных князёў. Князі ўваходзілі ў ***Баярскую думу*** (так называлі групу саветнікаў пры гасудару), станавіліся ваеннымі кіраўнікамі — ваяводамі. Пры гэтым яны маглі захоўваць свае ўладанні. Такіх князёў называлі *служылымі*, або *службовымі*.

Працэс утварэння Расійскай дзяржавы меў важнае значэнне. У Заходняй Еўропе складванню цэнтралізаваных дзяржаў спрыяла развіццё таварна-грашовай гаспадаркі. Ва Усходняй Еўропе важнейшымі былі знешнія абставіны, перш за ўсё неабходнасць з'яднання сіл для барацьбы з татарамі.

Былі і іншыя асаблівасці. У Заходняй Еўропе каралі ў барацьбе супраць самаўладдзя феадалаў абапіраліся на багатыя гарады, якія мелі права самакіравання. На Русі ж гарадское самакіраванне было амаль цалкам знішчана ў перыяд залежнасці ад Залатой Арды. Да таго ж утварэнне Расійскай дзяржавы адбывалася ва ўмовах развіцця феадальных адносін. А ў Заходняй Еўропе цэнтралізаваныя дзяржавы фарміраваліся ў гэты час ужо ва ўмовах познефеадальнага грамадства.

Да канца XV ст. Маскоўскае княства з невялікага ўдзела ператварылася ў магутную дзяржаву, з якой павінны былі лічыцца буйнейшыя дзяржавы Еўропы і Азіі.

**4. Феадальнае грамадства.** Разам з утварэннем Расійскай дзяржавы працягвалася фарміраванне феадальнага грамадства. Для яго была характэрна наяўнасць слоя феадалаў-землеўладальнікаў і залежных ад іх сялян.

Вярхоўным уладальнікам зямлі лічыўся князь. Ён мог падараваць сваім старшым дружыннікам — ***баярам*** — землі ва ўласнасць.



Выхад баярыні.
*Мастак А. Васняцоў*

Баярынам з цягам часу сталі называць любога ўласніка зямлі з сялянамі — ***вотчыны***. Становішча рускіх баяр адрознівалася ад становішча заходнееўрапейскіх феадалаў. Так, на Русі не было баярскіх замкаў.

Найбольш багатыя баяры былі прыбліжанымі вялікага князя і складалі Баярскую думу. Гэта была невялікая група людзей, з якімі гасудар мог раіцца па самых розных пытаннях.

Маскоўскім князям патрэбна было моцнае войска. Але за ваенную службу трэба было плаціць. Грошай у казне не хапала, таму служылым людзям (іх называлі ***дваранамі***) давалі зямельныя ўладанні з сялянамі. У 80-х гг. XV ст. Іван III выселіў з Наўгародскай зямлі многіх баяр, а на іх землі «іспамясціў» маскоўскіх служылых людзей. Так з'явілася другая форма феадальнага землеўладання — ***памесце***.

Калі вотчыну яе ўладальнік мог перадаць у спадчыну або прадаць, то памесце лічылася ўласнасцю вялікага князя. За валоданне ім трэба было несці службу, яго нельга было прадаваць, дараваць, завяшчаць.

**5. Судзебнік Івана III.** У адзінай дзяржаве павінны былі быць адзіныя законы. Да таго ж законы Рускай Праўды, якімі яшчэ доўга карысталіся ў судзе, не падыходзілі для феадальнага грамадства Маскоўскай Русі.



Юр’еў дзень.
*Мастак С. Іваноў*

Таму для кіраўніцтва суддзям па ўказанні Івана III у **1497 г.** быў складзены ***Судзебнік***.

Адпаведна з Судзебнікам самае суровае пакаранне — пакаранне смерцю — прызначалася за дзяржаўную здраду: загавор супраць гасудара або мяцеж. Судзебнік адлюстраваў працэс запрыгоньвання сялян, які распачаўся. Каб пайсці ад свайго гаспадара, селянін павінен быў заплаціць вялікую грашовую суму — «пажылое». Час адыходу стаў абмяжоўвацца тыднем да *Юр’ева дня* восенню (26 лістапада, цяпер — 9 снежня) і тыднем пасля. Законы, запісаныя ў Судзебніку, былі абавязковымі для ўсёй тэрыторыі Расійскай дзяржавы.

Такім чынам, перыяд Сярэдневякоўя завяршыўся фарміраваннем феадальнага грамадства ў Расійскай дзяржаве.

? **1.** Раскажыце, як адбывалася «збіранне рускіх зямель» падчас праўлення Івана III. **2.** Калі і як Маскоўскае вялікае княства вызвалілася ад ардынскай залежнасці? **3.** Калі ў асноўным сфарміравалася тэрыторыя Расійскай дзяржавы? Як змяніўся тытул яго правіцеля? **4.** У чым заключаліся асаблівасці працэсу ўтварэння адзінай Расійскай дзяржавы? **5.** Якімі шляхамі ў Паўночна-Усходняй Русі ўзнікла феадальная ўласнасць на зямлю? У чым адрозненне памесця ад вотчыны ? **6.** Якія прычыны выклікалі з’яўленне Судзебніка Івана III? **7.** Дапоўніце слоўнік паняццямі: *памесце, Судзебнік, баяры, Баярская дума*.

Слоўнік

# § 23. Праваслаўная царква і культура ўсходніх славян

?! **1.** Калі на Русі было прынята хрысціянства? **2.** Як паўплывала мангольскае нашэсце на развіццё культуры ўсходніх славян?

Усходнія славяне ў перыяд Сярэдневякоўя стварылі культуру высокага ўзроўню. Яе развіццю садзейнічала сцвярджэнне на Русі хрысціянства. Нават мангольскае нашэсце не змагло спыніць імкненне людзей да стварэння надзвычайных узораў архітэктуры і мастацтва. Якімі дасягненнямі культуры могуць ганарыцца ўсходнія славяне?

**1. Роля царквы ва ўсходнеславянскім грамадстве.** Прыняцце хрысціянства змяніла жыццё ўсходніх славян: з'явілася пісьменнасць, каменная архітэктура, жывапіс. Хрысціянства прынесла на Русь літаратуру. Яна была зразумелай насельніцтву Русі дзякуючы пісьменнасці, створанай Кірылай і Мяфодзіем і яго вучнямі. Развіццю ўласнай старажытнарускай літаратуры дапамаглі прывезеныя з Балгарыі кнігі.

Падчас раздробленасці на Русі царква захавала адзіную арганізацыю. Агульнай для ўсяго ўсходнеславянскага насельніцтва была праваслаўная вера. Пазней праваслаўная царква сыграла выключную ролю ў яднанні рускіх зямель. Яна натхняла народ на барацьбу супраць Залатой Арды і стала сапраўднай саюзніцай



Прападобны Сергій благаслаўляе Дзмітрыя Данскога. *Мастак А. Кіўшанка*

маскоўскіх князёў. Праваслаўная царква карысталася вялікім аўтарытэтам.

У тыя далёкія часы ўсе людзі верылі ў Бога. Усё жыццё чалавека — нараджэнне, хрэсьбіны, шлюб, пасты, святы, смерць і пахаванне — праходзілі пры ўдзеле святароў. *(Самастойна сфармулюйце вывад аб значэнні царквы ў жыцці людзей Старажытнай Русі.)*

**2. Мітрапаліт Алексій і Сергій Ра́данежскі.** У гісторыі Маскоўскай Русі асабліва вядомы і шанаваны два царкоўныя дзеячы — мітрапаліт ***Алексій*** і манах ***Сергій Радaнежскі***. Гэтыя два абсалютна непадобныя адзін да аднаго чалавекі сталі ўдзельнікамі важнейшых падзей другой палавіны XIV ст.

Руская царква ў часы Алексія многае зрабіла для ўмацавання магутнасці Масквы. Мітрапаліт адлучаў ад царквы ворагаў маскоўскага князя, заключыў дагавор з вялікім князем літоўскім. Алексій не дажыў да Кулікоўскай бітвы. Але сваёй дзейнасцю ён падрыхтаваў Маскву да рашаючага сутыкнення з Залатой Ардой.



Святіцель Алексій і прападобны Сергій. *Літаграфія па малюнку І. Болдырава*

Сергій набыў вядомасць як манах-пустэльнік, які жыў у адзіноце воддаль ад людзей у глухім Раданежскім лесе. З цягам часу да яго далучыліся іншыя манахі. Так узнік Троіцкі манастыр (у будучым — Тройца-Сергіева лаўра). Сергій стаў яго першым ігуменам (галавой).

Духоўны аўтарытэт Сергія быў вельмі вялікім. Пешшу ён абышоў усю Паўночна-Усход-

нюю Русь, пераконваючы князёў спыніць згубныя ўсобіцы. Сергій благаславіў князя Дзмітрыя Іванавіча на барацьбу з Залатой Ардой. Ужо хутка пасля смерці Сергій Раданежскі стаў шанавацца як святы.

**3. Пісьменнасць і літаратура Старажытнай Русі.** З прыняццем хрысціянства на Русі хутка распаўсюджвалася пісьменнасць. Пісьменнымі былі не толькі свяшчэннікі, але і знаць і гараджане. Сведчаннем таму з'яўляюцца ***берасцяныя граматы***, знойдзеныя археолагамі. Асабліва часта іх знаходзяць пры раскопках у Ноўгарадзе Вялікім.

> ✓ Берасцяная грамата — гэта запіска рознага зместу, выкананая на кары бярозы (літары прадрапаны спецыяльным інструментам).

У Кіеўскай Русі ствараліся рукапісныя кнігі. Адна са старажытнейшых кніг, якая захавалася да нашых дзён, — *Астрамірава Евангелле* сярэдзіны XI ст. Гісторыя таго часу адлюстравана ў ***летапісах***. Дзясяткі летапісцаў працавалі пры манастырах і пры дварах князёў. Старажытнейшы летапіс, які дайшоў да нас, — «Аповесць мінулых гадоў». Яна была закончана ў **1113 г.** у Кіеве. *(Хто быў яе аўтарам?)*

Вяршыняй старажытнарускай літаратуры стаў створаны ў канцы XII ст. твор *«Слова аб палку Ігаравым»*. У ім паведамляецца аб няўдачным паходзе ноўгарад-северскага князя Ігара Святаслававіча на полаўцаў. А князі заклікаюцца да спынення міжусобіц.



▲ Старонка Астрамірава Евангелля

Нават пасля страшнага Батыевага нашэсця ўсходнія славяне не

згубілі сваёй пісьменнасці, змаглі захаваць кнігі, летапісы, вусныя паданні.

Характэрнай рысай рускай літаратуры становіцца праслаўленне гераізму і мужнасці барацьбітоў з лютымі ворагамі, ухваленне любові да роднай зямлі. Такімі творамі былі аповесці *«Задоншчына»* і *«Сказанне аб Мамаевым пабоішчы»*, у аснову якіх ляглі падзеі Кулікоўскай бітвы.

**4. Архітэктура. Маскоўскі Крэмль.** У сярэдневяковай Русі асноўным матэрыялам для будаўніцтва служыла дрэва. З прыняццем хрысціянства на Русі з'явіліся каменныя храмы. У XI ст. былі пабудаваны тры храмы Святой Сафіі — у Кіеве, Ноўгарадзе і Полацку.

Перыяд раздробленасці стаў часам росквіту старажытнарускай архітэктуры. Князі не шкадавалі сродкаў. Каб упрыгожыць свае гарады і тым самым пераўзысці суседзяў, кожны храм быў абавязкова ўпрыгожаны фрэскамі і іконамі.

У Познім сярэдневякоўі найбольшыя поспехі былі дасягнуты ў будаўніцтве храмаў і абарончых збудаванняў. У буйнейшых рускіх гарадах будаваўся ***крэмль*** — унутраная гарадская крэпасць, цытадэль.

Сімвалам умацавання магутнасці маскоўскіх князёў у XIV—XV стст. стала будаўніцтва новага Крамля. Ён прызначаўся не толькі для абароны ад захопнікаў. Сваімі памерамі і прыгажосцю ён павінен быў паказаць магутнасць маскоўскага князя, яго імкненне да ўладарання над усімі землямі Русі.



Сафійскі сабор у Ноўгарадзе

Спачатку Іван Каліта ўмацаваў драўляныя сцены і ўзвёў пяць каменных храмаў унутры Крамля. Пасля страшнага пажару Дзмітрый Данскі вырашыў «...ставіці горад Маскву камен». Для гэтага ён запрасіў будаўнікоў са ўсёй Русі. Дзясяткі тысяч людзей працавалі на падвозцы белага каменю, з якога ўзводзіліся сцены Крамля.

Вялікі князь маскоўскі Іван III правёў карэнную перабудову Крамля. Сцены і вежы былі ўзведзены з чырвонай цэглы. У агульных рысах яны захаваліся да нашых дзён.

Галоўным храмам Масквы быў *Успенскі сабор*, але з цягам часу яго сцены струхлелі. Іван III задумаў будаўніцтва новага каменнага сабора. Для гэтага з Італіі быў запрошаны выдатны майстар ***Арыстоцель Фіяраванці***. У нанова пабудаваны сабор была перанесена і самая паважаная руская ікона — Уладзімірскай Божай Маці.

**5. Рускі іканапіс.** Пры манастырах, княжацкіх і баярскіх дварах існавалі іканапісныя майстэрні. Мастацтва стварэння ікон было прынесена на Русь з Візантыі. Мастакі таксама ўпрыгожвалі кнігі *мініяцюрамі* — невялікімі шматкаляровымі малюнкамі.



Успенскі сабор



7, с. 188



Ікона Уладзімірскай Божай Маці



Успенне. *Феафан Грэк*



Тройца. *Андрэй Рублёў*

Сапраўдны росквіт рускага жывапісу назіраўся ў канцы XIV—XV ст. У гэты час тварылі выдатныя іканапісцы і майстры фрэскавага роспісу ***Феафан Грэк*** і ***Андрэй Рублёў***.

Феафана Грэка адзначала асобая манера пісьма. Яго выявы выкананы ў цёмных, змрочных тонах. У абразах святых адчуваецца нешта суровае і грознае.

Феафан Грэк быў родам з Візантыі. Ужо ў сталым узросце Феафан прыехаў у Ноўгарад, а хутка быў запрошаны ў Маскву. Тут жывапісец распісаў фрэскамі некалькі сабораў.

Разам з Феафанам Грэкам у роспісе Благавешчанскага сабора ў Маскве прымаў удзел Андрэй Рублёў.

Андрэй Рублёў дасягнуў найвышэйшага майстэрства ў жывапісе. Для яго работ характэрна спакойная, прыміраная

манера. У сваіх працах майстар аддаваў перавагу асобым мяккім колерам. Ён упершыню выкарыстаў іх у царкоўным жывапісе. Сусветную вядомасць набыла яго ікона «Тройца».

**1.** Якія дасягненні культуры прыйшлі на Русь разам з прыняццем хрысціянства? **2.** Якую ролю іграла праваслаўная царква ў жыцці ўсходнеславянскага грамадства? **3.** Што сведчыць аб высокім узроўні пісьменнасці насельніцтва ў Старажытнай Русі? **4.** Раскажыце аб развіцці сярэдневяковай рускай літаратуры. Прывядзіце яе найбольш вядомыя прыклады. **5.** Раскажыце аб развіцці архітэктуры сярэдневяковай Русі. Якія перабудовы былі праведзены ў Маскоўскім Крамлі ў XIV—XV стст.? **6.** Параўнайце творы Феафана Грэка і Андрэя Рублёва. Што адрознівае творчасць кожнага з іх?


Падрыхтуйце паведамленне аб адным з дасягненняў культуры сярэдневяковай Русі.

## Абагульненне да I і II раздзелаў Еўропа ў Сярэдневякоўі

У Сярэдневякоўі сфарміраваліся і развіліся дзве цывілізацыі Еўропы: заходнееўрапейская і ўсходнееўрапейская. Аснову першай склалі Франкская дзяржава, затым дзяржава, якая ўтварылася пасля яе распаду. Да яе належалі таксама Англія, скандынаўскія і пірэнейскія дзяржавы. Асновай усходнееўрапейскай сярэдневяковай цывілізацыі з'яўлялася Візантыя — прамая спадчыніцца цывілізацый антычнасці. Яна аказала вялікі ўплыў на развіццё ўсходніх і паўднёвых славян. Дзве еўрапейскія цывілізацыі мелі шмат агульнага, напрыклад хрысціянскую рэлігію.

Аднак былі і важныя адрозненні. У грамадстве Заходняй Еўропы сфарміраваліся феадальныя адносіны — да таго невядомыя чалавецтву. У Візантыі ж яны так і не склаліся. Візантыя ў Раннім сярэдневякоўі валодала самай развітой культурай у Еўропе. А ў Заходняй Еўропе ў той час культурнае жыццё прыйшло ў заняпад. Візантыю ў Раннім

сярэдневякоўі называлі краінай гарадоў, а ў Заходняй Еўропе ў гэты перыяд гарадоў было вельмі мала. Але ў Высокім сярэдневякоўі Заходняя Еўропа стала даганяць у сваім развіцці Візантыю. Адбываўся бурны рост гарадоў, культуры. З'явіліся ўніверсітэты. Візантыя ж паступова прыйшла ў заняпад.

Хрысціяне заходнееўрапейскай цывілізацыі выспавядалі каталіцкую веру, а ўсходнееўрапейскай — праваслаўную.

У канцы Ранняга і ў Высокім сярэдневякоўі славянскі свет раздзяліўся. Заходнія славяне і частка паўднёвых славян аказаліся пад моцным уплывам заходнееўрапейскіх краін. Усходнія і большая частка паўднёвых славян адчувалі моцны ўплыў Візантыі. Дабратворна адбіўся ўплыў вялікай культуры Візантыі на старажытнарускую дзяржаву, якая аб'ядноўвала тэрыторыі пражывання продкаў беларусаў, рускіх і ўкраінцаў.

Частка ўсходніх славян каля сярэдзіны XIII ст. аказалася адарванай ад астатняй Еўропы мангольскім нашэсцем. Усходнія славяне Паўночна-Усходняй Русі на многія гады трапілі пад прыгнёт Залатой Арды. Але частка ўсходнеславянскага насельніцтва, у тым ліку продкі беларусаў і ўкраінцаў, стала асновай Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

У Познім сярэдневякоўі землі паўднёвых славян былі захоплены туркамі-асманамі. Польская і Чэшская дзяржавы знаходзіліся пад моцным уплывам заходнееўрапейскай цывілізацыі. Чэхія, нягледзячы на магутны нацыянальны Гусіцкі рух, засталася ў складзе Свяшчэннай Рымскай імперыі. Польшча і Вялікае Княства Літоўскае сумеснымі намаганнямі змаглі адолець моцнага праціўніка — Тэўтонскі ордэн.

Важнейшай падзеяй Позняга сярэдневякоўя для Усходняй Еўропы стала ўзнікненне Расійскай дзяржавы. Пас-

ля падзення Візантыйскай імперыі яна прэтэндавала на лідарства ва ўсходнееўрапейскай цывілізацыі.

Перыяд Позняга сярэдневякоўя ўключаў у сябе толькі два стагоддзі гісторыі чалавецтва. Але за гэты час Заходняя Еўропа здзейсніла сапраўдны рывок у сваім развіцці.

Для Заходняй Еўропы гэта быў час эканамічнага пад’ёму. Таварна-грашовая гаспадарка прыйшла на змену натуральнай. З’явіліся мануфактуры і рэзка павялічылася колькасць тавараў, якія выпрабляліся.

Важныя змяненні адбыліся і ў заходнееўрапейскім грамадстве. Пачалі разрывацца феадальныя сувязі. Знікла феадальная іерархія, з гэтага часу адзіным сеньёрам для ўсіх феадалаў з’яўляўся кароль. Змяніліся і адносіны паміж феадаламі і сялянамі. Сяляне атрымалі асабістую свабоду, і іх асабістая залежнасць ад свайго феадала знікла. Сяляне засталіся толькі ў пазямельнай залежнасці ад феадалаў, за што павінны былі плаціць ім аброк. Цяпер сялян судзілі дзяржаўныя чыноўнікі, а не феадалы паводле свайго самавольства.

Змяненні ў грамадстве прывялі і да перамен у дзяржаўным устройстве краін Заходняй Еўропы. У большасці дзяржаў умацавалася каралеўская ўлада. Яны сталі цэнтралізаванымі. Усімі справамі ў дзяржаве кіраваў манарх з дапамогай сваіх чыноўнікаў. Феадалы не мелі права кіраваць залежнымі ад іх сялянамі ў сваіх уладаннях. У цэнтралізаваных краінах сфарміравалася саслоўна-прадстаўнічая манархія. Каралі правілі краінай, абапіраючыся на выбраныя саслоўямі органы — парламент, Генеральныя штаты.

Вялікія змяненні адбыліся ў культуры. Распад ранейшых феадальных сувязей паміж людзьмі ў грамадстве патрабаваў пошуку новых адносін. Гуманісты лічылі феадальныя адносіны недастойнымі чалавека. У пошуках новых адносін паміж людзьмі яны звярнуліся да гісторыі Старажытных Афін, Рымскай рэспублікі. Узнікла новая куль-

тура — культура Адраджэння. Яе ідэалам стаў адукаваны, ініцыятыўны чалавек, які ўласнай працай стварае шчаслівае жыццё. Адраджэнне цікавасці да антычнай культуры дазволіла ствараць шэдэўры ў літаратуры, жывапісе, скульптуры, архітэктуры. Навука адышла ад абстрактных спрэчак і павярнулася да патрэб чалавека. Еўрапейцы самі вынайшлі кнігадрукаванне, вядомае ў Кітаі яшчэ ў Высокім сярэдневякоўі.

У эканамічным развіцці сярод іншых цывілізацый Заходняя Еўропа выйшла ўперад. У пошуках новых рынкаў для сваіх тавараў і сыравіны заходнееўрапейцы накіраваліся за далёкія моры і акіяны. Яны адкрылі для сябе новыя краіны і цэлыя кантыненты.

## Заданні да ўрока абагульнення

**1.** Складзіце свой спіс выдатных дзеячаў Заходняй Еўропы і славянскіх краін эпохі Сярэдневякоўя. З дапамогай памяткі падрыхтуйце характарыстыку аднаго з выбраных вамі дзеячаў. Прапануйце яе класу.

### Памятка

1) Калі і ў якой краіне жыў і дзейнічаў гэты гістарычны дзеяч; да якога грамадскага слоя належаў; якое выхаванне атрымаў?
2) Якія былі яго жыццёвыя мэты, якія сродкі ён выкарыстаў для іх дасягнення?
3) Якія асабістыя якасці дапамаглі яму ісці да мэты і якія перашкаджалі?
4) Пералічыце асноўныя вынікі яго дзейнасці.
5) Назавіце значэнне яго дзейнасці. Выкажыце свае адносіны да дадзенай асобы.

**2.** Падрыхтуйце разгорнутыя адказы на пытанні:
1) Якое значэнне мела для ўсходніх славян прыняцце хрысціянства?
2) Які ўплыў на развіццё заходніх славян аказвалі іх суседзі?
3) Як паўплывала на развіццё сельскай гаспадаркі ў Заходняй Еўропе вызваленне сялян ад асабістай залежнасці?
4) Якую ролю адыграла каталіцкая царква ў развіцці адукацыі ў сярэдневяковай Заходняй Еўропе?
Абмяркуйце пытанні ў парах або групах.

**3.** Запоўніце табліцу «Дзяржава ў IX—XV стст.».

| | Францыя | Англія | Свяшчэнная Рымская імперыя | Візантыя | Старажытная Русь |
|---|---|---|---|---|---|
| Найбольш вядомыя правіцелі | | | | | |
| Асноўныя падзеі | | | | | |
| Асаблівасці развіцця | | | | | |

Абмяркуйце вынікі выканання задання. Параўнайце і ўкажыце агульныя рысы і адрозненні. Зрабіце вывады аб асаблівасцях развіцця гэтых краін у эпоху Сярэдневякоўя.

**4.** Складзіце 2—3 пытанні для віктарыны па гісторыі славянскіх краін і краін Заходняй Еўропы.

**5.** Вызначыце, калі былі ўтвораны гэтыя дзяржавы: Свяшчэнная Рымская імперыя, Французская імперыя, Першае Балгарскае царства, Польская, Чэшская і Старажытнаруская.

Адзначце даты ўзнікнення дзяржаў на лініі часу. Самастойна складзіце 2—3 заданні па лініі часу.

**6.** Складзіце 2—3 храналагічныя задачы па гісторыі Заходняй Еўропы, Візантыі і славянскіх краін. Прапануйце рашыць іх сваім аднакласнікам. Для складання задач выкарыстайце табліцу «Асноўныя падзеі гісторыі Сярэдніх вякоў » (с. 194—196).

**7.** З гісторыяй якіх краін Заходняй Еўропы звязаны гэтыя даты: 800 г., 962 г., 1066 г., 1204 г., 1215 г., 1265 г., 1302 г., 1337—1453 гг., 1479 г., 1453 г., 1492 г., 1498 г.?

**8.** Складзіце свой спіс самых важных дат з гісторыі славянскіх краін. Растлумачце свой выбар.



Раздзел III

# ЦЫВІЛІЗАЦЫІ АЗІІ, АФРЫКІ І АМЕРЫКІ

## § 24. Узнікненне ісламу і Арабскі халіфат

?! Хто спыніў прасоўванне арабаў у Еўропу ў VIII ст.?

Дзяржавы, заваяваныя гэтымі качэўнікамі, былі вялікімі і моцнымі. Чаму арабам удалося захапіць іх і стварыць дзяржаву, якая раскінулася ў трох частках свету? І як узаемазвязаны ўзнікненне новай рэлігіі і стварэнне арабскай дзяржавы?

**1. Дзе і як жылі арабы.** Арабы з даўніх часоў жылі на Аравійскім паўвостраве, ад іх ён атрымаў сваю назву. Клімат Аравіі вельмі сухі. Дажджоў выпадае мала, і нават вятры не ратуюць людзей і жывёл ад нясцерпнай дзённай гарачыні.

Большую частку паўвострава займаюць бясконцыя пустыні і стэпы. У іх у пачатку нашай эры жыла значная частка насельніцтва Аравійскага паўвострава — качавыя *арабы-бедуіны*. Галоўным іх заняткам была жывёлагадоўля. Яны разводзілі вярблюдаў, авечак, пераганялі іх з месца на месца туды, дзе жывёлы маглі знайсці сабе харч. Сустракаліся на Аравійскім паўвостраве і месцы, дзе была вада, — аазісы. Тут жыхары займаліся земляробствам, разводзілі сады, вінаграднікі, а затым абменьвалі дары зямлі ў бедуінаў на прадукты жывёлагадоўлі.

**2. Арабы напярэдадні аб'яднання ў адзіную дзяржаву.** У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя арабы яшчэ жылі ва ўмовах разлажэння першабытнаабшчыннага ладу і былі язычнікамі. Кожнае племя пакланялася сваім багам.

Праз Аравійскі паўвостраў праходзілі важныя гандлёвыя шляхі. Па іх з Індыі, Усходняй Афрыкі перавозілі шоўк,

вострыя прыправы, алмазы, слановую косць і іншыя тавары на поўнач. Бедуіны ўдзельнічалі ў караванным гандлі. Яны за плату давалі караваншчыкам вярблюдаў, ахоўвалі караваны, а то і самі былі пагоншчыкамі. На гандлёвых шляхах узнікалі буйныя гандлёвыя паселішчы. Адным з іх быў горад *Мекка*.



Караван у пустыні

Плямёны бедуінаў вялі частыя войны з-за месцаў, дзе магла пасвіцца жывёла. Войны ўзнікалі і за кантроль над гандлёвымі шляхамі. Знаць бедуінаў захоплівала здабычу ў набегах на суседнія дзяржавы.

Узнікненне маёмаснай няроўнасці, супярэчнасці паміж знаццю і простымі арабамі, неабходнасць адпору знешнім ворагам, імкненне да захопу багаццяў суседніх земляробскіх краін прывялі да аб'яднання арабаў у адзіную дзяржаву.

**3. Узнікненне ісламу і аб'яднанне арабаў.** Вялікую ролю ў аб'яднанні арабаў і стварэнні арабскай дзяржавы адыграла новая рэлігія — ***іслам*** (па-арабску гэта азначае «пакорнасць»). Тых, хто прызнаваў іслам, называлі *мусульманамі* (гэта значыць «пакорнымі Богу»). Заснавальнікам ісламу і аб'яднальнікам арабаў быў ***Мухамед***.

Мухамед нарадзіўся ў 570 г. у горадзе Мекка ў небагатай купецкай сям'і. У раннім дзяцінстве застаўся круглым сіратой. Мухамед жыў бедна, хадзіў з караванамі. Потым ён стаў купцом. У 40 гадоў Мухамед пачаў выступаць са сваімі пропаведзямі. Ён гаварыў, што да яго ва ўяўленнях прыходзіў пасланнік Бога архангел Джэбраіл і перадаваў словы Бога, якія Мухамед павінен быў данесці да ўсіх людзей. Тыя, хто яго слухаў і верыў яму, называлі Мухамеда прарокам. (Прарок — у ісламе пасланнік Бога, які адкрывае людзям веру ў Бога.)



Надпіс «Няма Бога, акрамя Алаха, і Мухамед — прарок яго»

Мухамед прапаведаваў, што ёсць толькі адзін сапраўдны Бог — *Алах*. Але толькі нямногія жыхары з Меккі спачатку паверылі прапаведзям Мухамеда. **У 622 г.** прарок і некалькі дзясяткаў яго паплечнікаў павінны былі перасяліцца з Меккі ў суседні горад Медыну. Гэта перасяленне першай мусульманскай абшчыны пазней было абʼяўлена першым годам мусульманскай эры.

Жыхары Медыны паверылі ў вучэнне прарока. Узначаліўшы іх, ён пачаў узброеную барацьбу супраць гараджан Меккі. **У 630 г.**, калі Мухамеда падтрымалі многія плямёны качэўнікаў, Мекка падпарадкавалася яму. Хутка ўсе плямёны Аравіі прызналі Мухамеда сваім уладаром і прынялі іслам. Так была створана адзіная дзяржава арабаў. Цяпер іх абʼядноўвала вера ў адзінага Бога (Алаха). На чале дзяржавы быў Мухамед — «намеснік Алаха на Зямлі». Ён лічыў усіх мусульман сваімі падданымі.

**4. Заваяванні арабаў.** Пасля смерці Мухамеда арабскай дзяржавай правілі *халіфы* (у перакладзе — «намеснікі прарока»). Дзяржава арабаў называлася ***халіфат***.

Ужо пры першых халіфах у VII ст. арабы пачалі свае заваёўніцкія паходы. Арабскае войска было шматлікім. Яго складалі ўсе мужчыны, здольныя трымаць у руках зброю. Войска хутка перамяшчалася на вярблюдах і конях, зʼяўлялася нечакана для ворага.

Арабы марылі заваяваць Візантыю і Іран — дзве мацнейшыя дзяржавы таго часу на Усходзе. Яны вялі паміж сабой цяжкія войны, якія аслабілі іх. Гэта і выкарысталі арабы. Арабы абяцалі жыхарам гарадоў Ірана і Візантыі бяспеку і памяншэнне падаткаў. І гараджане нярэдка самі адчынялі




Арабскі халіфат

ім вароты. Былі захоплены Сірыя, Палесціна і Егіпет, якія належалі Візантыі. Адначасова арабы пакарылі Іран і частку Сярэдняй Азіі. Ім удалося захапіць і раёны Індыі ў даліне ракі Інд.


*Знайдзіце і назавіце тэрыторыі, заваяваныя арабамі. У якіх частках свету яны размяшчаліся?*

У пачатку VIII ст. арабы ўварваліся ў Еўропу. За тры гады яны захапілі амаль увесь Пірэнейскі паўвостраў. Пасля гэтага арабы рушылі на дзяржаву франкаў. Але франкі разбілі арабскае войска і спынілі іх далейшае прасоўванне.

Такім чынам, на працягу VII—VIII стст. утварылася вялікая дзяржава арабаў — ***Арабскі халіфат***. Яго ўладанні раскінуліся ад берагоў Атлантычнага акіяна да Індыі.

Спачатку сталіцай дзяржавы была Медына, потым горад Дамаск, а затым Багдад (на рацэ Тыгр).

**5. Росквіт Арабскага халіфата і яго распад.** Насельніцтва халіфата было вельмі шматлікім — 70—80 мільёнаў чалавек. Асноўным заняткам з'яўлялася земляробства. Егіпет і Іран давалі багатыя ўраджаі пшаніцы і рысу. У Сірыі і Палесціне вырошчвалі лепшыя сарты вінаграду і фруктаў. Славіліся фінікі з Аравіі. Акрамя таго, арабы займаліся развядзеннем коней. Увесь свет ведаў знакамітых арабскіх скакуноў.

6, с. 181

Стварэнне адзінай вялікай дзяржавы садзейнічала развіццю рамяства і гандлю. Квітнелі старыя гарады, з'яўляліся новыя. Найбольш буйнымі з іх былі Дамаск, Багдад, Каір і Самарканд. Тут працавалі рамеснікі самых розных прафесій. Іх вырабы карысталіся вялікім попытам і славіліся далёка за межамі халіфата. У кожным горадзе былі шматлюдныя базары, якія здзіўлялі разнастайнасцю тавараў. Халіфат меў гандлёвыя сувязі з многімі краінамі Азіі і Еўропы.



Палац арабскага правіцеля Кордавы. *Іспанія. X ст.*

Найвышэйшага развіцця халіфат дасягнуў у IX ст. Але ўжо ў канцы гэтага стагоддзя ён распаўся. Яго магутнасць падарвалі паўстанні заваяваных народаў, прыгнечаных сялян і рамеснікаў.

Але галоўнай прычынай распаду Арабскага халіфата было ўмацаванне правіцеляў асобных правінцый. Яны сталі поў-

ными гаспадарамі на падначаленых ім тэрыторыях і мелі ўласныя ваенныя сілы.

Правіцелі не жадалі дзяліцца даходамі з халіфамі і перадавалі свае пасады ў спадчыну сынам.

Так Арабскі халіфат распаўся на мноства самастойных дзяржаў. Але асноўнай мовай у іх заставалася арабская, а рэлігіяй — іслам.

**?** **1.** Растлумачце, як было ўстроена грамадства арабаў да прыняцця ісламу. Якія былі іх рэлігійныя вераванні? **2.** Складзіце план адказу «Узнікненне ісламу і аб'яднанне арабаў». **3.** Параўнайце тэрыторыю арабскай дзяржавы пры Мухамедзе і ў час росквіту Арабскага халіфата. Растлумачце прычыны поспехаў заваёўніцкіх паходаў арабаў. **4.** Складзіце паведамленне аб Арабскім халіфаце паводле плана: час існавання, прычыны стварэння, тэрыторыя, насельніцтва, прычыны распаду. **5.** Растлумачце, як звязаны паміж сабой даты: *622 г., 630 г., VII—VIII стст., IX ст.* **6.** Дапоўніце свой гістарычны слоўнік паняццямі: *іслам, халіфат.*


Слоўнік


Падрыхтуйце паведамленне аб адным з гарадоў Арабскага халіфата.

## § 25. Араба-ісламская культура

**?!** Пералічыце вядомыя вам дасягненні культуры народаў Старажытнага Усходу.

У гісторыі рэдка бывае, калі ў выніку заваяванняў качэўнікаў ствараецца вялікая культура. Але такога высокага ўзроўню яе развіцця, як у Арабскім халіфаце, не ведалі многія краіны і народы Сярэдневякоўя. Што ж выклікала такі пад'ём культуры?

**1. Каран — свяшчэнная кніга мусульман.** Пасля смерці Мухамеда яго пропаведзі былі запісаны і склалі свяшчэнную кнігу — ***Каран*** (у перакладзе з арабскай мовы — «чытанне»). Мусульмане вераць, што Каран — гэта словы Алаха, перададзеныя ім прароку Мухамеду.


Старонка Карана



Арабскія воіны

Галоўнае ў ісламе — вера ў аднаго Бога (Алаха). Мусульмане перакананы ў бяссмерці чалавечай душы. Алах стварыў свет і чалавека, даў людзям сродкі для існавання, дастатак. Але настане канец свету, і на апошнім судзе Алах вынесе свой прыгавор кожнаму чалавеку за ўсе яго добрыя і злыя справы. Праведнікі трапяць у рай, а грэшнікі і няверуючыя ў Алаха акажуцца ў пекле. Мухамед сцвярджаў, што Алах адзін як у арабаў, так і ў яўрэяў, і ў хрысціян, якім Бог адкрыў сябе праз папярэдніх прарокаў — Мусу (Майсея) і Ісу (Ісуса).

Паколькі іслам узнік побач з тымі тэрыторыямі, дзе раней з'явіліся іўдаізм і хрысціянства, то можна заўважыць падабенства Бібліі і Карана. У іх амаль аднолькава расказваецца аб стварэнні Богам свету за шэсць дзён, аб стварэнні першых людзей, аб іх грэхападзенні і выгнанні з раю, аб сусветным патопе і многім іншым.

Адно з важнейшых палажэнняў Карана — ідэя джыхада. (Джыхад — гэта стараннасць, запал у распаўсюджанні ісламу, у тым ліку і шляхам вайны супраць людзей іншай веры). Каран абяцае, што тыя, хто загінуў у свяшчэннай вайне, адразу трапяць у рай.

*Якую ролю выканала ідэя джыхада ў заваёвах арабаў?*

Іслам спачатку быў рэлігіяй толькі арабаў, але хутка яго прынялі многія народы свету. Яго распаўсюджанню на вялікай тэрыторыі садзейнічалі арабскія заваяванні.

Храм Кааба ў Мецы.

*Чаму мусульмане павінны здзяйсняць малітвы тварам да Меккі і Каабы?*



**2. Іслам у жыцці сярэдневяковых мусульман.** Мухамед заклікаў усіх веруючых падпарадкоўвацца ўладам, паколькі яны пастаўлены Алахам. Халіф з'яўляўся не толькі галавой дзяржавы, але і галавой усіх мусульман. Тыя, хто не прымаў іслам, плацілі асобы падатак.

Мусульмане павінны абавязкова прагаворваць пяць малітваў у дзень. Пасля закліку да малітвы ўсе мусульмане — ад халіфа да старца — кідалі свае справы і маліліся. Лічылася, што Алах адусюль пачуе верніка. Малітвы праводзілі ў спецыяльных будынках — ***мячэцях*** або ў любым падыходзячым месцы. Кожны мусульманін павінен хоць бы раз у жыцці правесці падарожжа ў Мекку і наведаць галоўную святыню ісламу — храм ***Каабу***. Гэта падарожжа называецца *хадж*.

Мусульманам не дазвалялася піць віно, есці свініну. Іслам у Сярэдневякоўі забараняў маляваць людзей, жывёл. Таму мастакі ўмела малявалі арнамент, які складаўся з незвычайна пераплеценых ліній. У Еўропе яго так і называлі — *арабеска*.



Арабеска

6, с. 187

**3. Росквіт культуры халіфата.** Культура заваёўнікаў-арабаў знаходзілася на больш нізкім узроўні, чым культура пакораных імі народаў. Аднак менавіта ў Арабскім халіфаце ўзнікла новая вялікая культура. Яе называюць *араба-ісламскай*. Ёсць некалькі прычын таго, што яна была значна больш развітой, чым культура Заходняй Еўропы таго часу.

**Прычыны росквіту культуры Арабскага халіфата**

- Аб'яднанне ў адной дзяржаве народаў з высокаразвітой культурай
- Арабская мова — адзіная дзяржаўная мова ў халіфаце
- Узаемны абмен навуковымі ведамі і дасягненнямі культуры
- Адзіная рэлігія — іслам, якая аб'яднала ўсё насельніцтва краіны

У араба-ісламскай культуры зліліся дасягненні культуры розных народаў, аб'яднаных арабскай мовай і ісламам.

**4. Навука, літаратура і мастацтва.** Арабы вельмі любілі і цанілі паэзію. Спачатку паэты больш услаўлялі адвагу воінаў-бедуінаў. Затым усё часцей сталі пісаць аб прыгажосці прыроды, чалавечых пачуццях. Нямала з іх асуджалі багацце, сквапнасць, уладалюбства. На працягу некалькіх стагоддзяў многімі народамі Арабскага халіфата ствараўся вядомы зборнік казак «Тысяча і адна ноч». Гэта казкі аб высакародных людзях, аб каханні, аб дзіўных падарожжах, чалавечых хітрасцях і чарадзеях.

Вялікімі былі дасягненні навукі. «Важнейшае ўпрыгожанне чалавека — веды», — гаварылі арабскія вучоныя. Арабы стварылі алгебру (па-арабску гэта азначае «лічэнне»). Яны сталі выкарыстоўваць індыйскія лічбы, якія праз арабаў трапілі ў Еўропу і сталі называцца *арабскімі*.

У Багдадзе, Каіры, Кордаве (на Пірэнейскім паўвостраве) існавалі вышэйшыя навучальныя ўстановы. У вялікіх біб-

Мячэць з мінарэтамі ў Медыне. *Фота*

*Знайдзіце на фота мінарэты. Як вы лічыце, чаму так важна было зрабіць іх высокімі?*



ліятэках захоўваліся тысячы кніг. Напрыклад, у бібліятэцы Кордавы налічвалася каля 400 тысяч рукапісных кніг.

Архітэктары і будаўнікі халіфата стварылі нямала цудоўных будынкаў, палацаў для правіцеляў, мячэцей. Упрыгожаннем мячэцей быў круглы купал і мноства ажурных калон. Каля мячэці заўсёды будаваўся *мінарэт*. Гэта высокая вежа, з якой веруючых заклікалі да малітвы.

Араба-ісламская культура адыграла важную ролю як у жыцці народаў халіфата, так і ў гісторыі ўсяго чалавецтва. Яна аб'яднала ў сабе культуры многіх народаў. Гэта садзейнічала іх узаемнаму пранікненню і ўзбагачэнню.

? **1.** Як іслам уплываў на паўсядзённае жыццё мусульман? **2.** Параўнайце хрысціянства і іслам паводле плана: час узнікнення, месца ўзнікнення, тэрыторыя распаўсюджання, свяшчэнныя кнігі, асноўныя ідэі, правілы для веруючых, агульныя рысы. **3.** Растлумачце, чаму араба-ісламская культура была больш развітой, чым культура Заходняй Еўропы таго часу. **4.** Складзіце спіс дасягненняў араба-ісламскай навукі і культуры, якія ўвайшлі ў сусветную культуру. **5.** Дапоўніце гістарычны слоўнік паняццямі: *Каран, мячэць, Кааба, джыхад, хадж, арабеска, мінарэт.* **6.** Падрыхтуйце 3—5 пытанняў для віктарыны «Арабскі халіфат».


Слоўнік



Падрыхтуйце і прапануйце аднакласнікам паведамленне аб адным з сярэдневяковых арабскіх падарожнікаў.

## § 26. Іран і Сярэдняя Азія

?! Якія дзяржавы размяшчаліся на тэрыторыі Ірана ў старажытнасці?

Быццам хваля за хваляй накатваліся нашэсці заваёўнікаў на гэтыя квітнеючыя землі. Яны неслі смерць, разбурэнне і прыгнёт. Здавалася, што тут ніколі не адродзяцца мнагалюдныя гарады, а землі ніколі больш не дадуць ураджаю. Але менавіта Іран і Сярэдняя Азія далі чалавецтву вялікіх вучоных, паэтаў, мысліцеляў.

**1. Іран і Сярэдняя Азія пасля распаду Арабскага халіфата.** Арабскае заваяванне прывяло да распаўсюджання ў Іране і Сярэдняй Азіі ісламу і арабскай мовы, але не забылася і персідская мова. Многія выдатныя дзеячы культуры і навукі Ірана і Сярэдняй Азіі пісалі свае працы як на той, так і на другой мове.

Іран і Сярэдняя Азія са старажытнейшых часоў былі раёнамі арашальнага земляробства. Дзякуючы дамбам і каналам землі давалі добрыя ўраджаі. Многія жыхары стэпаў і пустынь займаліся качавой жывёлагадоўляй. У гарадах рамеснікі выраблялі высакаякасныя тканіны, цудоўныя дываны, прыгожы посуд і магутную зброю. Іран і Сярэдняя Азія мелі цесныя гандлёвыя сувязі з Кітаем, Індыяй, Руссю і Візантыяй.



Маўзалей харэзмшаха Ала ад-Дзіна Тэкеша. *XIII ст. Фота*

Пасля распаду Арабскага халіфата ўлада аказалася ў руках мясцовай знаці. У канцы XII ст. у Сярэдняй Азіі ўзвысіліся ўладары ***Харэзма***. Яны падпарадкавалі сабе Ся-

рэднюю Азію і частку Ірана. Дзяржава ***шахаў*** (правіцеляў) Харэзма дасягнула свайго росквіту ў пачатку XIII ст.

**2. Мангольскае нашэсце: крывавы віхор на квітнеючых землях.** У пачатку XIII ст. адзін з мангольскіх ханаў — ***Чынгісхан*** — аб'яднаў пад сваёй уладай усе мангольскія плямёны. У **1219 г.** яго войска ўварвалася ў Сярэднюю Азію. Быццам крывавы віхор прайшоў па яе квітнеючых землях і цудоўных гарадах.


6, с. 192

У мангольскіх воінаў былі лукі, з якіх стрэлы ляцелі далёка і дакладна. Часта менавіта атакі лучнікаў вырашалі зыход бітваў на карысць манголаў. Але іх галоўнай сілай была шматлікая конніца.

На сваім шляху манголы разбуралі арашальныя збудаванні, знішчалі гарады, бязлітасна забівалі людзей, нават немаўлят, рабавалі тое, што было створана цяжкай працай чалавечых рук. Калі які-небудзь горад доўга не здаваўся, манголы пасля яго ўзяцця забівалі ўсіх жыхароў. Нярэдка мясцовая знаць, ратуючы сваё жыццё і багацце, здавала гарады манголам. Сярэдняя Азія была захоплена манголамі за два гады.

***З апісання наведання горада Мерва арабскім пісьменнікам ібн-Якутам:***

*«Палацы сцёрты з зямлі, як радкі пісьма бываюць сцёрты з паперы, і гэта жыллё стала жыллём для соў і варон, у гэтых месцах перагукваюцца злавесныя совы і вятры стогнуць у залах...»*

*Ці згодны вы з тым, што Чынгісхана называюць вялікім палкаводцам? Якую характарыстыку далі б яму вы?*

Такая ж жорсткая доля спасцігла і землі Ірана. Унук Чынгісхана ***Хулагу*** захапіў іх у сярэдзіне XIII ст. і стварыў там і на частцы Сярэдняй Азіі асобную мангольскую дзяржаву.

Мангольскія заваёўнікі жорстка прыгняталі мясцовае насельніцтва. Ніколі яшчэ Іран і Сярэдняя Азія не ведалі такога разбуральнага прыгнёту, як пры манголах. Падаткі адбіралі ў сялян больш за тры чвэрці сабранага ўраджаю. Часта, даведаўшыся аб прыбліжэнні зборшчыкаў падаткаў, сяляне ўцякалі цэлымі вёскамі. Пры беднасці і голадзе насельніцтва мангольская знаць жыла ў раскошы. Каля сярэдзіны XIV ст. народ паўстаў і заваёўнікаў выгналі.

**3. Дзяржава Цімура.** У 1370 г. адзін з буйнейшых гарадоў Сярэдняй Азіі — Самарканд быў захоплены ***Цімурам***, які паходзіў са знатнай, але небагатай мангольскай сям'і. Цімур хацеў стаць такім жа вялікім і бязлітасным заваёўнікам, як




Заваяванні Цімура

Чынгісхан. Ён стварыў вялікае войска і пачаў захопніцкія паходы. Правіцель марыў стварыць вялікую дзяржаву на важных гандлёвых шляхах, якія ішлі з Кітая і Індыі да Міжземнага мора. Цімур пакарыў усю Сярэднюю Азію, Іран, Закаўказзе, міжрэчча Тыгра і Еўфрата. Гэтыя тэрыторыі ўвайшлі ў склад яго дзяржавы. Кроў, гора і смерць пакідаў за сабой гэты заваёўнік.



Цімур. *Рэканструкцыя М. Герасімава*

Бязлітасны ваеначальнік пакінуў крывавыя сляды і ў Індыі, і ў Залатой Ардзе, і ў Турцыі — усюды, куды ён здзяйсняў свае грабежніцкія паходы. Цімур задумаў захапіць і Кітай, але памёр у 1405 г., калі яго войска ледзь выступіла ў паход. Яго вялікая дзяржава, у якую ўваходзіла мноства народаў як высокаразвітых краін, так і адсталых качэўнікаў, распалася.

**4. Сярод войнаў — скарбы сусветнай культуры.** Нягледзячы на пастаянныя войны, якія пракаціліся па Іране і Сярэдняй Азіі, іх народы падаравалі чалавецтву цэлае сузор'е выдатных вучоных, паэтаў і пісьменнікаў. Нялёгкім было жыццё многіх з іх, але яны змаглі зрабіць тое, чым захапляліся і яшчэ доўга будуць захапляцца людзі.



Біруні

Сярэднеазіяцкі астраном ***Біруні*** яшчэ ў першай палавіне XI ст., за некалькі стагоддзяў да еўрапейца Каперніка, выказаў думку, што Зямля рухаецца вакол Сонца.

Вялікім вучоным, які дасягнуў выдатных поспехаў у розных навуках, быў



«Канон» Ібн Сіны. *XIV ст.*



Апісанне чалавечага вока вучоным іранскай медыцынскай школы. *IX ст.*

сябар Біруні — ураджэнец Бухары ***Ібн Сіна***, якога ў Еўропе называлі ***Авіцэна***. Больш за ўсё ён праслявіўся як медык. Сапраўднай энцыклапедыяй па медыцыне стаў яго твор «*Канон*», над якім ён працаваў шмат гадоў. У ім ён падрабязна апісаў чалавечае цела, разнастайныя хваробы, спосабы іх лячэння, розныя лекі. На многія стагоддзі «Канон» Ібн Сіны стаў галоўным падручнікам для ўрачоў розных краін свету. Вучыўся па ім у пачатку XVI ст. ва ўніверсітэце ў Італіі на доктара медыцыны і беларускі першадрукар Францыск Скарына. *(Як вы думаеце, на якой мове чытаў гэтую кнігу Францыск Скарына? )*



Авіцэна

Выдатны іранскі паэт ***Фірдаўсі*** стварыў паэму «*Шахнамэ*» («Кніга цароў»). У ёй паведамляецца аб цараванні легендарных і гістарычных шахаў Ірана. Але большая частка твора прысвечана не ім, а волатам — змагарам за мірнае жыццё свайго народа.

Іслам у Іране да канца Сярэдневякоўя яшчэ не быў такім строгім у забароне



Мініяцюра з «Шахнамэ» Фірдаўсі



Помнік Амару Хаяму ў Ашхабадзе

адлюстравання людзей. І кніга Фірдаўсі была напоўнена апісаннямі дзеянняў людзей і іх выявамі.

Калі Фірдаўсі падараваў сваю паэму аднаму з правіцеляў, той загадаў кінуць паэта пад ногі слану. Яму ўдалося ўцячы, а затым прыйшлося хавацца ад гневу ўсёмагутнага правіцеля.

*Як вы думаеце, за што амаль не пакаралі паэта?*

«Цар філосафаў Усходу і Захаду» — так называлі сучаснікі іранскага вучонага і паэта ***Амара Хаяма***. І, больш таго, цяжка было знайсці чалавека, роўнага яму па ведах у матэматыцы і астраноміі. Ужо ў 26 гадоў Амар Хаям напісаў працу па алгебры, якая праславіла яго. Ён стварыў новы каляндар, які па дакладнасці пераўзыходзіў усе астатнія. Погляды на жыццё і свет Амар Хаям выклаў у сваіх выдатных вершах, якія і цяпер карыстаюцца вялікай папулярнасцю. У гэтых вершах паэт усхваляў зямное жыццё чалавека.

Культура Ірана і Сярэдняй Азіі ў Высокім сярэдневякоўі была адной з самых развітых у свеце. Вучоныя, паэты, пісьменнікі ўнеслі вялікі ўклад у культуру чалавецтва.

? **1.** Адзначце на лініі часу ў сваім сшытку падзеі, звязаныя з гісторыяй Ірана і Сярэдняй Азіі. **2.** Што прынесла народам Ірана і Сярэдняй Азіі мангольскае заваяванне? **3.** Якія былі мэты заваявальных паходаў Цімура? Параўнайце тэрыторыі дзяржаў Чынгісхана (карта 3 другога форзаца) і Цімура (с. 160). **4.** Запоўніце табліцу «Асноўныя дасягненні сярэднеазіяцкіх і іранскіх вучоных у Сярэднія вякі».

| Навука | Імя вучонага | Уклад у навуку |
|---|---|---|
| Матэматыка | | |
| Медыцына | | |
| Астраномія | | |

**5.** Якія асноўныя тэмы творчасці паэтаў Ірана і Сярэдняй Азіі?

**Амар Хаям**

Калі б нават дзяржавы на ўсёй нашай зямлі
Пакароныя сілай тваёй паляглі,
Ты не станеш, вялікі ўладар, бессмяротным —
Лёс адзін як ва ўсіх — тры аршыны зямлі.

*Пераклад Я. А. Фядосіка*

***Як вы думаеце, што ў гэтым вершы не падабалася правіцелям дзяржаў таго часу?***

## § 27. Кітайская цывілізацыя

?! **1.** Хто стаў першым імператарам адзінай кітайскай дзяржавы? **2.** Якое грандыёзнае збудаванне ён пачаў узводзіць для аховы ад набегаў качэўнікаў? **3.** Якая рэлігія існавала ў Старажытным Кітаі?

Вытокі кітайскай цывілізацыі — у глыбокай старажытнасці. У Сярэднія вякі яна выйшла ў сусветныя лідары. Менавіта ў Кітаі былі ўпершыню зроблены важнейшыя адкрыцці і вынаходніцтвы. Але пры гэтым амаль усё Сярэдневякоўе кітайцы абараняліся ад нашэсцяў качэўнікаў. Як жа гэта адбілася на лёсах вялікай краіны?

**1. Самая мнагалюдная краіна сярэдневяковага свету.** Кітай у Сярэднія вякі быў адной з буйнейшых краін свету. У XI ст. яго насельніцтва налічвала больш чым 100 мільёнаў чалавек.

Большасць насельніцтва краіны складалі сяляне-земляробы. Галоўнай сельскагаспадарчай культурай быў рыс. Ужо да пачатку Сярэдневякоўя кітайцы навучыліся збіраць па два-тры ўраджаі рысу ў год.

Кітайскія гарады былі мнагалюднымі, у некаторых з іх жыло больш за мільён чалавек. Кітайскія рамеснікі выраблялі рэчы, многія з якіх яшчэ не ўмелі вырабляць у іншых краінах. Жыхарам другіх краін Кітай здаваўся краінай казачных багаццяў.


6, с. 206

Кітайскі чай, шоўк, фарфор і многія іншыя тавары высока цаніліся за межамі краіны. Іх вывозілі па многіх гандлёвых шляхах, за імі прыбывалі купцы з Індыі і Ірана. Гэтыя тавары дасягалі і Еўропы, але былі даступныя там толькі вельмі багатым людзям.

*Чаму гэтыя тавары каштавалі ў Еўропе так дорага?*

**2. Дзяржава ў Кітаі: імператар і яго падданыя.** Вярхоўным правіцелем Кітая быў імператар. Са старажытных часоў яго абагаўлялі і лічылі ***Сынам Неба***. Ён меў неабмежаваную ўладу.

Імператары правілі вялікай краінай з мнагамільённым насельніцтвам, абапіраючыся на шматлікіх чыноўнікаў. Усіх чыноўнікаў кантралявалі інспектары. Аб парушэннях яны дакладвалі непасрэдна імператару.



Горад Пекін. *Рэканструкцыя*

Чыноўнікі адказвалі за збор падаткаў, грамадскія работы (пабудову каналаў, дамб, дарог, палацаў), войска, за захаванне людзьмі норм паводзін, выкананне рэлігійных абрадаў, вынясенне судовых прыгавораў.

*Які сэнс укладвалі кітайцы ў горкі жарт: «У нас на дзесяць авечак — дзевяць пастухоў»?*

У сярэдневяковым Кітаі ўсё насельніцтва падраздзялялася на групы. Кожная з іх адрознівалася сваім месцам і роляй у грамадстве, сваім матэрыяльным становішчам, правамі, нават нормамі паводзін і адзеннем. Напрыклад, толькі імператар і яго сям'я мелі права насіць адзенне жоўтага колеру, паколькі ён лічыўся колерам зямлі, а яе ўладыкам быў толькі Сын Неба.

Вышэйшую групу насельніцтва Кітая складала знаць. Гэта былі вельмі багатыя людзі, якія мелі шмат зямлі і залежных людзей. Ніжэй знаходзіліся шматлікія чыноўнікі, якія дзяліліся на дзевяць рангаў.



Кітайскі імператар. *Малюнак VII ст.*

Асноўная маса насельніцтва дзялілася на «добры» і «подлы» народ. Да «добрых» адносілася большая частка сялян, рамеснікаў, гандляроў — усіх тых, хто плаціў дзяржаве падаткі. Тыя, хто не плаціў, — слугі, рабы — адносіліся да «подлага» народа і амаль не мелі правоў.

**3. Кітай і качэўнікі: пагроза са стэпаў.** На поўнач і захад ад Кітая жыло шмат качавых народаў. Іх вабілі багацці вялікай земляробскай краіны, і яны часта нападалі на Кітай. Амаль на працягу ўсяго Сярэдневякоўя на Кітай нападалі качэўнікі.

У XIII ст. самым небяспечным і разбуральным было мангольскае нашэсце. Захопнікі знішчылі шмат гарадоў, паселішч, разбурылі дамбы і каналы. Ад іх рук загінулі мільёны жыхароў. Але Кітай доўга, амаль 70 гадоў, супраціўляўся ваяўнічым захопнікам.

Мангольскі прыгнёт быў вельмі цяжкім для Кітая. Заваёўнікі не абмяжоўваліся зборам даніны. Яны аселі ў Кітаі. Вялікі мангольскі хан перанёс сталіцу з Манголіі ў Пекін і абвясціў сябе імператарам.

✓ Пры ўладарстве манголаў падаткі павялічыліся ў некалькі дзясяткаў разоў. Кітайцы былі пазбаўлены амаль усіх правоў. Ім забаранялі насіць зброю, паляваць, вучыцца ваеннай справе, праводзіць якія-небудзь сходы, запальваць па начах святло ў сваім жыллі. Перамяшчацца па краіне можна было толькі па асобым дазволе мангольскіх улад.



Качэўнікі. *Кітайская мініяцюра*



*Знайдзіце на карце 3 другога форзаца напрамкі паходаў манголаў на Кітай. Параўнайце захопленую імі тэрыторыю з тэрыторыяй мангольскіх плямён.*

Мангольскае ўладарства разбурыла эканоміку Кітая. Многія людзі ўміралі ад голаду. І тады пачалося магутнае вызваленчае паўстанне, у якім удзельнічалі ў асноўным сяляне. У **1368 г.** паўстанцы вызвалілі Пекін і хутка выгналі захопнікаў з краіны.

**4. Рэлігіі сярэдневяковага Кітая.** У сярэдневяковым Кітаі не было адзінай рэлігіі. Да нашых дзён там існуюць тры галоўныя рэлігіі: ***канфуцыянства, будызм і даасізм***.

Канфуцыянства прыйшло яшчэ са старажытнасці. Галоўным у гэтай рэлігіі было патрабаванне да падпарадкавання малодшага старэйшаму, чалавека ніжэйшага становішча — таму, хто стаяў у грамадстве вышэй. Канфуцыянства сцвярджала, што такі парадак у грамадстве — самы дасканалы. Тых, хто так не жыве, называлі варварамі. *(Чаму імператары асабліва падтрымлівалі канфуцыянства?)*

Будызм прыйшоў у Кітай з Індыі, але Буда тут лічыўся не настаўнікам або святым, а Богам. З'явілася мноства раскошных будыйскіх храмаў і вялікая колькасць свяшчэннаслужыцеляў.

Даасізм быў спрадвечнай кітайскай рэлігіяй. Ён захоўваў веру ва мноства духаў і багоў, у тым ліку грозных і магутных драконаў. Да іх кітайцы часта звярталіся за дапамогай у сваіх паўсядзённых справах. Даасізм увабраў многія старажытныя вераванні і абрады кітайцаў.



Лі Бо

Большасць кітайцаў малілася ў храмах усіх трох рэлігій.

**5. Культура Кітая: наперадзе Еўропы.** У Сярэднія вякі кітайскі народ стварыў вялікую культуру, якая пераўзыходзіла дасягненні культуры многіх краін свету.

Залатым векам кітайскай паэзіі называюць VIII ст. Тады выдатныя паэты ства-

рылі мноства вершаў, якія ўвайшлі ў скарбонку лепшых твораў усяго чалавецтва. ***Лі Бо*** і ***Ду Фу*** — найбольш вядомыя паэты таго часу.


6, с. 211

Лі Бо з юнацтва марыў аб тым, як дапамагчы людзям. Ён адмовіўся ад чыноўніцкай кар'еры, пакінуў дом і да сарака гадоў вандраваў па краіне. Лі Бо стварыў такія выдатныя вершы, што, прачытаўшы іх, імператар выклікаў яго да сябе і прысвоіў паэту самае ганаровае званне. Яго сябар, паэт Ду Фу, пісаў пра няшчасці, якія прыносіць людзям вайна. Паэт глыбока спачуваў бедным людзям.

Сучаснікам вялікіх паэтаў быў вядомы мастак ***Ван Вэй***. Ён маляваў свае цудоўныя пейзажы на шаўковых скрутках. На яго карцінах куточкі прыроды Кітая выглядаюць быццам жывыя. Творы мастака адлюстравалі невыказную прыгажосць гор і раўнін, лясоў і рэк краіны.


6, с. 209

У Сярэднія вякі кітайцы зрабілі мноства вынаходніцтваў і адкрыццяў. У Сярэднявякоўі яны сталі выкарыстоўваць



Ван Вэй. *Пейзаж*

у мараплаванні компас. Кітайскія караблі былі самымі вялікімі па грузапад'ёмнасці ў свеце.

Першымі ў свеце кітайцы навучыліся друкаваць кнігі. Ужо ў IX ст. кітайскія майстры выразалі на драўляных дошках тэксты цэлых старонак. Затым дошкі намазвалі фарбай і прыціскалі да іх лісты паперы. **У XI ст.** быў вынайдзены разборны шрыфт, што зрабіла друкарскую справу больш прадукцыйнай.


Слоўнік

? **1.** Назавіце традыцыйныя заняткі насельніцтва Кітая. **2.** Складзіце схему «Грамадства сярэдневяковага Кітая». **3.** Якія бедствы прынеслі Кітаю заваёўнікі-манголы? Калі і як яны былі выгнаны з краіны? **4.** Што вы лічыце важнейшым дасягненнем кітайскай культуры? Чаму? **5.** Дапоўніце слоўнік паняццямі: *канфуцыянства, даасізм, будызм.* **6.** Ці можна сцвярджаць, што кітайская цывілізацыя ў V—XIII стст. апярэджвала ў сваім развіцці заходнееўрапейскую цывілізацыю? (Пры адказе выкарыстайце матэрыял табліцы.) **7.** Якую ролю ў кітайскім грамадстве ігралі чыноўнікі?

**Табліца «Вынаходніцтвы ў Кітаі і Еўропе»**

| Вынаходніцтвы і адкрыцці | Стагоддзі, гады | |
|---|---|---|
| | Кітай | Еўропа |
| Шоўк | 2-е тыс. да н.э. | VI ст. |
| Арбалет | IV ст. да н. э. | XII ст. |
| Чыгун | Каля 500 г. да н. э. | XIV ст. |
| Папера | Каля 100 г. да н. э. | XI ст. |
| Фарфор | IV ст. | XVI ст. |
| Разборны шрыфт | 1041 г. | 1445 г. |

## § 28. Японская цывілізацыя

?! Што азначаюць паняцці: *феадалізм, сеньёр, рыцар, васал?*

Гэта краіна — адна з нямногіх, якую ў Сярэдневякоўі нікому не ўдавалася заваяваць. Ці толькі таму, што яна размяшчалася на астравах?

**1. Краіна ўзыходзячага сонца.** Японія — краіна на Далёкім Усходзе, якая складаецца з 4 буйных і больш за 4 тысячы дробных астравоў, у асноўным гарыстых. Здаўна жыхары Японіі выкарыстоўвалі кожны кавалачак зямлі, прыгодны для земляробства. Рыс — галоўная культура, якую вырошчвалі японскія земляробы. Догляд за рысам патрабаваў выключнай працавітасці.

У Японіі нярэдка здараліся землетрасенні, налятаlі *тайфуны* — моцныя вятры. Цяпер Японія — мнагалюдная краіна, а ў старажытнасці і Сярэдневякоўі яе насельніцтва было нешматлікім.

Каля сярэдзіны 1-га тысячагоддзя ўзнікла японская дзяржава. Яна ў хуткім часе стала называцца «Ніпон», што азначае ***Краіна ўзыходзячага сонца***. Японцы і цяпер так называюць сваю краіну.

На чале дзяржавы стаў імператар. Для ўмацавання імператарскай улады кіраўніцтва дзяржавай у Раннім



Японскі імператар. *Малюнак XIV ст.*

*Па рэлігійным вераванням японцаў, імператары з'яўляюцца нашчадкамі багіні Сонца.*

сярэдневякоўі было перабудавана па ўзоры суседняга Кітая. Кожны селянін атрымліваў зямлю ад імператара і за гэта плаціў яму падаткі. Чыноўнікі атрымлівалі за службу свае вялікія надзелы, але іх апрацоўвалі сяляне.

Да X ст. такі парадак уладання зямлёй змяніўся. Знаць, буйныя чыноўнікі сталі самі перадаваць свае надзелы ў спадчыну. Гэтыя землі былі пераведзены ў іх уласнасць. Сяляне з гэтага часу працавалі толькі на іх, выконвалі паншчыну і аброк, а падаткі дзяржаве не плацілі. Уласнікі зямель самі чынілі суд і расправу над залежнымі ад іх сялянамі. Так у Японіі сфарміравалася пазямельная і асабістая залежнасць сялян.

Уласнікі невялікіх уладанняў часта падвяргаліся нападзенням моцных суседзяў. Каб зберагчы свае ўладанні, яны пераходзілі пад абарону буйных уласнікаў і станавіліся іх васаламі. Так складваліся адносіны сеньёр — васал. Японія ў Высокім сярэдневякоўі стала адзінай нееўрапейскай краінай, дзе сфарміраваліся феадальныя адносіны.

**2. Самураі: воіны Японіі.** Умацаванне буйных феадалаў прывяло да аслаблення імператарскай улады ў Японіі і да доўгіх феадальных міжусобіц.

Буйныя феадалы мелі свае войскі. Спачатку гэта былі дружыны. Набіралі дружыннікаў пераважна з заможных сялян. Дружыннікаў з цягам часу сталі называць ***самураямі*** («тымі, хто служыць гаспадару»).



Самураі

*Самураі выдатна валодалі мячом, на кані, што скача, трапна стралялі з лука.*

Пазней буйныя феадалы пачалі раздаваць ім за службу зямельныя надзелы з сялянамі. Так самураі з дружыннікаў станавіліся васаламі сваіх гаспадароў. З гэтага часу яны забяспечваліся не толькі часткай здабычы і прадуктамі ад гаспадара, але і працай залежных сялян на атрыманых надзелах.

Самураяў у сярэдневяковай Японіі было каля 10 % усіх жыхароў. У Англіі і Францыі рыцараў было толькі 1—2 % усяго насельніцтва. Паводле знешняга выгляду самураі таксама нагадвалі рыцараў. Але іх узбраенне адрознівалася. Звычайна самурай быў узброены двума мячамі: вялікім (якім вялі бой дзвюма рукамі ) і малым (падобным на кінжал).

У Японіі самураі складалі асобы слой насельніцтва. Галоўным іх абавязкам стала ваенная справа. Толькі самураі маглі насіць зброю.

Гонар у самураяў цаніўся даражэй за жыццё. Ганьбай лічылася бегчы з поля бою, здацца ў палон або не адпомсціць таму, хто пакрыўдзіў яго гаспадара. Калі гэта адбывалася, то самурай праводзіў абрад самазабойства — харакіры. Харакіры па-японску азначае «рэзаць жывот». Жывот, па ўяўленнях японцаў, быў тым месцам, дзе змяшчалася душа чалавека.

У самураяў былі свае правілы паводзін: кожны самурай павінен быў свята захоўваць вернасць свайму гаспадару, быць храбрым, адважным, а таксама ўмела валодаць воінскім майстэрствам.

Самураі лічылі працу недастойным заняткам. Яны з пагардай ставіліся да рамеснікаў, купцоў, сялян, якія складалі большасць насельніцтва Японіі.

**3. Барацьба з мангольскім нашэсцем.** У другой палавіне XIII ст. на Японію напалі манголы. Іх вялікая армія дабралася да паўднёвых японскіх астравоў на караблях, захопленых у кітайцаў і карэйцаў. Самураі самаахвярна змагаліся супраць манголаў. Яны не мелі права адступіць і зняважыць сябе. Сустрэўшы моцнае супраціўленне, манголы павінны былі вярнуцца назад.



Сінтаісцкі храм. Нара. *VIII ст.*
*Знакаміты сваімі трыма тысячамі ахвяраваных ліхтарыкаў.*



Вароты ў храм — торыі
*Торыі азначаюць «месца, дзе сядзяць пеўні», чыім крыкам выманьвалі з пячоры багіню Сонца.*

Праз некалькі гадоў мангольскі флот зноў з'явіўся каля берагоў Японіі. Сілы былі няроўныя — манголаў было значна больш. Але ў апошні момант амаль увесь флот манголаў знішчыў тайфун. Японцы вырашылі, што ім дапамаглі багі, і з тых пор ушаноўваюць *камікадзэ* — «божы вецер». Так японцы адстаялі сваю незалежнасць у барацьбе з манголамі. Японія была адной з нямногіх краін Сярэдневякоўя, якую нікому не ўдалося заваяваць.

6, с. 214

**4. Рэлігія і культура.** Яшчэ са старажытнейшых часоў японцы мелі сваю своеасаблівую рэлігію — ***сінтаізм*** (*сінта* — па-японску азначае «шлях багоў»). Веруючыя гэтай рэлігіі лічаць, што свайго духа або бога мае ўсё на свеце: горы, расліны, з'явы прыроды, кожная рэч. Галоўным

богам сінтаізму лічылася багіня Сонца, ад яе вядзе сваё паходжанне імператарскі род. Яе выява ў выглядзе чырвонага дыска Сонца ёсць і на сучасным сцягу Японіі.

Японцы з глыбокай павагай адносіліся да бога самай высокай гары краіны — Фудзіямы. Яны таксама ўшаноўвалі іншых багоў — камі. Японцы лічылі, што яны не падобны да людзей і ўбачыць такіх багоў немагчыма. Таму ў сінтаісцкіх храмах няма выяў багоў. На стужках тканіны або паперы напісаны імёны тых багоў, якім прысвячаецца храм.

У Раннім сярэдневякоўі ў Японіі з'явіўся будызм. З тых пор японцы з'яўляюцца прыхільнікамі адразу дзвюх рэлігій. Са з'яўленнем будызму ў Японіі стала будавацца шмат прыгожых храмаў. Японскія скульптары стварылі мноства выяў Буды. Некаторыя са статуй дасягалі вышынёй больш чым 20 метраў.

Вялікі ўплыў на японскую культуру зрабіла культура Кітая. Японскія пісьменнікі спачатку выкарыстоўвалі кітайскую мову і пісьменнасць. Потым была створана японская іерагліфічная пісьменнаць. Даво-



Асенні пейзаж.
*Малюнак XV ст.*

*Як вы думаеце, чаму японскія мастакі стваралі такія прыгожыя карціны прыроды? Ці звязана гэта з іх рэлігійнымі вераваннямі?*

лі рана ў Японіі з'явілася кнігадрукаванне. Яно было запазычана з Кітая і Карэі.

У VIII ст. быў напісаны зборнік вершаў японскіх паэтаў *«Мірыяды пялёсткаў»*. У яго ўвайшлі чатыры з палавінай тысячы вершаў, у якіх апісана прыгажосць прыроды Японіі.

У Сярэднія вякі японскі народ стварыў высокую для таго часу культуру.

? **1.** Адзначце на лініі часу ў сшытку падзеі, звязаныя з гісторыяй Японіі. **2.** Знайдзіце ў тэксце пацвярджэнне таго, што ў Японіі сфарміраваліся феадальныя адносіны. **3.** Растлумачце, чым сінтаісцкія храмы адрозніваюцца ад будыйскіх. Якое бажаство ўшаноўваецца як галоўнае ў сінтаізме? **4.** Дакажыце 3—4 фактамі, што Кітай аказаў уплыў на развіццё Японіі. **5.** Складзіце план паведамлення «Дасягненні сярэдневяковай японскай культуры». **6.** Дапоўніце гістарычны слоўнік паняццямі: *самураі, сінтаізм.* **7.** Складзіце красворд «Кітай і Японія ў Сярэднія вякі».


Слоўнік

## § 29. Індыйская цывілізацыя

?! **1.** Якія рэлігіі ўзніклі ў Старажытнай Індыі? **2.** Што азначаюць паняцці: *варны, будызм, іслам*?

Індыю лічылі краінай казачных багаццяў. Праз купцоў іншых краін Усходу ў Еўропу траплялі індыйскія тавары і вострыя прыправы. За іх плацілі вялікія грошы. Менавіта да Індыі накіраваліся за невядомыя моры іспанцы і партугальцы. Што ж сабой уяўляла гэта далёкая загадкавая краіна?

**1. Гаспадарчае жыццё Індыі.** У пачатку нашай эры ў Індыі жыло шмат народаў і плямён. У стэпах пражывалі плямёны ваяўнічых качэўнікаў А ў непраходных джунглях і высокіх горах жылі людзі, якія займаліся паляваннем і збіральніцтвам. На высокім узроўні развіцця знаходзілася насельніцтва старажытных раёнаў земляробства — далін вялікіх рэк Інда і Ганга, прыморскіх тэрыторый. Менавіта тут утварылася мацнейшая дзяржава Індыі.

Выкарыстоўваючы штучнае арашэнне, індыйскія сяляне ў пачатку Сярэдневякоўя дабіваліся высокіх ураджаяў рысу, пшаніцы, ячменю, проса. На ўсходзе краіны збіралі па два-тры ўраджаі ў год. Вырошчвалі цукровы трыснёг, бавоўну, кавуны, дыні, апельсіны і культуры, з якіх атрымлівалі вострыя прыправы. А вострыя прыправы каштавалі вельмі дорага.




Напрамкі заваявальных паходаў мусульман у XI–XII стст.
Тэрыторыя Дэлійскага султаната
у пачатку XIII ст. у пачатку XIV ст.
у канцы XIV – пачатку XV ст.

Індыя

У Сярэдневякоўі ў Індыі ўзнікла шмат новых гарадоў. Самым вялікім горадам стаў ***Дэлі***. Асноўным заняткам большасці гараджан было рамяство і гандаль. Індыйскія рамеснікі дасягнулі вялікіх поспехаў у апрацоўцы жалеза. У Паўднёвай Індыі навучыліся рабіць стальную зброю. Адсюль сакрэт яе вытворчасці трапіў на Бліжні Усход да арабаў, а потым стаў вядомым еўрапейцам як *дамаская сталь*.

Індыйцы навучыліся ствараць і выкарыстоўваць прыгожыя і трывалыя фарбы, якіх не ведалі ў іншых краінах. Многія рамесныя вырабы, асабліва тканіны і ювелірныя ўпрыгажэнні, вывозілі з краіны. Вельмі дорага каштавалі ў Еўропе індыйскія вострыя прыправы і духмяныя рэчывы.

У іншых краінах свету Індыю лічылі краінай казачных багаццяў.

У партовых гарадах Індыі можна было сустрэць шмат замежных купцоў, галоўным чынам арабскіх. Пасля адкрыцця партугальцамі ў самым канцы XV ст. марскога шляху ў Індыю там з'явіліся і еўрапейскія купцы. Але калі яны прапанавалі свае тавары індыйскім правіцелям, тыя палічылі гэта за знявагу — настолькі прайгравалі яны ў параўнанні з індыйскімі вырабамі.

**2. Каставы лад і рэлігія.** На працягу Сярэдневякоўя будызм паступова страціў сваю папулярнасць у Індыі. У Раннім сярэдневякоўі самай распаўсюджанай рэлігіяй стаў ***індуізм***. У ім галоўнымі з багоў з'яўляюцца ***Брахма, Вішну*** і ***Шыва***.

Для іх ушанавання індуісты пабудавалі храмы, якія і сёння здзіўляюць сваімі вялікімі памерамі і мноствам скульптурных выяў багоў.

Індуізм асвячаў дзяленне людзей на ***касты***. Раздзяленне насельніцтва на касты стала асаблівасцю грамадства сярэдневяковай Індыі. Касты склаліся на аснове старажытных *варн* — чатырох асноўных саслоўяў у Старажытнай Індыі. Паступова варны (асабліва ніжэйшыя) раздзяліліся на меншыя групы людзей у залежнасці ад іх роду заняткаў, прафесіі. Такія групы сталі называць *кастамі*. Калі ў Старажытнасці грамадства дзялілася на чатыры варны, то каст у Сярэднія вякі ў Індыі стала ўжо некалькі тысяч.

У людзей кожнай касты існавалі свае правы і абавязкі. Калі рамеснік належаў, напрыклад, да касты ткачоў, то ён павінен быў займацца вырабам тканін і нічым больш. Брахманы і воіны не апрацоўвалі самі свае землі, гэта павінны былі рабіць людзі з ніжэйшых каст. І ўсе ў індыйскім грамадстве былі перакананы, што так і павінна быць. Пераходы з адной касты ў другую забараняліся, як і шлюбы людзей з розных каст.

Уварванне Цімура ў Індыю. *Мініяцюра XVI ст.*

*Вызначыце па рысунку, якіх жывёл выкарыстоўвалі індыйцы ў баі.*



**3. Дэлійскі султанат: мусульмане ў Індыі.** З канца X ст. на Паўночную Індыю пачалі нападаць правіцелі мусульманскіх дзяржаў, якія ўзніклі на тэрыторыі Сярэдняй Азіі і Ірана.

Яны бязлітасна адносіліся да індыйцаў, разбуралі і рабавалі іх гарады, паселішчы і храмы. Паступова заваёўнікі-мусульмане падпарадкавалі сабе ўсю Паўночную Індыю. У **1206 г.** яны стварылі тут дзяржаву на чале з правіцелем горада Дэлі, якога аб'явілі *султанам*. Так узнік ***Дэлійскі султанат.*** Пануючай рэлігіяй у Дэлійскім султанаце стаў іслам. Кіруючая роля ў дзяржаве належала нешматлікім мусульманскім вярхам. Мясцовае насельніцтва, якое не прымала веры заваёўнікаў, мусульмане называлі *індусамі*. Большая частка індыйцаў засталася прыхільнікамі індуізму.

Дэлійскія султаны мелі вялікае коннае войска, якое выкарыстоўвалі для заваявальных паходаў і падтрымання сваёй улады. У канцы XIII — пачатку XIV ст. ім удалося падпарадкаваць сабе амаль усю Індыю. Але ў хуткім часе многія тэрыторыі выйшлі з-пад улады султанаў Дэлі, спачатку на поўдні, затым на ўсходзе. А затым над дзяржавай навісла страшная пагроза.

У канцы XIV ст. у Дэлійскі султанат уварваўся Цімур. Ён разрабаваў яго, але не скарыў усю Індыю.

**4. Навука і культура: чые ў нас лічбы?** Традыцыі індыйскай навукі працягвалі развівацца і ў Сярэдневякоўі.

Вялікую ролю для развіцця сусветнай матэматыкі адыграла вынаходніцтва індыйцамі лічбаў, якімі мы карыстаемся і цяпер. Але паколькі яны трапілі ў Еўропу праз арабаў, еўрапейцы назвалі іх не індыйскімі, а арабскімі. Асобае значэнне для матэматыкі мела ўвядзенне паняцця «нуль».

Індыйскія хірургі былі ў той час самымі ўмелымі ў свеце і рабілі складаныя аперацыі нават на чэрапе. У час аперацый яны выкарыстоўвалі больш за 200 інструментаў, маглі нават прымяняць абязбольванне.

Стварэнне Дэлійскага султаната прывяло да распаўсюджання ў Індыі ісламу. З гэтага часу ў індыйскай культуры было дзве плыні — індуская і мусульманская.

Мусульманскі ўплыў ярка праявіўся ў архітэктуры. З'явіліся новыя формы будынкаў, перш за ўсё мячэці, мі-



▲ Гапурам.
*Індуісцкі храм. X ст.*

*Параўнайце выяву індуісцкага храма з выявай Кутб-Мінара. Вызначыце адрозненні індуісцкай і мусульманскай архітэктуры.*



▲ Мінарэт Кутб-Мінар

*Знайдзіце адрозненні гэтага храма ад храмаў сярэдневяковай Еўропы.*

нарэты. Яны адрозніваліся ад груваcткіх індуісцкіх храмаў лёгкасцю сваіх форм.

Шэдэўр архітэктуры Кутб-Мінар быў пабудаваны ў XIII ст. у Дэлі. Вышыня яго больш за 70 метраў. Гэтае збудаванне паступова звужана кверху. Яно круглае з бакоў, але гэта акружнасць складаецца з 24 кантаў-выступаў, упрыгожаных арнаментам.

Культура сярэдневяковай Індыі была шматнацыянальнай. Яна ўвабрала ў сябе дасягненні многіх народаў як Індыі, так і суседніх краін. У той жа час яна многае ўнесла ў развіццё культуры ўсяго чалавецтва.


§ 29

? **1.** Складзіце план паведамлення «Асноўныя заняткі насельніцтва Індыі ў Сярэдневякоўі». **2.** Чым адрознівалася сярэдневяковае індыйскае грамадства ад еўрапейскага? Ці можна назваць індыйскае грамадства ў Сярэднія вякі феадальным? **3.** Дайце характарыстыку Дэлійскага султаната паводле плана: час утварэння, тэрыторыя, тытул правіцеля, рэлігія, становішча насельніцтва. **4.** Абазначце на лініі часу ў сшытку асноўныя падзеі з гісторыі сярэдневяковай Індыі. **5.** Якія з дасягненняў індыйскай навукі былі ўспрыняты іншымі народамі? **6.** Дапоўніце слоўнік паняццямі: *касты, індуізм.*


Слоўнік

## § 30. Цывілізацыі Трапічнай Афрыкі і Амерыкі

?! **1.** Якія дзяржавы існавалі на поўначы Афрыкі ў старажытнасці? **2.** Хто такія альмекі?

Аб гэтых краінах у Сярэднія вякі амаль нічога не ведалі на іншых кантынентах. Іх развіццё ішло сваімі шляхамі. Што ж далі гэтыя краіны і народы, якія іх насялялі, усяму чалавецтву?

**1. Асноўныя цывілізацыі Трапічнай Афрыкі.** Частку афрыканскага кантынента, якая знаходзіцца на поўдзень ад вялікай пустыні Сахары, называюць Трапічнай Афрыкай. Развіццё народаў тут ішло неаднолькава. У Раннім



Статуэткі багіні ўрадлівасці. Гана

*Як вы думаеце, якіх рэлігійных вераванняў прытрымліваліся людзі, якія пакланяліся гэтай багіні?*

сярэдневякоўі цывілізацыі склаліся толькі ў асобных рэгіёнах. Гэта былі тэрыторыі па цячэнні ракі Нігер, зямлі сучаснай Эфіопіі. Паміж імі прасціраліся неабсяжныя прасторы джунгляў, стэпаў, пустынь, дзе людзі жылі яшчэ ва ўмовах першабытнага ладу.

Большасць насельніцтва Трапічнай Афрыкі займалася земляробствам. Вырошчвалі збожжавыя культуры, бабы, цукровы трыснёг, бавоўну, фрукты.

Афрыканскія рамеснікі навучыліся выплаўляць жалеза, здабывалі і ўмела апрацоўвалі медзь, бронзу, золата, выраблялі зброю, тканіны, посуд, шкляныя і скураныя рэчы. Мастакі і скульптары стваралі з абпаленай гліны і бронзы выдатныя статуэткі людзей, маскі для рэлігійных абрадаў.

Афрыканцы, якія жылі ўздоўж цячэння ракі Нігер, гандлявалі з арабамі Паўночнай Афрыкі. Галоўным таварам, які прывозілі арабы, была каменная соль. Яе абменьвалі на золата, і звычайна яна цанілася даражэй гэтага высакароднага металу. Караваны арабскіх купцоў пераадольвалі цяжкі шлях праз пустыню Сахара, далей тавары перавозілі на лодках па Нігеру.

6, с. 221, 225

Буйнейшымі дзяржавамі ў басейне ракі Нігер былі ***Гана*** і ***Малі***. Яны ўзніклі ў VIII ст. Да канца XI ст. кантроль за гандлем з арабамі Паўночнай Афрыкі належаў Гане. Але потым правіцелі Малі падпарадкавалі сабе Гану. Рэлігіяй гэтых дзяржаў стаў іслам. Арабы называлі абедзве гэтыя краіны «краінай золата».

Да канца Сярэдневякоўя ўзвысілася дзяржава ***Сангай***. У XIV ст. сангаі плацілі даніну Малі. Але ў XV ст. іх правіцель ***Алі Бер Вялікі*** правёў мноства ваенных паходаў супраць суседзяў. І Сангайская дзяржава стала мацнейшай.



Царква ў Лалібеле. Эфіопія. *XIII ст.*
*Каму маліліся людзі ў гэтым храме?*

На паўднёвы ўсход ад яе набірала сілу дзяржава ***Конга***. Уладанні яе правіцеляў прасціраліся далёка за даліну аднайменнай ракі.

Існавала ў сярэдневяковай Афрыцы і хрысціянская краіна — ***Эфіопія***. Яшчэ ў старажытнасці на яе тэрыторыі склалася дзяржава. Яе правіцель у IV ст. прыняў хрысціянства. Войны з арабамі аслабілі краіну, і ў X ст. яна распалася. Праз два стагоддзі эфіопская хрысціянская дзяржава адрадзілася.

Але большасць насельніцтва Афрыкі верыла ў мноства багоў, якія ўяўлялі сабой сілы прыроды, сонца, месяц. Багамі лічылі і продкаў правіцеляў.

У афрыканскіх цывілізацыях не сфарміраваліся феадальныя адносіны. Сяляне жылі абшчынамі з іх натуральнай гаспадаркай. Правіцелі дзяржаў мелі арміі з рабоў і наёмнікаў. Іх магутнасць і багацці забяспечваліся кантролем над здабычай золата і знешнім гандлем, зборам даніны з насельніцтва.

**2. Амерыканскія цывілізацыі.** Буйнейшыя цывілізаыі Амерыкі ў Сярэдневякоўі былі створаны ў Цэнтральнай

Амерыцы і на паўночным захадзе Паўднёваамерыканскага кантынента.

Найбольш развітыя амерыканскія цывілізацыі Ранняга і Высокага сярэдневякоўя ўзніклі ў Цэнтральнай Амерыцы. Гэта была адна са старажытнейшых зон земляробства, якое з'яўлялася галоўным заняткам мясцовага насельніцтва. Тут стварылі свае цывілізацыі ***мая***, *тальтэкі*, *сапатэкі*. Самай развітай з іх была цывілізацыя мая.



Бог кукурузы мая

*Як вы думаеце, ці маглі ўшаноўваць такога бога ў Сярэдневякоўі ў Еўропе ці Азіі?*

Ранняе сярэдневякоўе было часам росквіту цывілізацыі мая. У непраходных джунглях яны расчышчалі землі для пасеваў, будавалі гарады. Галоўнай культурай мая была кукуруза, вырошчвалі таксама фасолю, памідоры, востры перац, бавоўну, какаву, фрукты. Зямлю апрацоўвалі ўручную, паколькі цяглавых жывёл не было.



Рукапіс мая

Мая стварылі мноства гарадоўдзяржаў. У гарадах жылі правіцелі і жрацы, чыноўнікі, а таксама рамеснікі і купцы. Астатняе насельніцтва жыло ў вёсках каля сваіх палёў і ў горадзе з'яўлялася часцей за ўсё падчас важных рэлігійных свят. Правіцелямі дзяржавы былі толькі людзі са знатных

родаў. Калі ў час войнаў правячы род гінуў, то дзяржава пераставала існаваць, а горад пусцеў.

Важную ролю ў жыцці мая адыгрывалі жрацы. Яны вялі назіранні за небам, ведалі размяшчэнне планет і зорак, маглі прадказаць сонечныя зацьменні. Складаныя для земляробства прыродныя ўмовы патрабавалі дакладнага календара.


6, с. 232

У календары мая было 365 дзён. 18 месяцаў уключалі ў сябе па 20 дзён, а дабавачныя пяць дзён лічыліся нешчаслівымі. Таму ў гэтыя апошнія дні кожнага года жрацы прыносілі ахвяры, каб задобрыць шматлікіх багоў.

Мая ўзводзілі вялікія ступеньчатыя піраміды, на вяршынях якіх знаходзіліся храмы багам. Ужо ў пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. мая вынайшлі сваю іерагліфічную пісьменнасць.

✓ Кнігі мая былі напісаны на паперы, выраблёнай з кары фікуса. Вучоным удалося расшыфраваць іх пісьменнасць. Гэта дазволіла даведацца нашмат больш аб жыцці гэтага народа.

На захад ад мая яшчэ ў старажытнасці стварылі сваю цывілізацыю сапатэкі. Свайго росквіту яна дасягнула ў Раннім сярэдневякоўі. Так



Піраміда-храм мая ў Тыкалі. *XII ст.*

*У якіх старажытных цывілізацыях таксама ствараліся збудаванні ў выглядзе пірамід. У чым іх адрозненні ад пірамід мая?*



Горад інкаў Мачу Пікчу

*Мачу Пікчу азначае «старая вяршыня». Як вы думаеце, чаму гэты горад называюць яшчэ і «горадам сярод аблокаў»?*

як і мая, сапатэкі стварылі сваю іерагліфічную пісьменнасць. Яна захавалася на каменных манументах, але вучоным пакуль не ўдалося яе расшыфраваць.

На тэрыторыі сучаснай Мексікі стварылі цывілізацыю ***ацтэкі***. Яны заваявалі шмат суседніх народаў, якія плацілі ім дань. У ацтэкаў было шмат рабоў. Існавалі рынкі, дзе прадавалі і куплялі рабоў.

Сталіца ацтэкаў размяшчалася на высокім востраве пасярод возера. Да горада вялі тры насыпныя, умацаваныя дарогі. У ім былі прамыя вуліцы і каналы, па якіх плавалі лодкі. У цэнтры знаходзіліся галоўныя храмы, дамы жрацоў, школы. Побач стаялі раскошныя палацы правіцеляў ацтэкаў. Горад патанаў у садах, у ім дзейнічала некалькі базараў. Жыло ў ім і шмат рамеснікаў, і гандляроў.

Ацтэкі верылі ў багоў, якія ўвасаблялі сабой сілы прыроды. Яны лічылі, што багоў трэба пастаянна карміць чалавечай крывёю, інакш яны памруць. І ўвесь свет загіне. Таму ацтэкі прыносілі ў ахвяру палонных.

Уздоўж узбярэжжа Ціхага акіяна ў Паўднёвай Амерыцы існавала вялікая дзяржава ***інкаў***. На працягу XV ст. інкі, якія жылі на тэрыторыі сучаснага Перу, падпарадкавалі сабе многія суседнія народы.

На чале дзяржавы стаяў вярхоўны Інка. Ён лічыўся сынам Сонца — аднаго з галоўных багоў. Заваёўнікі-інкі былі толькі воінамі і чыноўнікамі. Падначаленае насельніцтва плаціла даніну і выконвала работы, у асноўным будаўнічыя.



Руіны храма Сонца інкаў

*Чаму інкі прысвячалі самыя велічныя храмы Сонцу?*



7, с. 250

Амерыканскія сярэдневяковыя цывілізацыі існавалі ў ізаляцыі ад цывілізацый іншых частак свету. Яны развіваліся самастойна. Феадальныя адносіны ў іх не склаліся. Жыхары Амерыкі не ведалі выплаўкі жалеза, колавых павозак, плуга, ганчарнага круга. У той жа час яны вырошчвалі многія культуры, якія не ведалі ў Еўропе: кукурузу, бульбу, памідоры, какаву і інш.

? **1.** Як развіваліся дзяржавы ў розных частках афрыканскага кантынента ў Сярэдневякоўі? **2.** Якія рэлігіі існавалі ў народаў Трапічнай Афрыкі ў Сярэднія вякі? **3.** Якія дасягненні амерыканскіх сярэдневяковых цывілізацый запазычылі іншыя народы? **4.** Вызначыце асаблівасці сярэдневяковых цывілізацый Амерыкі. **5.** Запоўніце табліцу.



§ 30

| | Мая | Ацтэкі | Інкі |
|---|---|---|---|
| Дасягненні | | | |

**6.** Дакажыце, што ў сярэдневяковых цывілізацыях Трапічнай Афрыкі і Амерыкі феадальныя адносіны не сфарміраваліся. **7.** Складзіце пытанні для віктарыны «Цывілізацыі Трапічнай Афрыкі і Амерыкі ў Сярэдневякоўі».

## Абагульненне да III раздзела
## Азія, Афрыка, Амерыка ў Сярэдневякоўі

У гэтым раздзеле вы пазнаёміліся з сярэдневяковымі цывілізацыямі Азіі, Афрыкі і Амерыкі. Відаць, вы звярнулі ўвагу на тое, што кожная з іх своеасаблівая і значна адрозніваецца ад еўрапейскіх.

У Еўропе ў Сярэднія вякі панавалі феадальныя адносіны. Падобныя адносіны існавалі толькі ў Японіі. Там таксама былі свае буйныя феадалы — князі, якія давалі землі сваім васалам — самураям. А тыя застаўлялі працаваць на сябе залежных сялян, збіралі з іх аброк, чынілі над імі суд.

У астатніх цывілізацыях Азіі, Афрыкі, Амерыкі адносіны ў грамадстве значна адрозніваліся ад еўрапейскага феадалізму. У некаторых з іх існавала дзяржаўная ўласнасць на зямлю. Адзіным і вярхоўным уласнікам усёй зямлі ў дзяржаве лічыўся манарх. Людзі атрымлівалі ад яго землі за выкананне пэўных абавязкаў: ваеннага, чыноўніцкага, а сяляне павінны былі аддаваць яму частку сабранага з надзелаў ураджаю. Уладальнікі вялікіх зямельных участкаў сваёй гаспадаркі не вялі. Яны збіралі з залежных ад іх сялян аброк.

Усе былі абавязаны пакорна выконваць волю манарха, які меў неабмежаваную ўладу. У гэтых цывілізацыях не склалася і саслоўна-прадстаўнічая манархія. Калі ў Еўропе жыццём і працай сялян кіравалі феадалы, то ў большасці азіяцкіх краін — дзяржаўныя чыноўнікі.

У цывілізацыях Азіі прыглушалася ініцыятыва чалавека. Там гарады не ведалі самакіравання. Усё рэгулявалася і кантралявалася дзяржаўнымі чыноўнікамі: праца сялян, рамеснікаў, гандляроў. У Азіі мануфактуры былі толькі дзяржаўнымі і выконвалі дзяржаўныя заказы. Вырабы ўсходніх рамеснікаў былі цудоўнымі, але дарагімі. Да канца

Сярэдневякоўя яны не маглі канкурыраваць з таннымі таварамі з Заходняй Еўропы.

Ні ў грамадстве, ні ў дзяржаўным ладзе цывілізацый Азіі ў Познім сярэдневякоўі не адбылося сур'ёзных змяненняў. Яны быццам застылі ў сваім развіцці.

Але ў Раннім і Высокім Сярэдневякоўі Еўропа значна ўступала ў сваім развіцці такім краінам Азіі, як Кітай, Індыя, Іран, Арабскі халіфат, Японія. Узровень земляробства, рамяства, гандлю, культуры быў у іх значна вышэйшы.

Успомніце, дзе былі зроблены найвялікшыя навуковыя адкрыцці і вынаходніцтвы. Кітайцы стварылі кнігадрукаванне, порах, першымі прымянілі компас у мараплаванні. Арабы вынайшлі агнястрэльную зброю, далі Еўропе арабскія лічбы. Тыя складаныя хірургічныя аперацыі, якія рабілі для выратавання чалавечых жыццяў індыйскія медыкі ў Раннім сярэдневякоўі, еўрапейцы змаглі паўтарыць толькі праз многія гады. А галоўным медыцынскім даведнікам для ўрачоў многіх краін свету доўгі час заставаўся «Канон» ураджэнца Бухары Ібн Сіны.

Аднак далейшаму развіццю цывілізацый Азіі перашкаджалі сур'ёзныя абставіны. Большасць дзяржаў пастаянна падвяргалася спусташальным набегам і заваяванням качэўнікаў. Разруха, адсталыя адносіны, якія яны прыносілі з сабой, тармазілі развіццё цывілізацый. Моцная, неабмежаваная дзяржаўная ўлада, абапіраючыся на шматлікіх чыноўнікаў, кантралявала ўсё, перашкаджала развіццю ініцыятывы людзей. І напрыканцы Сярэдневякоўя Заходняя Еўропа пачынае імкліва абганяць высокаразвітыя цывілізацыі Азіі. А самастойнае развіццё афрыканскіх і амерыканскіх цывілізацый хутка было спынена каланіяльнымі захопамі еўрапейцаў.

**1.** Дакажыце з дапамогай прыкладаў з тэксту абагульнення і папярэдніх параграфаў, што:

1) у Сярэднія вякі краіны і народы Азіі, Афрыкі і Амерыкі развіваліся нераўнамерна;

2) феадальныя адносіны ў Заходняй Еўропе і Японіі мелі падобныя рысы;

3) сярэдневяковыя Індыя, Кітай і Японія ўнеслі вялікі ўклад у сусветную цывілізацыю;

4) у Сярэдневякоўі іслам аказаў вялікі ўплыў на развіццё Азіі і Афрыкі;

5) цывілізацыі Амерыкі дасягнулі высокага ўзроўню развіцця.

**2.** Запоўніце параўнальную табліцу.

| **Дзяржавы** | **Арабскі халіфат** | **Індыя** | **Кітай** | **Японія** |
|---|---|---|---|---|
| У якіх частках свету размешчаны? | | | | |
| Рэлігіі | | | | |
| Дасягненні ў культуры | | | | |

Абмяркуйце вынікі выканання задання. Параўнайце і вызначыце агульныя рысы і адрозненні. Зрабіце вывады аб асаблівасцях развіцця гэтых краін у эпоху Сярэдневякоўя.

**3.** З дапамогай табліцы «Асноўныя падзеі гісторыі Сярэдніх вякоў» (с. 194—196) вызначыце, якія падзеі адбываліся ў IX, XIII, XV стагоддзях у розных рэгіёнах свету. Падумайце, чым выклікаць адрозненні ў гісторыі розных рэгіёнаў.

**4.** Складзіце каляндар самых значных падзей Сярэдневякоўя. Абгрунтуйце свой выбар.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ
## Сярэдневякоўе ў гісторыі чалавецтва

Вы закончылі вывучэнне гісторыі Сярэдніх вякоў. Вядома, вы дакрануліся толькі да маленькай часткі таго, што карпатліва вывучаюць гісторыкі. Гэта вельмі складаная, але цікавая навука. Вы і самі можаце стаць гісторыкамі. Але для гэтага патрэбны веды не толькі па адной гісторыі, але і па многіх іншых вучэбных дысцыплінах. Без іх немагчыма, напрыклад, рэстаўрыраваць старыя рэчы, вызначыць узрост многіх знаходак. Або перавесці ў сучаснае летазлічэнне даты, якія называюцца ў сярэдневяковых дакументах і кнігах. Але самае галоўнае і цікавае — гэта зразумець, што сярэдневяковыя людзі не такія, як мы. У іх былі іншыя інтарэсы, іншыя мэты ў жыцці, не такія, як у нас, нормы паводзін. І нам многае часта здаецца незразумелым у іх учынках. Але высветліць усё гэта і ёсць задача гісторыка. І калі вас гэта зацікавіла, то ўперад да далейшага пазнання гісторыі!

Сярэдневякоўе зусім не было перыядам заняпаду або застою, як лічылі гуманісты, якія самі выраслі з сярэдневяковага грамадства.

У Сярэднія вякі людзі асвоілі новыя вялікія тэрыторыі, засялілі іх. Але цывілізацыі існавалі не ўсюды. У многіх кутках Азіі, Афрыкі, Амерыкі, Аўстраліі людзі яшчэ жылі ва ўмовах першабытнага ладу. І многія цывілізацыі існавалі, быццам астравы, сярод тэрыторый, населеных першабытнымі плямёнамі. Сувязі паміж цывілізацыямі розных кантынентаў заставаліся слабымі, як і ў Старажытнасці, г. зн. развіццё цывілізацый было ачаговым. Іх гістарычныя лёсы не былі так цесна ўзаемазвязаны, як цяпер. Кожная з цывілізацый мела свае асаблівасці ў гаспадарчым развіцці, устройстве грамадства, дзяржаўным ладзе, у культуры, рэлігіі.

Але ўжо ў Раннім і Высокім сярэдневякоўі ў асноўным сфарміраваліся тэрыторыі сучасных краін. У IX ст. узнікла Старажытнаруская дзяржава — агульная радзіма продкаў цяперашніх беларусаў, рускіх, украінцаў. Многія сучасныя гарады былі заснаваны ў Сярэдневякоўі, напрыклад Мінск, Кіеў, Масква, Варшава, Мадрыд і г. д.

Было зроблена шмат важных адкрыццяў і вынаходніцтваў, якія сталі для нас звыклымі. Тады ўзніклі пісьменнасці ў многіх народаў, у тым ліку і славянскіх. У Заходняй Еўропе былі адкрыты першыя ўніверсітэты, а ў Англіі з'явіўся парламент.

Без друкаванай кнігі мы не ўяўляем сёння сваё жыццё. Але ж кнігадрукаванне распаўсюдзілася па свеце дзякуючы вынаходніцтву Іагана Гутэнберга. У Кітаі яго вынайшлі намнога раней, але было яно вядома толькі там і ў суседніх краінах. Еўрапейскае вынаходніцтва кнігадрукавання стала дасягненнем усяго чалавецтва. У скарбонку культуры ўсяго чалавецтва ўвайшлі вялікія творы дзеячаў Адраджэння.

Развіццё сярэдневяковых цывілізацый было нераўнамерным. У Раннім і Высокім сярэдневякоўі кітайская, індыйская цывілізацыі намнога пераўзыходзілі паводле ўзроўню свайго развіцця цывілізацыі Еўропы. Але ў Познім сярэдневякоўі Еўропа зрабіла імклівы рывок уперад і стала аб'яднальнікам лёсаў чалавецтва ў адзіны сусветнагістарычны працэс.

Кожная з сярэдневяковых цывілізацый унесла свой уклад у развіццё чалавецтва. У тым ліку і цывілізацыі Афрыкі і Амерыкі, доўгі час невядомыя ні людзям Еўропы, ні Азіі. Менавіта адтуль з'явіліся такія прадукты, як бульба, таматы, кукуруза, шакалад. Там, на другім краі Зямлі, існавалі збудаванні, падобныя на адно з сямі цудаў свету. Не меншае здзіўленне еўрапейцаў выклікалі і грандыёзныя каменныя збудаванні на поўдні Афрыкі — на тэрыторыі сучаснай дзяржавы Зімбабвэ. У Еўропе доўга хадзілі легенды аб

тым, што іх пабудавалі нейкія таямнічыя прышэльцы. Але гісторыкі даказалі, што гэтыя збудаванні — справа розуму і працы мясцовага афрыканскага насельніцтва.

У Высокім сярэдневякоўі Усход усё яшчэ заставаўся для жыхароў Заходняй Еўропы краем казачных багаццяў. Аднак тэмпы развіцця заходнееўрапейскай цывілізацыі паскорыліся. У Познім сярэдневякоўі яна імкліва выходзіць наперад.

Два стагоддзі Позняга сярэдневякоўя падрыхтавалі фундамент да пераходу чалавецтва да якасна новай эпохі ў яго гісторыі. Гэтую эпоху так і назвалі — Новай гісторыяй. Галоўнай яе характарыстыкай з'явілася тое, што развіццё чалавецтва перастала быць гісторыяй толькі асобных цывілізацый свету. Яно станавілася адзіным працэсам, дзе лёсы розных цывілізацый былі ўзаемазвязанымі. Змяненні ва ўсіх сферах жыцця чалавека, грамадства сталі адбывацца намнога хутчэй, чым у эпохі Старажытнасці і Сярэдневякоўя. Аб гэтым вы даведаецеся ў наступным класе, дзе будзеце вывучаць займальную і насычаную падзеямі эпоху Новай гісторыі.

# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ ГІСТОРЫІ СЯРЭДНІХ ВЯКОЎ

| Стагоддзе | Заходняя Еўропа і Візантыя | Славянскія краіны | Цывілізацыі Азіі, Афрыкі і Амерыкі |
|---|---|---|---|
| V | **476 г.** Падзенне Заходняй Рымскай імперыі. **Канец V ст.** Узнікненне Франкскай дзяржавы. | | |
| VI | **Сярэдзіна VI ст.** Росквіт Візантыі пры імператары Юстыніяне. | **VI ст.** Засяленне славянамі Балканскага паўвострава. | |
| VII | | **681 г.** Утварэнне Першага Балгарскага царства. | **VII в.** Утварэнне Арабскага халіфата. |
| VIII | **800 г.** Абвяшчэнне Карла Вялікага імператарам. | | **VIII ст.** Утварэнне дзяржаў Гана, Малі. **VIII ст.** Залаты век кітайскай паэзіі. |
| IX | **843 г.** Распад Франкскай імперыі. | **863 г.** Пачатак дзейнасці Кірылы і Мяфодзія ў Вялікай Маравіі. **882 г.** Утварэнне Старажытнарускай дзяржавы. | **IX ст.** Росквіт Арабскага халіфата. **Канец IX ст.** Распад Арабскага халіфата. |
| X | **962 г.** Стварэнне Свяшчэннай Рымскай імперыі. | **X ст.** Утварэнне Чэшскай і Польскай дзяржаў. **988 г.** Прыняцце хрысціянства на Русі. | |

| Стагоддзе | Заходняя Еўропа і Візантыя | Славянскія краіны | Цывілізацыі Азіі, Афрыкі і Амерыкі |
|---|---|---|---|
| XI | **1054 г.** Раздзяленне хрысціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную. **1096—1099 гг.** Першы крыжовы паход. | **1018 г.** Падзенне Першага Балгарскага царства. | **XI ст.** Вынаходніцтва разборнага шрыфту для кнігадрукавання ў Кітаі. |
| XII | **Пачатак XII ст.** Узнікненне першых універсітэтаў у Еўропе. | **Каля 1113 г.** Складанне старажытнарускага летапісу «Аповесць мінулых гадоў». **Канец XII ст.** Узнікненне Другога Балгарскага царства. Стварэнне адзінай сербскай дзяржавы. | **Канец XII ст.** Узвышэнне Харэзма ў Сярэдняй Азіі. Утварэнне новых дзяржаў мая. |
| XIII | **1204 г.** Захоп крыжаносцамі Канстанцінопаля. **1261 г.** Аднаўленне Візантыйскай імперыі. **1265 г.** Узнікненне англійскага парламента. | **1237—1241 гг.** Паходы Батыя на Русь. **1242 г.** Разгром Аляксандрам Неўскім рыцараў Тэўтонскага ордэна на лёдзе Чудскага возера. | **1206 г.** Утварэнне Дэлійскага султаната. **Першая палавіна XIII ст.** Мангольскія паходы ў Кітай, Сярэднюю Азію, Закаўказзе і Еўропу. **Другая палавіна XIII ст.** Завяршэнне заваявання Кітая манголамі. |
| XIV | **1302 г.** Узнікненне Генеральных штатаў у Францыі. | **Першая палавіна XIV ст.** Праўленне Івана Каліты. Умацаванне Маскоўскага княства. | **Сярэдзіна XIV ст.** Пачатак заваявання туркамі-асманамі Балканскага паўвострава. |

| Стагоддзе | Заходняя Еўропа і Візантыя | Славянскія краіны | Цывілізацыі Азіі, Афрыкі і Амерыкі |
|---|---|---|---|
| | **1337—1453 гг.** Стогадовая вайна. **XIV—XV стст.** Ранняе Адраджэнне. | **1380 г.** Кулікоўская бітва. **1385 г.** Крэўская унія. **1389 г.** Бітва на Косавым полі. | **1368 г.** Вызваленне Пекіна кітайскімі паўстанцамі. **Другая палавіна XIV ст.** Стварэнне дзяржавы Цімура. |
| **XV** | **Каля 1445 г.** Вынаходніцтва кнігадрукавання ў Еўропе. **1453 г.** Узяцце Канстанцінопаля туркамі-асманамі. **1479 г.** Аб'яднанне Кастыліі і Арагона ў адзінае каралеўства Іспаніі. **1492 г.** Завяршэнне Рэканкісты. Адкрыццё Калумбам Амерыкі. | **1410 г.** Бітва пры Грунвальдзе. **1480 г.** Канец залежнасці Маскоўскага вялікага княства ад Арды. | **Пачатак XV ст.** Распад дзяржавы Цімура. **XV ст.** Упадак Дэлійскага султаната. Роскві́т дзяржаў інкаў і ацтэкаў у Амерыцы. |

# ЗМЕСТ

## РАЗДЗЕЛ III. ЦЫВІЛІЗАЦЫІ АЗІІ, АФРЫКІ І АМЕРЫКІ

_______________________________________________

(Назва і нумар установы адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Ацэнка вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |


Вучэбнае выданне

**Фядосік** Віктар Анатольевіч
**Цемушаў** Сцяпан Мікалаевіч
**Вінаградава** Зоя Яўгеньеўна і інш.

**ГІСТОРЫЯ СЯРЭДНІХ ВЯКОЎ**

Вучэбны дапаможнік для 6 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

Заг. рэдакцыі *Г. А. Бабаева*. Рэдактар *А. М. Парахневіч*. Мастак вокладкі *Д. Э. Герасімовіч*. Картасхемы *В. М. Цемушава,* *С. М. Цемушава*. Падбор ілюстрацый *А. У. Велько*. Мастацкі рэдактар *У. М. Жук*. Мастацкае афармленне і макет *І. І. Дуброўскай*. Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Л. І. Шайко*. Карэктары *А. П. Тхір, В. С. Бабеня, Г. В. Алешка*.

Падпісана ў друк 08.09.2016. Фармат $70 \times 90^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура школьная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 14,63 + 0,29 форз. Ул.-выд. арк. 9,16 + 0,34 форз. Тыраж 16 950 экз. Заказ .

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Народная асвета» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў 1/2 ад 08.07.2013.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

